Павел ЯКУБОВІЧ

# МЫ ВЫБІРАЕМ ПЕРАБУДОВУ!

Як хутка ў часе змяняюцца палітычныя рэаліі! Колькі сябе памятаю, выбары ва ўсе разнастайныя Саветы праходзілі аднолькава: у войску днявальны бадзёра крычаў: «Пад'ём!» — і мы паўзводна накіроўваліся ў клуб, які быў на гэты час выбарчым участкам. Ад іншых паходаў у культустанову гэты адрозніваўся тым, што мы рухаліся па ваеннаму гарадку бязладна, гуртам. Гэта і было асноўнай адзнакай дэмакратыі — у любы іншы дзень належыла хадзіць выключна строем. Потым, у цывільным жыцці, выбары былі яшчэ больш раскаваныя: маці збірала пашпарты ўсіх дарослых членаў сям'і і заклапочана ішла выконваць «грамадзянскі абавязак», вярталася з торбай апельсінаў. Такім чынам, у дадзеным выпадку выбары былі усё ж такі неардынарным днём.

Праўду кажучы, успомніць, каго і куды абіралі,— хоць забі не магу. Штогод паўтаралася нейкая дзіўная, ірэальная, несур'ёзная гульня з вельмі сур'ёзнай назвай: «Аддадзім галасы за блок камуністаў і беспартыйных». Нягледзячы на цьмянасць азначэння «блок», галасы, тым не менш, аддаваліся без нараканняў і на здзіўленне аднадушна. Ва ўсякім разе, ніжэй за 99,3 працэнта волевыяўленчы ўздым не апускаўся. На душы было аптымістычна, радасна і натхнёна!

Хто застаўся за бар'ерам народнага даверу?

Тыя, хто шчыра лічыў, што народная любоў даецца ў дадатак да абабітых дэрматынам кіраўніцкіх дзвярэй.

Хто перамог?

Той, хто змог даказаць, што слова таксама ёсць справа.

Вядома, не будзем глядзець на вынікі выбараў праз ружовыя акуляры. Віцязі застойных часоў знайшлі зашмат магчымасцей, каб зрабіць сабе палёгку напярэдадні выбараў. Нехта з'ехаў далей, у правінцыю, дзе да гэтага часу ціха дрэмле грамадская свядомасць; нехта змог, абапіраючыся на апарат, адціснуць задоўга да фінішу небяспечных сапернікаў; нехта балаціраваўся паводле спісаў дзіўных арганізацый накшталт таварыства філатэлістаў. Шкада, што для кіруючага філатэліста знайшлося месца сярод народных дэпутатаў, а для іншых, магчыма, не менш годных, яно было надзейна перакрыта штучна ўзведзеным плотам.

І ўсё ж 26 сакавіка перамагла перабудова!

Са з'яўленнем у Крамлі такіх людзей, як Б. Ельцын, А. Сахараў, В. Быкаў, А. Сабчак, меней будзе «аднадушша» ў нашым парламенце, затое спыніцца тая законатворчасць, што сёння выклікае крытыку і абурэнне, і не паўторацца трагедыі накшталт афганскай. Мы галасавалі за гэта!

Вось галоўны ўрок 26 сакавіка!

І яшчэ. Неафіты ад вялікай палітыкі лічаць, што ў сувязі з відавочным правалам некаторых партыйных функцыянераў КПСС страціла аўтарытэт. Лухта! Я глыбока перакананы, што калі б у Мінску балаціраваўся член партыі М. С. Гарбачоў, ён перамог бы з абсалютнай большасцю галасоў. Да таго ж, у дадзеным выпадку традыцыйныя 99,3 працэнта былі б рэальныя. Мы верым у партыю, мы верым у перабудову!







Яўген СКУРАТОВІЧ (фота)

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

КРЫНІЦА

№ 7 1989

ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС ЦК ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года

Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

Рэдакцыйная калегія:
Генадзь БУРАЎКІН
Аляксей ДУДАРАЎ
Леанід ЕКЕЛЬ (намеснік галоўнага рэдактара)
Міхась КАЦЮШЭНКА (першы намеснік галоўнага рэдактара)
Уладзімір ЛАБУНОЎ
Міхась ПАДГАЙНЫ
Аляксей СКАКУН
Мікалай ЧАРГІНЕЦ
Павел ЯКУБОВІЧ

Мастацкі рэдактар
Сяргей ФІЛІПАЎ
Тэхнічны рэдактар
Марына МАЛЕЦ

Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71, 36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.05.89.
Падпісана да друку 20.06.89.
АТ 06827.
Фармат 60×90 1/8. Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 5,5. Ум. фарб.-адб. 16. Ул.-выд. арк. 7,9. Тыраж 51 050 экз.
Зак. 221. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79

На першай старонцы вокладкі — плакат мастакоў Аляксандра НАВАЖЫЛАВА і Руслана НАЙДЗЕНА.

© «Крыніца», 1989

Фота Ігара САЎЧАНКІ















ЛЮСТРАНАЯ ЗАЛА

## УСЁ МОГУЦЬ КАРАЛІ, або ТАНЦЫ НА ЛЕСВІЦЫ

Яшчэ зусім нядаўна на сустрэчах з камсамольскімі работнікамі, на сходах і мітынгах моладзь патрабавала: «Дайце нам магчымасць зарабіць грошы! Зрабіце вечарам танцы!» Ці ж не праўда, усё гэта выдае на старажытнае — хлеба і відовішчаў!

Пытанне прадастаўлення падлеткам працы ў вольны ад вучобы час ужо зрушылася з мёртвае кропкі. А дыскатэкі праводзяцца амаль што ў кожным кінатэатры. Аднак на іх ходзіць, ну калі не трэць мінскае моладзі, дык, напэўна, палова. Палова, бо другая... баіцца!

У часопісе быў надрукаваны ліст Станіслава Мяжэвіча. Нагадаю некалькі радкоў: «...А што робіцца на дыскатэках ДК аўтазавода, камвольнага камбіната, пры кінатэатры «Піянер», у кафэ «Паўднёвы Захад»? Чаму там пануюць «асноўныя» і «каралі» — людзі жорсткія, грубыя, чэрствыя (у іх заўсёды знойдзецца знаёмы з месцаў «не такіх аддаленых»), а часта ў пашане на дыскатэках людзі, на сумленні ў якіх не адно злачынства...

На кожнай дыскатэцы ёсць свая «мафія» — чалавек 20—30—40,— а калі ім хто не спадабаецца, дык я яму не зайздрошчу...

А калі каму-небудзь спадабалася дзяўчынка, кажуць: «Сёння пойдзеш са мною».

Гэты ліст мяне, прызнаюся, закрануў, і ў першую чаргу таму, што у ім згадваецца Палац культуры і тэхнікі аўтазавода. Мне, як карэспандэнту «Автозаводца», які нядаўна прыйшоў у рэдакцыю шматтыражкі, неабходна было высветліць, ці праўда, што на дыскатэках у ДК такія кепскія справы.

І вось у адзін з выхадных я прыйшла на вечар. Першае, у чым пераканалася, гэта тое, што найбольш жорсткія на танцах бываюць дзяўчаты. Такая нічым не вылучаецца сярод сабе падобных (пра такіх трапна кажуць — дванаццаць на тузін) — ярка расфарбаваная, у звышкароткай спадніцы, яна шчаслівая. Яе запрасіў на танец «кароль»!.. «Каліф на гадзіну»... І пакуль улада ў яе «руках», яна кіруе балем. У кудлатай галаве наваяўленай «каралевы» нараджаюцца злосныя планы барацьбы з непажаданымі саперніцамі. За ўвасабленне гэтых планаў у жыццё бяруцца вернападданыя. Я была сведкаю падобнае расправы: пяцёра «асноўных» лупцавалі дзвюх дзяўчынак-падлеткаў. Тыя заліваліся слязьмі. Міма праходзілі людзі, у тым ліку ваенныя. І толькі двое «афганцаў» заступіліся за дзяўчынак.

Яшчэ адно назіранне. Танцпляцоўка нечым нагадвае сцэну тэатра: вельмі ўжо хутка мяняюцца на ёй дэкарацыі. Яна ператвараецца то ў поле бітвы, дзе сценка на сценку ідуць «чыжыкі» на «шарыкаў», то ў своеасаблівую барахолку, дзе прадаецца ўсё, што хочаш.

І на гэта часта абыякава пазіраюць камсамольскія работнікі, супрацоўнікі міліцыі і іншыя супрацоўнікі. А «каралі» і «каралевы», з інтрыгуючай усмешкаю на твары, расказваюць — у залежнасці ад акалічнасцей — пра усемагутных знаёмых у органах ці пра не менш (калі не больш) усемагутных знаёмых з «зоны».

Адразу хачу агаварыцца: пераканаваная, што закрываць дыскатэкі не варта — гэта не выйсце.

Ну а тое, што ў нас ёсць дыскатэкі для «белых» і «чорных», для «каралёў» і «правадыроў»,— ненармальна. Сёння ў ДК закрытае мерапрыемства (уваход па запрашальных білетах), заўтра — мерапрыемства камерцыйнае (для вырашэння фінансавых праблем Палаца).

Яшчэ адзін прыклад: 23 кастрычніка ў ДКіТ МАЗа адбыўся вечар заводскай моладзі, прысвечаны 70-годдзю ВЛКСМ. У праграме: КВЗ, канцэрт рок-гуртоў, выступленне тэатра сатыры «Хрыстафор». Праграма цікавая.

Ля ўвахода ў Палац стаялі вахцёр у сіняй уніформе і чатыры шыракаплечыя хлопцы ў строгіх касцюмах, пры гальштуках, з камсамольскімі значкамі і чырвонымі павязкамі. З'явілася міліцыя, часты госць у гэтых сценах. На вуліцы сталі збірацца падлеткі, у якіх не было запрашальнага білета.

«Вось прыйшла гвардыя! Толькі які вечар адпачынку, яны тут як тут! Вы іх, хлопчыкі, не прапускайце! Яны зараз прахожых упрошваць стануць, каб правялі!» — нядобразычліва скасавурылася вахцёрка ў бок хлопчыкаў з расфарбаванымі чупрынамі і дзяўчынак з ненатуральным колерам павек. «Не хвалюйся, бабуля! Усё будзе ў парадку!» — супакоілі яе камсамольцы.

Нібыта ўсё правільна, няма білета — адпачывай на вуліцы! Ёсць білет — калі ласка. Але вось чаго я не разумею: як могуць замяніць заводскай моладзі «беспрытульныя» падлеткі? Я размаўляла з імі, у гэтым натоўпе на лесвіцы было шмат навучэнцаў падшэфных заводу школ і ПТВ. І падумала, што высокая місія нашых шаноўных камсамольскіх работнікаў любога рангу — зусім не ў адседжванні на школьных і «пэтэвушных» сходах у якасці гасцей, а ў непасрэдным кантакце з моладдзю — усюды, у тым ліку і на дыскатэцы. Чаго вартыя пустыя заклікі: «Прыходзьце да нас на завод!» Моладзь, якую мы так чакаем,— вось яна: на лесвіцы перад зачыненымі дзвярыма. Можа, на гэтым вечары, паглядзеўшы на дружны рабочы калектыў, «пабалеўшы» за рабочую каманду, пагаварыўшы з хлопцамі, як кажуць, ад станка, хто-небудзь з гэтых падлеткаў з радасцю пайшоў бы на завод. Змену рыхтаваць трэба, і не толькі на санкцыянірaваных мітынгах, не толькі ў кабінетах прафарыентацыі і ў час экскурсій па цэхах прадпрыемстваў.

Напэўна, няблага было б камсамольцам пабываць на «камерцыйных» танцах, а потым запрасіць падлеткаў на вечар адпачынку аўтазаводцаў.

І, вядома, на гэтым кантакт не павінен заканчвацца. Гэта толькі першая прыступка доўгае лесвіцы жыцця. Вельмі важна, хто будзе ісці з табою побач: сябра ці абыякавы назіральнік. І абавязкова трэба памятаць, што лесвіца можа весці ў нікуды...

Гэта праблема не аднаго аўтазавода. Вы са мною згодныя?

**Вераніка ТРЫЗНА**

# ПРА БЮРАКРАТЫЗМ

**Анатоль БУТЭНКА,**
**доктар філасофскіх навук,**
**прафесар**



## 1. БЮРАКРАТЫЯ І БЮРАКРАТЫЗМ ЯК ПРАДУКТ ГРАМАДСКАГА РАЗВІЦЦЯ

Існуюць дзве найбольш шырока вядомыя трактоўкі бюракратыі — Карла Маркса і Макса Вебера. Абедзве яны разглядаюць бюракратыю як натуральны прадукт грамадскага развіцця, грамадскага падзелу працы, як вынік свядомага кіравання тымі альбо іншымі бакамі складанага сацыяльнага развіцця. Тым не менш у сваёй сутнасці гэтыя дзве трактоўкі бюракратыі і бюракратызму прынцыпова адрозніваюцца.

Для Карла Маркса бюракратыя і бюракратызм на ўсіх этапах гістарычнага развіцця — з'ява негатыўная, якая тармозіць грамадскі прагрэс. У процілегласць гэтаму Макс Вебер, атаясаміўшы бюракратыю з кіраўнікамі, разглядаў яе пазітыўна як неабходную форму ўсякай сацыяльнай арганізацыі.

Карл Маркс разглядаў узнікненне і існаванне бюракратыі і бюракратызму на агульным фоне грамадскага падзелу працы, развіцця элементаў свядомасці ў грамадскім прагрэсе. К. Маркс і Ф. Энгельс лічылі, што карані бюракратызму ідуць у глыбіні гісторыі. Грамадства шляхам простага падзелу працы стварыла органы для абароны сваіх агульных інтарэсаў. Але неўзабаве яно апынулася ў такім становішчы, што гэтыя органы, і галоўны сярод іх — дзяржаўная ўлада, пачалі служыць сваім асабістым інтарэсам. Са слуг грамадства гэтыя органы ператварыліся ў яго валадароў. Пры выкананні агульных функцый кіравання, патрэбных для жыццядзейнасці грамадства, прызначаныя на гэта людзі стварылі асобную галіну падзелу працы ў грамадстве і тым самым набылі асобыя інтарэсы, якія адрозніваюцца ад інтарэсаў тых, хто іх упаўнаважыў, зрабіліся самастойнымі ў адносінах да іх, а у пэўных умовах могуць стаць над усім грамадствам, маючы перад сабою карыслівыя мэты. У гэтым і ёсць вытокі бюракратызму і бюракратыі.

Сутнасць бюракратызму як сацыяльна-гістарычнай з'явы ўпершыню была выяўлена К. Марксам у яго працах першай паловы 40-х гадоў мінулага стагоддзя, і ў першую чаргу ў працы «Крытыка гегелеўскай філасофіі права». Гэта быў час фарміравання навуковага сацыялізму. І хоць К. Маркс крытыкаваў бюракратызм у буржуазным грамадстве, а часткова таксама і ў феадальным, многія палажэнні захоўваюць сваё значэнне і для крытыкі бюракратызму пра сацыялізме. Ужо тады К. Маркс глыбей за іншых даследчыкаў падышоў да характарыстыкі сутнасці бюракратызму і яго самых важных сацыяльных рысаў. У чым гэтая сутнасць?

**Бюракратызм** — гэта сацыяльнае зло, якое паразітуе на грамадскім падзеле кіравання і выканання, на рэальнай супярэчнасці паміж кіраўнікамі і тымі, кім кіруюць; **бюракратыя** як пэўны карпаратыўны пласт кіраўнікоў спрабуе падначаліць гэтую супярэчнасць сваім карпаратыўным інтарэсам на шкоду інтарэсам грамадскага развіцця. Пры засіллі бюракратыі, адзначаў К. Маркс, складаецца своеасаблівы іерархічны тып адносін «як унутры арганізма, так і **паміж ім і кіраваным арганізмам**». У сувязі з гэтым К. Маркс пісаў, што бюракратыя ёсць увасабленне «дзяржаўнага фармалізму», што дух бюракратыі ёсць «фармальны дух дзяржавы», або сапраўдная бяздушнасць дзяржавы. У сваю чаргу У. І. Ленін адзначаў, што менавіта бюракратыя валодае ў эксплуататарскім грамадстве функцыямі ўлады: «Той асаблівы пласт, у руках якога ўлада ў сучасным грамадстве, гэта — бюракратыя». Само становішча кіраўнікоў, адзначаў ён, прыводзіць да таго, што службовыя асобы, якія нават служаць пралетарыяту, «выяўляюць тэндэнцыю да ператварэння ў бюракратаў, г. зн. у прывілеяваных асоб, якія адарваны ад мас і стаяць над масамі. У гэтым сутнасць бюракратызму...»

Паколькі ўсякі бюракрат — гэта кіраўнік, які падпарадкоўвае грамадскую функцыю кіравання сваім эгаістычным мэтам, паколькі ён імкнецца выкарыстаць даверану яму грамадскую функцыю ў карыслівых інтарэсах (нават у тым выпадку, калі гаворка ідзе не пра хабарніцтва і карупцыю, а пра зарплату без адпаведнага выканання абавязкаў), дзейнасць бюракрата ў кіраванні грамадскімі справамі ператвараецца ў адну бачнасць кіравання.

Кожны, хто сутыкаўся з бюракратызмам, заўважаў, што той альбо іншы чыноўнік не выяўляе ніякай асабістай зацікаўленасці ў сутнасці справы (скажам, у сапраўдным вырашэнні жыллёвай праблемы грамадзяніна, які падаў заяву), а, бюракратычна зацягваючы вырашэнне пытання, ніколі не бярэ віну на сябе: ён заўсёды спасылаецца на тую ці іншую інструкцыю, на тыя ці іншыя праблемы кіравання, на літару і дух закона, у выніку чаго нядбайнасць і абыякавасць бюракрата выглядаюць як бяздушнасць самой дзяржавы.

Гэта не выпадкова. Усё ў тым, што справы, якія вырашае ці не вырашае бюракрат, для яго самога не існуюць як практычныя справы. Сапраўдны асабісты інтарэс чыноўніка ў самым справаводстве, незалежна ад яго зместу. Канцыляршчына мае для яго інтарэс менавіта як справаводства. Толькі гэты канцылярскі, фармальны змест справаводства бюракрат лічыць сапраўднай мэтай яго дзейнасці. «Бюракратызм,— адзначаў К. Маркс,— лічыць менавіта сябе канчатковай мэтай дзяржавы. З тае прычыны, што бюракратыя робіць свае «фармальныя» мэты сваім зместам, яна ўсюды ўступае ў канфлікт з «рэальнымі» мэтамі. Яна вымушана таму выдаваць фармальнае за змест, а змест за нешта фармальнае. Дзяржаўныя задачы ператвараюцца ў канцылярскія задачы або канцылярскія задачы — у дзяржаўныя. Бюракратыя ёсць кола, з якога ніхто не можа выскачыць».

Другая характэрная рыса бюракратыі і бюракратызму — адмоўныя адносіны да публічнасці, да ведання масамі рэальнага становішча спраў у грамадстве. І гэта таксама не выпадкова. Бо кіраўнікі ж заклікаваны займацца «агульнымі функцыямі», інакш кажучы, агульнымі пытаннямі жыцця грамадства. А гэта немагчыма без пэўнага ведання, якое ўключае ў сябе неабходную інфармацыю пра стан рэчаў, без іх ацэнкі, пераліку мер, якія намячаюцца, іх выніковасці і г. д. Паколькі бюракратыя імкнецца падпарадкаваць здзяйсненне «агульных функцый» сваім інтарэсам, яна адпаведным чынам ставіцца і да гэтага ведання, да інфармацыі, імкнецца манапалізаваць іх. «Яе (бюракратыі — **А. Б.**) іерархія,— пісаў К. Маркс,— ёсць **іерархія ведання.** Вярхі разлічваюць на ніжэйшыя колы ва ўсім, што датычыцца ведання прыватнасцей; ніжэйшыя ж колы давяраюць вярхам ва ўсім, што датычыцца разумення ўсеагульнага, і, такім чынам, яны ўзаемна ўводзяць адно аднаго ў зман».

Паколькі «веды — сіла», дык, прыстасоўваючы да сваіх карыслівых інтарэсаў грамадскія функцыі па кіраванні, якія яны выконваюць, бюракраты выступаюць як непрыкрытыя праціўнікі інфармаванасці мас і публічнасці ў грамадстве, як ворагі самастойных меркаванняў і «сваіх» думак.

Калі гаварыць пра першае — пра інфармацыю, якая датычыцца агульнага стану рэчаў,— дык бюракраты выдатна разумеюць, што ўсе веды так ці інакш упіраюцца ў інфармацыю, абапіраюцца на яе і вырастаюць з яе, што без інфармацыі немагчымы ніякія (як слушныя, гэтак і няслушныя) меркаванні пра стан рэчаў. Таму бюракраты імкнуцца зрабіць сябе манапольнымі ўладальнікамі такой інфармацыі, імкнуцца максімальна звузіць публічнасць у грамадстве. Бо толькі дзякуючы такому становішчу чыноўнікі і бюракраты ў вачах неінфармаванага грамадства адразу набываюць дадатковую вагу. Не менш важна і тое, што пры манаполіі на інфармацыю памяншаецца магчымасць канкурэнтных рашэнняў, цяжка выявіць бяздарнасць бюракратычных рашэнняў, звужаецца магчымасць крытыкі, зводзіцца да мінімуму верагоднасць негатыўнай ацэнкі дзейнасці бюракратаў. Іерархічная дазіроўка інфармацыі, схаванасць унутраных узаемадзеянняў і таямнічасць, якая акружае прынятце важных рашэнняў,— характэрныя рысы, уласцівыя бюракратыі. «Усеагульны дух бюракратыі,— адзначаў К. Маркс,— ёсць **тайна,** таемнасць. Захаванне гэтай таемнасці забяспечваецца ў яе ўласным асяроддзі яе іерархічнай арганізацыяй, а ў адносінах да знешняга свету — яе замкнутым карпаратыўным характарам. Адкрыты дух дзяржавы, а таксама і дзяржаўнае мысленне ўяўляецца таму бюракратыі здрадай у адносінах да яе тайны».

Калі ж казаць пра другое — пра агульныя меркаванні, думкі і рашэнні, якія датычацца здзяйснення «агульных функцый» па кіраванні ўсім грамадствам,— дык паступова ўкараняецца думка, што такое даступна толькі вузкаму колу асоб, спецыяльна абраных для гэтай справы. Бюракратыя не толькі пашырае і падтрымлівае, але і ўкараняе перакананні, якія ўзвялічваюць чыноўнікаў, бюракратаў, кіраўнікоў як адзіных людзей, здольных цвяроза і па-дзяржаўнаму ацаніць агульнае становішча, узаемаадносіны цэлага і яго частак. І калі хто-небудзь з ніжэйшых надумаецца ўварвацца ў гэтую сферу, надумае ператварыць «беды прыватных асоб у дзяржаўную бяду, ухіленне якой з'яўляецца абавязкам дзяржавы перад **самой сабой**», дык, як пісаў К. Маркс, само такое «сцвярджэнне кіраваных здаецца непрыстойным учынкам у адносінах да кіраўнікоў. Кіраўнікі, маўляў, могуць лепей з усіх ацаніць, у якой меры тая ці іншая небяспека пагражае дзяржаўнаму дабру, і за імі трэба загадзя прызнаць больш глыбокае разуменне ўзаемаадносін цэлага і яго частак, чым тое, якое ўласцівае самім часткам. Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што асобная асоба і нават многія асобныя асобы не могуць выдаваць свой голас за голас народа, наадварот, тое асвятленне пытання, якое яны даюць, заўсёды мае характар **прыватнай** скаргі».

К. Маркс у сваіх даследаваннях бюракратыі падкрэсліваў, што для бюракратыі галоўнае не ў тым, **што** га-

ворыцца, а **кім** гаворыцца, для яе важныя не аргументы і доказы, якія абгрунтоўваюць рашэнні, а чыны і аўтарытэты, якія стаяць за імі і якія сведчаць сабою пра ступень аўтарытэтнасці, а тым самым і аб правільнасці рашэнняў. «**Аўтарытэт**,— пісаў ён,— ёсць таму прынцып яе ведання, і абагаўленне аўтарытэту ёсць яе спосаб мыслення».

Такія найбольш важныя агульныя рысы бюракратыі і бюракратызму.

## 2. СПЕЦЫФІКА БЮРАКРАТЫІ І БЮРАКРАТЫЗМУ ПРЫ САЦЫЯЛІЗМЕ

Пры наяўнасці агульных рыс, абумоўленых самой сутнасцю бюракратызму, прыродай яго сацыяльных каранёў і грамадскіх функцый, якія ім выконваюцца, праявы бюракратызму маюць і сваю спецыфіку, абумоўленую асаблівасцямі яго эвалюцыі ў тым ці іншым грамадстве.

Сёння першаступеннае значэнне мае вывучэнне бюракратыі і бюракратызму ў ходзе будаўніцтва і развіцця сацыялістычнага грамадства. К. Маркс, Ф. Энгельс, У. І. Ленін вучылі працоўных: пакуль ў грамадстве ёсць класы, палітыка і дзяржава, пакуль есць падзел на тых, хто кіруе і кім кіруюць, рабочаму класу, усім працоўным даводзіцца весці настойлівую барацьбу супроць бюракратыі і бюракратызму.

Сацыялістычная рэвалюцыя не кладзе канец палітычнаму развіццю, разам з ёю не знікае дзяржава. Таму і пасля такой рэвалюцыі і устанаўлення дыктатуры пралетарыяту, як вучылі К. Маркс і Ф. Энгельс, рабочаму класу, працоўным давядзецца пэўны час і далей змагацца за сваё поўнае вызваленне у дзяржаўна-палітычных формах, пры захаванні дзялення грамадства на тых, хто кіруе і кім кіруюць, а значыцца — пры наяўнасці небяспекі бюракратыі і бюракратызму.

Дадамо ад сябе: Маркс, Энгельс і Ленін, як паказала гісторыя, недаацанілі гэтай небяспекі. Чаму? Канстатуючы пераход грамадства з царства неабходнасці ў царства свабоды, дзе здзяйсняецца ужо **свядомае** развіццё на аснове пазнанай неабходнасці, заснавальнікі навуковага камунізму не ўбачылі новых небяспек, якія пагражаюць грамадству з боку тых, хто будзе пазнаваць гэтую неабходнасць і кіраваць грамадскім развіццём у адпаведнасці з атрыманым веданнем.

Яны не задалі сабе пытання: а ці не будзе гэты найвялікшы гістарычны пералом у грамадскім прагрэсе — пераход **ад стыхійнага** развіцця **да свядомага** — разам з тым пераходам да такога развіцця, дзе новыя кіраўнікі, якія ўявілі сабе, быццам ведаюць усе таямніцы грамадскага жыцця, паспрабуюць забяспечыць сваё непадзельнае панаванне, падмінаючы астатніх, і выкарыстаюць сваё становішча і свой аўтарытэт на тое, каб на гэтай падставе забяспечыць сабе прывілеі і перавагі ў размеркаванні матэрыяльных і духоўных даброт?

Не задаўшы сабе гэтага пытання, Маркс, Энгельс і Ленін не задумваліся і пра тыя сродкі, якія павінна ўжыць грамадства, каб засцерагчыся ад новых уладароў і дыктатараў. І ўсе ж пры ўсёй недаацэнцы Марксам, Энгельсам і Леніным гэтай небяспекі для чалавецтва, якая прывяла да панавання сталінізму у Савецкім Саюзе і мааізму ў Кітаі, не кажучы пра іншыя менш буйныя дэфармацыі сацыялістычнага развіцця, заснавальнікі навуковага сацыялізму зрабілі шэраг сур'езных высноў, сэнс якіх ў тым, што з першых крокаў новай улады трэба весці справу да развіцця сапраўды дэмакратычных пачаткаў, да станаўлення і развіцця самакіравання працоўных, да такога стану грамадства, калі пераадольваецца супярэчнасць паміж кіраўнікамі і тымі, кім кіруюць, а тым самым памяншаецца небяспека бюракратыі і бюракратызму.

Падагульняючы вопыт Парыжскай камуны, К. Маркс адзначаў, што яна «была рэвалюцыяй не супроць той ці іншай формы дзяржаўнай улады... Яна была рэвалюцыяй супроць самой **дзяржавы**, гэтага **звышнатуральнага выкідыша** грамадства...»

К. Маркс лічыў: «**Камуна** — гэта зваротнае паглынанне дзяржаўнай улады грамадствам, калі на месца сіл, якія падпарадкоўваюць і занявольваюць грамадства, становіцца яго ўласныя жывыя сілы». Ён лічыў, што, калі б Камуна перамагла і ўмацавалася, «камунальнае ўладкаванне вярнула б грамадскаму целу ўсе тыя сілы, якія да гэтага часу пажырала гэтая паразітычная нарасць, «дзяржава», што корміцца за кошт грамадства і затрымлівае яго свабодны рух».

Улічваючы магчымасць залішняга адасаблення апарату кіравання пасля перамогі рэвалюцыі, заснавальнікі навуковага сацыялізму лічылі, што рабочаму класу трэба з самага пачатку прымаць меры супроць такога аддзялення функцый выканання, калі апарат ставіцца над грамадствам. Гістарычная заслуга Парыжскай камуны, пісаў Ф. Энгельс, у тым, што «супроць гэтага непазбежнага ва ўсіх існаваўшых да гэтага часу дзяржавах ператварэння дзяржавы і органаў дзяржавы са слуг грамадства ў паноў над грамадствам Камуна ўжыла два беспамылковыя сродкі. Па-першае, яна прызначала на пасады ў органах кіравання, у судзе, у народнай асвеце асоб, выбраных усеагульным выбарчым правам, і пры гэтым увяла права адклікаць гэтых выбраных у любы час паводле рашэння іх выбаршчыкаў. А, падругое, яна плаціла ўсім службоўцам, як вышэйшым, гэтак і ніжэйшым, толькі такую плату, якую атрымлівалі іншыя рабочыя... Такім чынам была створана надзейная перашкода пагоні за цёплымі месцамі і кар'ерызмам...»

Пасля перамогі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якая паставіла на парадак дня практычны пераход ад капіталізму да сацыялізму, перад У. І. Леніным і ўсёй партыяй на ўвесь рост паўстала задача пераадолення такіх непажаданых з'яў у дзяржаўна-палітычнай сферы, якія маглі адмоўна паўплываць на гэты працэс. Вызначальная рыса ленінскага стылю барацьбы з бюракратызмам — сумленны і праўдзівы зварот да мас, падкрэсліванне таго, што партыя гэтага зла не хавае, што «мы адкрыта гаворым, не баючыся прызнаць зла, а хочучы выкрыць яго, выставіць на ганьбу, выклікаць думку і волю, энергію, дзеянне для барацьбы са злом...» Улічваючы велізарную ролю свядомага кіравання ў ходзе сацыялістычнага будаўніцтва, У. І. Ленін з першых крокаў Савецкай улады звяртаў увагу на небяспеку бюракратызму, вылучаў шэраг этапаў барацьбы з ім.

Першы этап, паводле яго слоў, ахоплівае першыя месяцы савецкай улады, калі пасля таго, як у ходзе Кастрычніцкай рэвалюцыі быў разбіты стары бюракратычны апарат зверху данізу, у краіне яшчэ не адчувалася небяспекі бюракратызму.

Другі этап адносіцца да пачатку 1919 г., калі паўтара года функцыяніравання апарату прымусілі ў прынятай на VIII з'ездзе партыі Праграме РКП(б) адкрыта заявіць пра **«частковае адраджэнне** бюракратызму ўнутры савецкага ладу».

Трэці этап барацьбы з бюракратызмам У. І. Ленін адносіць да 1921 г., калі не толькі вопыт, але і шматпланавае вывучэнне праяў бюракратызму, яго тармазнога дзеяння ў розных сферах грамадскага жыцця дазволілі падвесці вынікі спрэчак, «вельмі цесна звязаных з аналізам бюракратызму», і прымусілі сказаць: «...Мы бачым гэтае **зло** яшчэ ясней, яшчэ больш выразна, яшчэ больш грозна перад сабой».

Паглыбляючы вывучэнне бюракратызму, У. І. Ленін выявіў яго карані, пісаў пра тое, што «бюракратызм, як спадчына «асады», як надбудова над распыленасцю і прыгнечанасцю дробнага вытворцы, выявіў сябе вельмі ясна».

**Заканчэнне будзе**





Фота Аляксандра УГЛЯНІЦЫ

**Не, няпраўда, ён не такі, як я, як іншыя. Гэта толькі першыя тыдні я працягваў лічыць наглядчыкаў, следчых такімі ж людзьмі... Потым у мяне гэта прайшло. Імгненна.**

**...я зразумеў адразу і назаўсёды, што яны не такія, як мы. Не такія, якімі мы былі, і ўжо зусім не такія, якія мы цяпер і якімі мы будзем. З гэтымі нельга ўступаць у чалавечыя адносіны, нельга ставіцца да іх, яны людзьмі толькі прыкідваюцца...**

Л. РАЗГОН, «Непрыдуманае»

**Яны ж нават не існаванне, а так, «нежыть».**

**Ю. ДАМБРОЎСКІ, «Факультэт непатрэбных рэчаў»**

Іхнія ахвяры рэдка калі згадваюць хоць якісьці чалавечы ўчынак з іхняга боку, хоць якоесьці чалавечае слова. Гэтага было няшмат. Не лічыць іх тады за людзей было больш бяспечна: гэта аберагала ад смяротных памылак, непатрэбных надзей.

Ці не больш бяспечна нам сёння ставіцца да іх так? Не лічыць за людзей — і ўсё тут. І нічога не ведаць ні пра тое, што рухала імі тады, ні пра тое, як ацэньваюць яны сваё мінулае сёння. Ды мы, уласна кажучы, нічога і не ведаем. Мемуараў гэтыя людзі не пакідалі, наадварот, старанна знішчалі ўсе сляды. Відаць, усё-такі маральнае пачуццё народа стрымлівала іх, прымушала хавацца і ў гады крывавага разгулу, і цяпер.

Калі лік ахвярам ідзе на мільёны, дык і катаў, зразумела, нямала было. Пякельны сталінскі канвеер штампаваў іх бесперапынна. Яны хвалямі ішлі на змену адзін аднаму, пакорліва знішчаючы не толькі невінаватых, але і саміх сябе, калі гэта здавалася патрэбным гаспадару. Ягоны рэжым ведаў рэцэпт такога вырабу. Людзей — у нелюдзей. Жывых — у «нежить». І можа, толькі зразумеўшы, разгадаўшы гэты страшны рэцэпт ператварэння, мы зможам ўратаваць нашае грамадства ад паўтарэння падобнага? Яны ж людзьмі нарадзіліся, з людзей выйшлі...

Хто ж усё-такі былі яны? Тыя, чыімі рукамі чыніліся страшныя злачынствы сталінскага рэжыму супраць уласнага народа? Тыя, хто складаў спісы ахвяр, ставіў на канвеер катавання і мучыў уласнымі рукамі безабаронных жанчын, пасылаў на пакуты і смерць дзяцей? Тыя, хто лічыў гэта працаю?

І што думаюць пра гэтую працу яны самі цяпер? Што ў іх сёння робіцца ў душы? Як паўплываў на іх час?

Было ў мяне ў розныя часы некалькі сустрэч з такімі людзьмі, але... Дамагчыся адкрытасці не ўдавалася. Яны ўмелі захоўваць сваю тайну. Хоць і не манілі, што абыякава ставяцца да суда нашчадкаў, і верылі ў ягоную справядлівасць і непрадузятасць. Але пры гэтым маўчалі.

І вось гэты ліст. Ён прыйшоў у рэдакцыю пасля публікацыі матэрыялу пра лёсы дзвюх жанчын, якія прайшлі праз катавальні НКУС.

**Прачытаў успаміны цяпер нябожчыцы Васільевай, якой прыйшлося зведаць усе нялёгкія выпрабаванні, учыненыя ім намі, работнікамі НКУС. Прыведзены гісторыі пакут дзвюх жанчын, гісторыі, пасля прачытання якіх здрыгануцца сэрцы ад беззаконня тых гадоў. Учынены гэтыя пакуты намі, радавымі выканаўцамі, і аўтар не адносіць іх на рахунак тав. Сталіна, як гэта ўвогуле цяпер прынята.**

Перад намі ліст «радавога выканаўцы», таго, чыімі рукамі ўсё ажыццяўлялася, каго ахвярам было больш бяспечна лічыць «нечалавекам»... Ліст вялікі, грунтоўны, нетаропкі, падобны на споведзь. Аўтар прама называе ўсё сваімі імёнамі: «Беззаконні, ад якіх здрыганycца сэрцы...» Як бачыце, ён не хаваецца за словы, якія ўжо надакучылі ў прамовах і пасланнях абаронцаў Сталіна. Тут няма ні «памылак», ні «эксцэсаў», ні «перагібаў на месцах»... Тут усё бясстрашна ў лоб!

Пакаянне? Самаапраўданне?

**У публікацыі гаворыцца, што хутка кніга ўспамінаў Васільевай выйдзе ў свет. Тады людзі будуць чытаць, ну і, вядома, будуць жахацца: якія мы і наш дарагі, любімы друг**

**народа тав. Сталін — бякі! Так, цяпер мы бякі, аднак нас не пакаралі, мы атрымліваем пенсію — і нядрэнную — і жывём, дажываючы свой век без злосці на людзей. І некаторыя, магчыма, шкадуюць аб тым імпэце, з якім выконвалі тое, што патрабавалі ад нас партыя, тав. Яжоў і тав. Сталін.**

Не, мяркуючы па ўсім, гэта не пакаянне. Не выдае на тое. Але што тады? І навошта?

Божа, як дзіўна ўсё гэта —«дажываючы без злосці на людзей»! А гэта —«магчыма, шкадуюць аб тым імпэце»!.. Магчыма. А ўся гэтая інтанацыя, увесь гэты тон, гэтыя «бякі», поўныя насмешкі і паблажлівасці...

Але што ж далей?

**У нас таксама быў нялёгкі хлеб! Нас таксама ледзь не ставілі да сценкі і не прасілі падпісваць пратаколы допытаў і не давалі дзесяць гадоў пасялення, а давалі толькі кулю. Больш за 50 тысяч супрацоўнікаў НКУС паплаціліся жыццём за тое, што ці то перастараліся ў выкананні планаў начальства, ці то, наадварот, не выявілі патрэбнага імпэту — дзе ж тут цяпер разбярэшся! Усе мы былі члены партыі. Беспартыйных сярод нас не было! І вось цяпер многія чарняць нас як хочуць і дзе хочуць, не так на карысць справе будаўніцтва сацыялізму, як на карысць і радасць суседзям-ворагам! Вядома, пад сцягам дэмакратыі і галоснасці! Ну, а калі дэмакратыя і галоснасць, дык дайце выказацца і нам!**

Што ж, гатовыя выслухаць. Хаця, калі зноў усё звядзецца да размовы аб «суседзях-ворагах», аб «шкодніках», «пільнасці» і «абвастрэнні класавай барацьбы па меры знікнення класаў»...

**Навошта вы хапаецеся за тое, што, відавочна, не вашага розуму справа! Хіба няма больш патрэбных краіне спраў! Ці не было XX з'езда партыі, які па свежых слядах ужо вынес рашэнне па гэтай справе! І трэба сказаць, даволі кампетэнтна, з усёй праўдзівасцю і рашучасцю асудзіўшы культ асобы Сталіна і ягоныя вынікі. Ці рашэнні такога аўтарытэтнага органа, як з'езд партыі, для вас нічога не значаць!**

**Ці вы тады пешшу пад стол хадзілі і рашэнняў гэтага з'езда не чыталі! І таму хочаце сваю некампетэнтнасць кампенсаваць якімі-небудзь успамінамі! Дык я вам скажу, што больш поўна пра пакуты ў нашых лагерах вы лепш чытайце ў Салжаніцына ў ягоным «Архіпелагу ГУЛАГу». Вось там вы знойдзеце найпадрабязнейшае апісанне дзеянняў нашых калег па НКУС, якія правадзіліся ў лагерах і месцах зняволення. Мы за іх не адказваем! Нашай справаю было «прапусціць праз канвеер», дамагчыся прызнання, а там, як іх будуць утрымліваць у лагерах,— справа не нашая. Мы там не ўказчыкі, няхай хоць там ім курортны рэжым наладзяць!**

Ну вось і не вытрымаў прынятага насмешліва-пагардлівага тону. Куды яе схаваеш — звычку раўці ды стукаць кулаком па стале? Звычку запалохаць гучнымі словамі, збіць з панталыку дэмагагічнымі вывертамі? Але ўсё-такі заўважым, аўтар і тут не ідэалізуе ні сваёй работы, ні работы калег па лагерах і турмах. Ён ведае ёй цану.

Скажам адразу, крык быў нядоўгі. Відаць, трэба было зняць напружанне, што так і душыла, а зняў — можна і пажартаваць.

**Але ж наладжвалі і курортны рэжым! Не верыце! Вось вам прыклад.**

**Тав. Сталін прыйшоў у адзін тэатр на спектакль (а ён туды, вядома, не дужа часта хадзіў), чакаючы ўбачыць любімага артыста, а таго няма. Як растлумачыў дырэктар тэатра, артыст лячыўся за мяжою на курорце. Тав. Сталін дакорліва сказаў дырэктару:**

**— Што ж вы мне не сказалі, я паслаў бы яго на лепшы наш курорт!**

**І што вы думаеце! Гэтага артыста вярнулі і паслалі «на курорт»... у Магадан. Ён там і цяпер.**

Так і бачыцца замілаваная, адданая ўсмешка, поўная шчырага захаплення «пачуццём гумару» вялікага настаўніка. Такі зразумелы, даступны гумар. Блізкі розуму і сэрцу. Недарма следам прызнанне:

**Такі быў «гаспадар», такія былі і мы, выканаўцы ягонай волі.**

Але жарты жартамі, а гаворка ідзе аб рэчах больш чым сур'ёзных. І аўтар мае ўласную думку аб прычынах трагедыі, якую перажыў народ.

**Што да пытання аб сталінскіх рэпрэсіях, трэба сказаць, што на тое была не толькі воля аднаго Сталіна. Многія лічаць, што вінаваты ягоны «злы геній», іншыя згадваюць нейкую хваробу ці прыроднае зладзейства. На самай справе ўсе тыя рэпрэсіі маюць свае гістарычныя асновы і прадвызначаны былі самой гісторыяй нашай рэвалюцыі і далейшым будаўніцтвам сацыялізму.**

**Так, гібель і знішчэнне Троцкага, Бухарына, Зіноўева, Каменева былі прадвызначаны, як гэтаму нехта здзівіцца, раней.**

**Рана ці позна ім прыйшлося б быць пакаранымі, і гэта ў свой час зрабіў Сталін. Усе яны змагаліся не толькі з Леніным, але і працягвалі змагацца са Сталіным, супраць яго было шмат змоў, мэтаю якіх было адсунуць убок Сталіна. Але тав. Сталін не стаў чакаць, пакуль яго перамесцяць. У мэтах захавання бачнасці адзінства партыі пра гэта шмат не гаварылася. Гэта трэба было ўзяць пад увагу, калі ставіцца пытанне: чаму былі знішчаны «бліжэйшыя» паплечнікі Леніна! Менавіта таму, што яны хацелі выканаць волю Леніна.**

Ці ёсць у гэтым нагрувашчванні слоў свая логіка? Несумненна. І ў ёй трэба разабрацца. Яе варта засвоіць, бо за ёю — найсур'ёзнейшыя з'явы. Але нельга не адзначыць адразу яе поўную і непрыхаваную супярэчлівасць ленінскім прынцыпам палітычнай барацьбы, адносін з таварышамі па партыі. Да гэтай логікі мы яшчэ вернемся. А пакуль... Пакуль што аўтар ліста не збіраецца заканчваць выклад свайго падыходу да падзей тых гадоў. Яму ёсць яшчэ што сказаць.

**Другая частка пытання пра масавыя рэпрэсіі таго часу датычыць асоб, якія не маюць дачынення да ўжо разгледжанай катэгорыі ахвяр. (Гаворка пойдзе не пра тых, хто мог бы быць палітычным праціўнікам Сталіна.) З імі ўсё робіцца зразумелым, калі мы прызнаём, што на тое была воля ЦК нашай партыі. У чым выяўлялася гэтая воля і на чым яна засноўвалася!**

**Трэба было мець танную рабочую сілу для асваення бяскрайніх прастораў Сібіры, Далёкага Усходу і Поўначы. Гэта былі такія мясціны, у якія ніхто ні за якія грошы на работу не паехаў бы. Асваенне гэтых мясцін было жыццёва неабходнае, а грошай на тое, каб прыцягнуць туды рабочую сілу, як ёсць цяпер, тады не было. Грошай не было, пазык не давалі, пра сумесныя прадпрыемствы з укладаннем замежнага капіталу і думаць не думалі. Што заставалася рабіць! Трэба было накіраваць туды людзей сілаю.**

**Вось і быў створаны магутны апарат, які накіраваў у гэтыя мясціны сотні тысяч — не!— мільёны нашых грамадзян!**

**Дурні і цяпер яшчэ кажуць: бязвінных людзей! Прычым тут гэта — вінаватых ці бязвінных! Так было трэба! Мы заўсёды жылі пад ціскам гэтага магутнага «трэба». Раз трэба, значыцца, трэба.**

**Творчы энтузіязм мас, якія здзейснілі рэвалюцыю, выдыхнуўся да канца нэпа, і трэба было прымусіць людзей ехаць, пакінуць родныя мясціны дзеля гэтага праклятага «трэба»! І прымушалі! Пра якую законнасць тут магла ісці гаворка!**

**Шкадаваць людзей! «Трэба» ніколі нікога не шкадавала і пра законнасць альбо незаконнасць не заікалася. Людзі, чалавечае «я» былі заўсёды самым танным і даступным сродкам для ўладароў, калі яны нешта хацелі зрабіць. Нашыя ўладары не бачылі другога шляху, апроч стварэння шматмільённай масы бясплатных будаўнікоў сацыялізму.**

**Гэтая задача і была выканана!**

**І не трэба ахайваць Сталіна. Ну хоць бы таму, што гэта ўжо нічога не зменіць. Тыя гады не выкрасліш з нашай гісторыі, яны самыя горкія і для тых, хто трапіў у гэты млын, і для тых, хто круціў гэты млын.**

**Кажуць, што тое, што мы пабудавалі, можна было пабудаваць інакш. Магчыма. Троцкі, напрыклад, прапаноўваў стварыць працоўныя арміі па тыпу воінскіх: з васемнаццаці да дваццаці пяці гадоў адпрацаваць у працоўнай арміі, маючы толькі харчаванне і абмундзіраванне ў якасці кампенсацыі, а потым, пасля сямі гадоў — вольнае жыццё. Такога эксперыменту пакуль яшчэ ніхто не рабіў. Магчыма, ён і лепшы, але ён быў адкінуты. А больш нічога слушнага нашы малапісьменныя ўладары прыдумаць не маглі.**

**Усіх хоць трохі адукаваных — ленінцаў — яны пастралялі. Самі засталіся. А хто яны! Сталін на пытанне аб адукацыі адказваў «незакончаная сярэдняя», інакш кажучы, пачатковая. Варашылаў —3 класы, Будзённы — 3 класы, Кагановіч увогуле без адукацыі, Молатаў — бухгалтар, з дробных... Усё астатняе Палітбюро такое ж. Дык што вы ад іх хочаце! Уладу яны захапілі, але адукацыі не мелі, а ў душы былі ашалелыя нягоднікі. Расія, па іроніі лёсу, заўсёды пакутавала ад лішку нягоднікаў, іх і цяпер у нас багата! Уладароў жа не выбіраюць, яны самі ўладу захопліваюць.**

А вось што ідзе за гэтым:

**Мы, сабакі сталінскай эпохі, разадралі б любога, хто замахнуўся б на нашых уладароў!**

**Так што, па-мойму, не трэба валіць усё на Сталіна, рабіў ён гэта па волі ЦК нашай партыі. А што была партыя! Мы казалі: «Мы кажам партыя, а думаем — Сталін, мы кажам Сталін, а думаем — партыя». Пад такім лозунгам мы жылі. І быў яшчэ адзін: «Мы кажам Ленін, а думаем — Сталін! Мы кажам Сталін, а думаем — Ленін!» А Ленін жа быў трагічна адзінокі.**

Што ж з усяго гэтага вынікае? Да якіх высноў, да якіх лагічных пабудоў вядуць аўтара ягоныя развагі?

А вось да якіх:

**Хочацца мне сказаць, што не трэба ўспамінаць ахвяр беззаконняў. Хоць бы таму, што не пералічыць іх. Хіба чыесьці нататкі дадуць чытачу поўны аб'ём тых злачынстваў, што дасталіся многім мільёнам бязвінных, якія выконвалі прадугледжанае нашай гісторыяй «трэба»! Ды не, каб мець поўную карціну таго, што чынілася ў лагерах з усімі мільёнамі будаўнікоў бясплатнага камунізму, дык лепш ужо выдаць «Архіпелаг ГУЛАГ» Салжаніцына.**

**А каб зразумець, хто намі кіраваў, трэба выдаць кніжку дачкі Сталіна Алілуевай «Маё жыццё ў Крамлі» і «Лісты да далёкага сябра». Калі людзі хочуць правільна зразумець час Сталіна, дык без гэтых кніг зразумець тое, што здарылася, немагчыма.**

**Без сведчання гэтых людзей будзе абавязкова панаваць зноў тэндэнцыйнасць і нават мана. І калі гэтыя кнігі ў нас выдадзены не будуць, дык гэта будзе сведчаннем таго, што крытыка тых часоў неаб'ектыўная і тэндэнцыйная.**

**Не пашкодзіла б дзеля правільнага разумення тых гадоў падняць з архіваў такога кшталту тэлеграмы, якія мы тады атрымлівалі.**



**Прывяду яе тэкст вам на памяць:**

**«УРАДАВАЯ, У ТРЫ АДРАСЫ:**
**САКРАТАРУ ЦК — такому...**
**СТАРШЫНІ САЎНАРКОМА — такому...**
**НАРКОМУ ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ — такому.**

**Вам, на першы квартал 1938 года, згодна з раней выпушчаным планам, па першай катэгорыі... 35, па другой катэгорыі... 1250, па трэцяй катэгорыі... 3740».**

**Першая катэгорыя — расстраляць, другая катэгорыя — даць 25 гадоў, трэцяя — 10 гадоў. Гэта заданне для адной маленькай аўтаномнай рэспублікі, насельніцтва якой ледзь дасягнула паўтара мільёна чалавек. Пасля атрымання такой тэлеграмы мы пачыналі «збор ураджаю», так мы называлі тады гэтую кампанію па выкананні «плана». Так што, як бачыце, усё ішло па плану. Неабходную колькасць трэба было перастраляць — і гэта было працей за ўсё. Хоць перавыкананне гэтай лічбы строга каралася. А вось недавыкананне другой і асабліва трэцяй было самому сабе смяротным прысудам — не выканаў, дык сам едзь.**

Інакш кажучы, перавыкананне планаў расстрэлаў хоць і каралася, ды не так страшна. Ва ўсякім разе не было самому сабе смяротным прысудам. І ў лагер за гэта не адпраўлялі. Каралі, відаць, у дысцыплінарным парадку. Ці адміністратыўным. Вымовы, ці што, выносілі?! Ці прэмій пазбаўлялі?.. За тое, што ў расстрэлах занадта шчыравалі...

**А знікненне пяці тысяч працаздольных было для невялікай рэспублікі вельмі адчувальнай стратаю — трэба ж было выконваць народнагаспадарчы план. А лічбы раслі, і выходзіла, што ў год трэба было даваць да ста тысяч!**

**Іншы раз у тэлеграмах было замест трох адрасоў толькі два, і тады трэці адрасат выклікаўся ў Маскву. Опер, які звычайна суправаджаў яго, вяртаўся дамоў адзін і на пытанне: «Дзе гаспадар!» — адказваў: «Застаўся ў Маскве на лячэнне». Самі разумееце, на якое. Такім трэцім лішнім мог быць любы адрасат. А ў 1936—1940 гадах, бывала, выклікалі на «лячэнне» ўсіх траіх. І не аднойчы.**

**Вось так, дарагія таварышы! Так яно і было. І невядома, як яно было б, каб не было так.**

Каб жа ж не было! Каб жа ж... Але ўсё гэта было.

Яны збіралі свой крывавы ўраджай, ужо і не задумваючыся, навошта гэта трэба. Ужо і не спрабуючы адшукаць ніякага адносна разумнага тлумачэння таму, што адбывалася. Ішоў «збор ураджаю» — бессэнсоўны, гібельны для краіны, а яны былі занятыя толькі адным — абы самім выжыць. А дзеля гэтага нікога і нічога не шкада. І не было ў іх нічога такога, што можна было б процістаўляць гэтаму страху, які адурманьваў, нічога, што магло б хоць неяк прыглушыць дазволеную ім Сталіным жорсткасць, дазволеныя ім «меры фізічнага ўздзеяння». Бо не было ні гонару, ні сумлення, не было ўнутраных перашкод. Ім усё дазвалялі. І яны самі дазвалялі сабе ўсё.

**Заканчэнне будзе**

У афармленні выкарыстана літаграфія Сяргея СТЭЛЬМАШОНКА «Ціхарык»

## Анатоль СЫС

### ПЕРАД БОГАМ

Я думаў,
вершы мае відушчыя —
аж пакуль не аслепнуў сам
ад маланкі, самім жа пушчанай,
я гарэў, як бязбожны храм,
сам сабе я ў ім здаўся богам,
адпускаў сам сабе грахі —
грызла ганак, вяла дарога
зноў на д'яблавыя кругі,
ад яго я вяртаўся ў поўсці
і калі цалаваў свой крыж,
ён адбіткам жахлівым помсціў,
бы люстэрка ці д'яблаў віж,
і тагды я складаў малітву,
можа, ў соты свой самасуд,
той малітвай, нібыта брытвай,
сашкрабаў у адчаі бруд,
і ў адчаі я рэзаў вочы,
І жахаўся крыві сваёй,
і жагнаўся — набожна, тройчы,—
і агідны, жывёльны лой
з гострай брытвы маёй малітвы,
быццам гной, патыхаў маной.

Я пакінуў свой храм смярдзючы,
азірнуўся на купалы,
а святыя ў маіх анучах
неслі кроў маю на сталы,
а я
голы, як здань, бяскроўны,
у чыесьці ступаў сляды,
перад Богам жывёле роўны,
нёс грахі свае на клады,
і глыбела за мной сцяжына,
і ступала ў мае сляды
маці грэшных усіх — Жанчына —
з поўнай чарай жывой вады.

### САМОТНЫ

Маё шчасце недзе заблукала...
Цяжка ўспомніць — ноч была ці дзень —
як мяне самота адшукала,
падышла, ў чало пацалавала.
Бы жанчыну,
я абняў свой цень.
Цяжка ўспомніць — ноч была ці дзень —
я адчуў самоты асалоду,
хоць за рэчкай — шчасце,
я — ля броду...





Мал. Ілоны БАРАДУЛІНАЙ

Не пайшоў. Спалохаўся за цень.
А самота ў вочы цалавала,
быццам парушынкі з воч вымала,
ды глядзець за рэчку не давала.

Так спазнаў яшчэ адну жанчыну.

Цяжка ўспомніць — дзень быў
альбо ноч —
цяжка,
бо пазбавіўся я воч.
А сябры, прыгожыя каханкі,
позіркі — пякучыя маланкі,
хто з віном, хто з вершамі,
ішлі,
ды мяне ранейшым не знайшлі...
Я хаваў ад іх сляпыя вочы,
налівалі, і я піў віно,
сам жа, як злачынца,
ўсё адно
я чакаў сваёй самотнай ночы.
Я змярцвеў,
хоць чуў вакол прамовы
пра каханне, Адраджэнне, мову,
тосты за Радзіму...
ўсё адно
за самоту піў сваё віно.

Так спазнаў яшчэ адну Радзіму,

Цяжка ўспомніць — ноч была ці дзень —
бо здушыла горла, як камень,
мне віно,
і верш мой занямеў.
Прыгажуні падстаўлялі вусны,
я ж у лоб нябожчыц цалаваў,
мне яны шапталі: «Парню грустно!..»
«Хлопцу сумна...» — я перакладаў.
А сябры, нібыта на пахмелле,
пакідалі вершыкі свае,
і, напэўна, кожны думаў:
зелле
ад мае самоты мне дае.
І тагды
я ўзняў сляпыя вочы,
каб яны жахнуліся бяльма,
беглі ад яго
у свет,
у прочкі,
бо ў вярыгах ісціны няма.
І тагды
адбіткі сваіх бельмаў
я убачыў і на іх вачох.
«Парням грустно!..»
«Хлопцам сумна вельмі...» —
я хацеў сказаць, але не змог,
бо чакала за спіной самота,
і гарлянку раздзіраў камень,
бы жанчыну
я абняў свой цень
і прыпаў да зваблівага роту,
і здушыў сваёй крывёй самоту...

Знікла ноч.
Ізноў вярнуўся дзень!

### БЕЛАРУСКІЯ ІКАРЫ

Срэбны прах, балючы прах на скрылцах,
з ранай у патыліцы зямля,
да людзей баіцца апусціцца,
да людзей баіцца апусціцца,
да людзей баіцца апусціцца
курапацкіх ластавак сям'я,

прывіды пакут зямных — Ікары,
прытуліўшы да грудзей начніц,
зазіраюць ластаўкам у твары,
зазіраюць ластаўкам у твары,
зазіраюць ластаўкам у твары
цемраю прастрэляных вачніц.

Быццам дзве жабрачыя далоні —
неба і зямля, жыццё і скон,
а над Светам белы чэрап поўні,
а над Светам белы чэрап поўні,
а над Светам белы чэрап поўні
куляй звоніць — ноч гучыць, як звон:

«Есць, Ікары, ёсць і ў вас сталіца,
там Тыран накрыў для вас сталы!..»
А з нябёсаў голас: «Лепш разбіцца...»
А з нябёсаў голас: «Лепш разбіцца...»
А з нябёсаў голас: «Лепш разбіцца
аб бетон Урадавай скалы!»

Срэбны прах, Купалаў прах на скронях,
б'юць падковы ў чэрап, як у звон,
топчуць цела чалавека-коні,
топчуць цела чалавека-коні,
топчуць цела чалавека-коні,
з куляй у патыліцы — Зянон...



Леанід ЕКЕЛЬ



# СТРОМА

Фота Генадзя КАРЧЭЎСКАГА

ПАЗІЦЫЯ

У дарозе добра думаецца. Нішто не забірае ўвагі. І нікому няма да цябе справы. А думкі прыходзяць розныя. Часцей за ўсё трывожныя. Так ужо, напэўна, створаны чалавек: няма ладу ў жыцці — не можа быць яго і ў душы. Не можа быць асабістага спакою, калі вакол цябе ўсё неспакойна. Не можа быць асабістае непрычыннасці, калі ўсё ў свеце звязана ў тугі вузел...

З высокіх і нізкіх трыбун, як заклінанне, гучала: «Камсамол у адказе за ўсё!» Прыгожая фраза ці заклік да безадказнасці? І тое, і другое. Адказваць за ўсё — немагчыма, як немагчыма мільёнам людзей аднолькава мысліць, жыць адным парывам, аднадушна падтрымліваць і ўхваляць. Як хацелася б усё гэта адным разам спісаць на грахі застойнага перыяду, пахаваць у глыбокай магіле нягоднае мінуўшчыны. І зямлю зраўнаваць... Дык не выходзіць. Безліч іх — вялікіх і малых кіраўнікоў, у свядомасць і кроў якіх увайшло: мы загадваем, яны выконваюць, мы вырашаем іхнія лёсы, яны павінны радавацца і дзякаваць нам за гэта, а з незадаволенымі разбяромся па адпрацаванай сістэме...

Тое, што паміж гэтымі «мы» і «яны» — бездань, мала каго непакоіла. З трыбун гучала: «Нашае грамадства — маналіт». І ў свядомасці нармальнага чалавека ўсплывала грубая, безаблічная глыба, здольная

падпарадкавацца хіба што такой самай грубай сіле. Зрэшты, наўрад ці што ўсплывала: ад частага ўжывання словы губляюць вобраз, сэнс, афарбоўку — ператвараюцца ў нішто. Так мы жылі. А як жывём цяпер? Чуем жыватворны вецер перамен, ды ці ёсць самі перамены? І калі яны адбываюцца, то ці таму, што яны не могуць не адбывацца, ці з-за нейкіх акалічнасцей? Бо й перабудову можна ліха з'імітаваць — балазе назапашаны вопыт любой імітацыі, нават у дзяржаўных маштабах. Толькі натуральны рух думак і пачуццяў, толькі шчырая і дзейсная прага перамен могуць дапамагчы перабудове замацавацца каранямі, даць ёй жыццёвыя сокі.

...Даведаўся, што ў Чавусах першым сакратаром райкома камсамола выбралі сакратара пярвічнай арганізацыі. Факт вельмі прыемны. Гэта своеасаблівы прарыў з тае жалезнае агароджы, за якою творыцца таямнічая «выпечка» кадраў. Дзе гучыць папяровы, але ўладны голас анкеты. Дзе вагі могуць гайдануцца ў той ці іншы бок ад аднаго толькі рашаючага слова, ды што там слова — настрою. Дзе... Зрэшты, тэма гэта нудная, як змрочны восеньскі дзень. Але вось — і ў ёй з'явіўся прасвет...

— А Цітоў паехаў у Магілёў,— абрадавалі мяне ў райкоме камсамола.— На партактыў. Вернецца толькі ўвечары.

Ну што ж, паехаў дык паехаў. Прыкідваю, чым заняцца ў вольныя гадзіны да праграмы «Час». Недапісаны матэрыял, недачытаная кніга, нарэшце недагледжаны дома фільм... Чаму б не нагнаць упушчанае?

...Раніцаю, ледзь пераступіўшы райкомаўскі парог і зірнуўшы на Цітова, зразумеў: чакаў мяне хлопец і хваляваўся. Такое ў маёй практыцы — рэдкасць. Звычайна сутыкаешся з упэўненымі, нават самаўпэўненымі хлопцамі. Першыя гадзіны гутаркі яны зазвычай прашчупваюць цябе: з якой мэтаю прыехаў, што ведаеш аб раённай арганізацыі, ці можна табе даверыцца або лепей абмежавацца агульнымі фразамі? Пакуль прадзярэшся праз гэтае дэкаратыўнае кустоўе, стомішся, быццам на табе ваду вазілі. А Цітоў — адкрытая душа. Магчыма, да пары да часу. Пакуль не зарабіў яшчэ гузакоў, не наглытаўся жорсткіх, крыўдных і несправядлівых слоў. Пакуль не стаяў перад выбарам: пакрывіць душою, але дагадзіць, або зрабіць, як загадвае сумленне, ды стаць нялюбым. Магчыма...

— Русаковіч Міхаіл, былы першы сакратар райкома камсамола, кажа мне: «Па ўсіх нашых канонах, ты, Лёня, ніяк не праходзіш на першага. Але калі выберуць на канферэнцыі...» Што будзе, калі выберуць, я так і не зразумеў, хоць у душы, думаю, ён хацеў гэтага. «Ну і няхай выберуць. Няхай! А чаму б і не паспрабаваць»,— падумаў. І праўда, чаму б і не? Справы ў маёй пярвічнай ідуць нармалёва. З камсамольцамі — поўнае ўзаемаразуменне. Куды ісці далей — бачу. Чым займацца — ведаю. Ну, гэта спярша. А потым, як муць з дна, сталі наплываць сумненні. Ці не занадта я самаўпэўнены? Ці не шмат бяру на сябе? Ці не пераацэньваю ўласныя сілы? Можа, пакуль не позна, зняць сваю кандыдатуру?.. Адным словам, перажыў і пакутлівыя дні, і бяссонныя ночы. А як жа без гэтага: караскацца ўверх, і не пытаючыся ў сябе, дзеля чаго ўсё гэта, можа ці абмежаваны чалавек, ці нахабны кар'ерыст.

— Ну, а калі яго цягнуць наверх ці падсаджваюць знізу? Яму і застаецца толькі перабіраць нагамі ды сям-там балансаваць целам. Тады як?

— А што я змагу на гэтай гары зрабіць карыснага? Ці не будзе маё там з'яўленне расчараваннем? Як тым, хто адкрыў мне дарогу, так і мне самому? Нарэшце, што я ведаю, што я ўмею, што я люблю? Вось гэта — галоўнае.

— Добрыя пытанні, Лёня. Калі б іх часцей задавалі сабе тыя, хто так імкліва ўзлятае ўверх па лесвіцах кар'еры, маральная экалогія грамадства была б нашмат чысцейшая. А то во як выходзіць: спадабаўся адказнаму таварышу нехта, скажам, з камсамольскіх работнікаў. Ці то за знешні выгляд, ці то за ўменне прыгожа гаварыць, ці то за памяркоўны характар і гатоўнасць выканаць любое даручэнне, але толькі не за глыбокія веды, не за ўласную думку, не за прыстойнасць. Гэтыя якасці — на жаль! — хутчэй тармозяць, чым прасоўваюць кадры... Раз спадабаўся — у абойму яго! Надарыўся зручны выпадак — і ўспырхнуў «шчаслівчык» на крылах удачы, ашаламіўшы сваіх калег. Але ці ўдачы? Нярэдка гэтая ўдача ператвараецца ў драму: бліцвысоўванне, выяўляецца, не лепшы шлях у сур'ёзнай справе. Хто яго высоўваў, памылку сваю, вядома, прызнаць не жадае. І пачынаюць такіх вось «арлоў» з падрэзанымі крыламі перамяшчаць з паверха на паверх, з кабінета ў кабінет. Пакуль не засунуць канчаткова... А гэта ж трагедыя, а можа, трагікамедыя, пачалася з таго імгнення, калі вылучэнцам быў задушаны голас сумлення, які падказваў: «Ты не справішся... Ты не гатовы... У цябе няма ведаў... Ты загубіш справу і сябе...» Якое сумленне, якія сумненні: наменклатура — гэта ж наменклатура. Выпадковыя людзі туды не трапляюць...

Але які жаль выклікаюць гэтыя людзі, калі праходзіць зацьменне! Калі без апекуноў, сам-насам, застаюцца яны са сваімі невясёлымі думкамі...

— Што казаць, кадравыя справы — цёмны лес. Апошнім часам, праўда, калектывы могуць на гэта паўплываць, аднак старая сістэма глыбока пусціла карані. Таму і з'яўляюцца людзі, якіх нельга, улічваючы і дзелавыя і чалавечыя якасці, на гарматны стрэл падпускаць да кіраўніцкага крэсла. Але... Са мною ўсё было адкрыта. І шчыра. Што з таго атрымалася, казаць пакуль рана. Ды, бадай, і не мне. Але вось тое, што ў мяне вышэйшай адукацыі няма (я вучуся ў Горацкай сельгасакадэміі), што я дрэнна ведаю апаратную работу, што з выступленнямі не ўсё атрымліваецца — не ўмею я прыгожа гаварыць, усё гэта не на маю карысць. Я гэта адчуваю.

— Час палымяных прамоў праходзіць. Гаварыць трэба не языком, а справаю. Гэта адназначна. Што ж цяпер, па-твойму, Леанід, галоўнае ў камсамольскай рабоце?

— Увага да чалавека...

Тут, бадай, варта зрабіць невялікае адступленне. Захапіўшыся дыялогам, я толкам не прадставіў Цітова. Леаніду 27 гадоў. Закончыў Магілёўскі саўгас-тэхнікум. Працаваў на льнозаводзе ў Чавусах. Там абралі Цітова сакратаром камітэта камсамола. У раёне гэта самая буйная камсамольская арганізацыя.

Энергічны, вясёлы, абаяльны, здольны без асаблівай цяжкасці наладзіць кантакты і са сваімі равеснікамі, і са старэйшымі людзьмі, ён многім прыйшоўся даспадобы. Прынамсі было і з кім праводзіць мерапрыемствы, і для каго. Але капейка цана тым мерапрыемствам, якія праводзяцца дзеля саміх мерапрыемстваў. Цітоў гэта разумеў выдатна. Ведаў ён і другое: як не здолее камітэт дапамагчы камсамольцам з інтэрнатам, садочкам і іншымі жыццёвымі праблемамі, дык ніякімі «агеньчыкамі» ды спартыўнымі спаборніцтвамі аўтарытэту яму не зарабіць. А камітэт без аўтарытэту — гэта хлопчыкі і дзяўчынкі на пабягушках.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ў Цітова была перавага, якая давала яму зялёнае святло. Дырэктар ільнозавода — ягоны старэйшы брат. Але не будзем спяшацца з высновамі. Трэба ведаць характар гэтых людзей: пераносіць родныя адносіны на працу — не ў іхніх правілах. І калі Цітоў-малодшы ішоў з той ці іншай просьбаю да Цітова-старэйшага, дык спадзяваўся атрымаць «згоду» не таму, што брат не зможа адмовіць. За работу камсамольскай арганізацыі яму не было сорамна. Дзейнічаў ён у інтарэсах людзей, а значыцца, і справы. Браты разумелі адзін аднаго з паўслова. Прынамсі, абіваць без толку парог дырэктарскага кабінета сакратару не прыходзілася.

Прыглядаўся да работы Цітова-малодшага і першы сакратар райкома камсамола Міхаіл Русаковіч (цяпер ужо — сакратар абкома камсамола). Відавочна, у кожнага сакратара райкома ці гаркома ёсць свая пярвічная арганізацыя, дзе ён усё роўна як адпачывае душою. Дзе на справе звярае тое, што прыкідвалася на паперы, тое, пра што не раз думалася, у чым не раз сумняваўся. Паводзіў сябе Русаковіч зусім не «па-сакратарску». Пратаколаў і пастаноў не патрабаваў, па планах «допыт» не чыніў — аб рабоце ён меркаваў не па паперах, а па канкрэтных, ненадуманых справах. І калі даваў даручэнне, дык зусім не ў загадным ладзе: «А што, калі нам паспрабаваць зрабіць так?.. Давай, Лёня, абмазгуем адну справу. Вельмі патрэбна твая парада...» Калі ж у дэталях пачыналі абмяркоўваць задуманае, яны адчувалі сябе на роўных. І прыходзіла адчуванне, што ідэя была не чыясьці, а агульная. Тым больш, што не ішла ад кіраўніка да падначаленага, а ўсё роўна як ставілася на абмеркаванне самім жыццём. Што было гэта своеасаблівай вучобаю, якая працягвалася і на бюро райкома камсамола (Цітоў уваходзіў у яго склад), ён наўрад ці тады задумваўся. Затое цудоўна разумее цяпер, як усё гэта яму спатрэбілася. Так што сакратар райкома камсамола Леанід Цітоў не ўзнік раптам сам па сабе. З ім спакваля вялася тонкая, разумная работа, якая сфарміравала ў ягонай душы вельмі няпростае рашэнне — узначаліць раённы камсамол.

Скажу шчыра: калі я чую, як выказваюць захапленне з нагоды таго, што вось, маўляў, нам для выбрання прапанавалі адну кандыдатуру, а выбралі свайго чалавека і тым самым атрымалі перамогу, у мяне не ўзнікае жадання апяваць дэмакратыю. Да яе нам яшчэ далёка. Людзі стаміліся ад жорсткага дыктату літаральна ва ўсім. Ад грубага навязвання ўсялякіх кандыдатур, ад хлуслівых сцвярджэнняў, што ўсё гэта нібыта ад імя народа і дзеля яго ж. З'явілася найменшая магчымасць нефармальна ўдзельнічаць у рашэнні пытання, выказаць сваё «я» — і людзі ажылі. Сталі паважаць і сябе, і таварышаў. Калі, вядома, не ўсё акамянела ў іхніх душах. Калі яшчэ цепліцца іскра веры ў праўду і справядлівасць... Аднак рух гэты, увогуле шчыры, неварожы, пры ўсіх пастках і бар'ерах на дарогах дэмакратыі, спрытна расстаўленых бюракратычнай машынаю, не заўсёды можа палепшыць справы. Распаленыя барацьбою, людзі ўсё роўна як забываюцца пра сваю кандыдатуру. У проціборстве ім, бадай, важней узяць верх над афіцыйнай прапановаю, чым дамагчыся перамогі менавіта свайго вылучэнца. А што ён ці яна за асоба, ці можа па-дзяржаўнаму мысліць і дзейнічаць — гэта міжволі адсоўваецца на задні план. Вось іншы раз і атрымліваецца: адзін выпадковы дзеяч замяняецца на другога выпадковага, а справы дзяржавы, інтарэсы народа так і застаюцца ля тае самае рысы.

Наўрад ці можна такі працэс назваць перабудоваю. Нашмат бліжэй да яе, калі літаральна ўзломваецца кругавая абарона, скажам, у тых самых пытаннях падбору і расстаноўкі кадраў. Два-тры гады назад, калі б нехта прапанаваў першым сакратаром райкома абраць камсорга, такога дзівака палічылі б дужа несур'ёзным чалавекам, а то і ўвогуле дурнаватым. Абралі. І гэта была не гульня ў дэмакратыю, а яе сапраўдная праява ў інтарэсах людзей і справы.

...Дык вось, пра павагу да людзей. Дапамагчы з інтэрнатам, дзіцячым садочкам, ведама ж, трэба. Але ж не кожнага дня прыходзіцца гэтым займацца сакратару камітэта камсамола. А мець справу з камсамольцамі — штодня. Ды не проста спачувальна паляпваць па плячы ці задаваць банальныя пытанні — судакранацца, прымаць удзел у значных і зусім, здавалася б, радавых падзеях ягонага жыцця. Вяселле — падарунак ад камітэта камсамола; нарадзілася дзіця — кветкі, віншаванні; трапіў нехта ў бальніцу — трэба наведаць. Драбніцы? Так, справы не маштабныя. Але менавіта гэта і ёсць не балбатня пра ўвагу да чалавека, а сама ўвага. Яе не вымераеш рублём ці каштоўнасцю рэчы. Усё нашмат танней...

Калі Цітоў убачыў Еўдакію Савельеўну Проніну на магіле сына, які загінуў у Афганістане, ён адчуў, як з казённага слова «шэфства» злязае шалупінне. І агалілася ягоная сапраўдная сутнасць: боль і спачуванне. Дакладней, здольнасць іх выявіць...

Я не здзівіўся, калі Цітоў, нягледзячы на цемру, якая шчыльна схавала за акном гарадскую плошчу, прапанаваў: «Давайце з'ездзім, наведаем нашу маму...» Ён так і сказаў: «нашу маму».

Па дарозе збочылі на могілкі. З цёмнага мармуру, што матава адсвечваў у промнях фар, на нас зірнуў хлапечы твар. З нямым, як мне здалося, дакорам у вачах...

Вокны, што выходзілі на вуліцу, не свяціліся. Святло гарэла на кухні. Але сустрэла нас не гаспадыня, а высокі, з выдатнай фігураю, прыгожы хлопец. «Андрэй?! — здзівіўся і адначасна ўзрадаваўся Цітоў.— Вось дык сустрэча! А што з мамаю?» — «Сумныя ў яе справы. Нехта з радні памёр. Паехала на пахаванне...»

І абодва сталі змрочныя. Выдатна разумелі, што значыла гэтае пахаванне для хворага, змучанага пакутамі сэрца старэнькай жанчыны...

Андрэй Сцяпных, студэнт Магілёўскага педінстытута, відавочна, не з гаваруноў. Словы прамаўляе павольна, нібыта прыкідвае іх на вагу.

— Мікалай Пронін, сябар мой, у мяне на руках паміраў. І словы яго апошнія — «Вельмі хочацца жыць...» — і сёння чую. Вельмі моцны ён быў. За сяброў гатовы быў і ў агонь і ў ваду...

Ложкі нашы стаялі побач, толькі тумбачкі раздзялялі. І раптам няма яго. Такога хлопца страцілі! Гэта быў самы чорны дзень у маім жыцці...

Падышоў я да «баці», старшага лейтэнанта, як, пытаюся, напісаць яго родным? А напішы, кажа, усё, як было, і папрасі, каб лічылі цябе сваім сынам. Усё ж маці лягчэй... Я так і зрабіў. Вось з таго ліста і называю Еўдакію Савельеўну мамаю, а яна мяне — сынок. Часта бываю тут, нашмат часцей, чым у родным доме. Тут я больш патрэбны...

Калі развіталіся, не хацелася адпускаць Андрэеву руку. Такую надзейную, дужую.

Перабудова — гэта хваля, якая змывае з душ увесь шум, іржу застойных гадоў. Вызваляе іх ад кабалы страху і рабалепства. Але гэта не механічны працэс. Сама па сабе перабудова з неба не зваліцца, як тая манна. Яе трэба прагнуць, як, задыхаючыся, прагнуць глытка паветра. У яе трэба верыць, як вераць у апошні шанц. Яе трэба рабіць, як робяць тое, без чаго жыццё страціла б сэнс і мэту.

Герой майго нарыса Леанід Цітоў добра гэта разумее. Таму без ваганняў гатовы падставіць плечы пад цяжар любой адказнасці. Выказаць сваю пазіцыю. І цвёрда прытрымлівацца яе без аглядкі на старэйшых таварышаў. Без падстраховачнай думкі: «А як гэта на мне адаб'ецца?» Добра адаб'ецца. Калі жыць і дзейнічаць згодна з сумленнем.

Дэвід Г. ЛОЎРЭНС

# ДРУГІ «САМЫ ЛЕПШЫ»

## АПАВЯДАННЕ

— Я стамілася,— зласліва ўсклікнула Фрэнсіс, і ў гэты момант яна паваліласяна дзірван каля жывой агароджы. Нейкую хвіліну Эн здзіўлена глядзела на сястру, але яна звыклася з дзівацтвам сваёй каханай Фрэнсіс і таму спытала:

— Ну, добра, але здаецца, што ўчарашняе па-чартоўску доўгае падарожжа з Ліверпуля надоўга выбіла цябе з каляіны?

З гэтымі словамі яна бухнулася каля сястры. Эн была маладзенькая, паўнагрудая дзяўчынка чатырнаццаці гадоў, разважлівая, са здаровым клёкам. Фрэнсіс была намнога старэйшая, каля дваццаці трох гадоў, халерычная і капрызная, самае прыгожае дзіця ў сям'і. Неяк нервова, рэзка Фрэнсіс сабрала зерне трыпутніку са сваёй сукенкі. Прыгожы твар дзяўчыны, абрамлены чорнымі валасамі, быў спакойны, быццам маска, толькі тонкае брыво нервова торгалася, а цёмна-пунсовы колер скуры надаваў твару цеплыні.

— Не, не падарожжа,— запярэчыла Фрэнсіс у адказ на неразумнае пытанне сястры. Эн паглядзела на сваю ўлюбёнку. У сваёй самаўпэўненай, практычнай манеры яна спрабавала зразумець натуру гэтага капрызнага стварэння. Але раптам Эн адчула сябе няёмка перад Фрэнсіс: у яе цёмных, узрушаных вачах яна ўбачыла выклік. І Эн адступіла. Нешта незвычайнае было ў паглядзе Фрэнсіс: смелы і адкрыты, ён бянтэжыў людзей сваёй раптоўнасцю і праніклівасцю.

— Ну што здарылася, мая галубачка? — спытала Эн, абняўшы вытанчаную, упэўненую постаць сястры. Фрэнсіс дрыжліва хмыкнула, зручна ўладкоўваючы галаву на пышных грудзях сваёй дужай сястры.

— Нічога, я толькі крыху стамілася,— прамармытала яна, ледзь не плачучы.

— Вядома, ты стамілася, чаго ж ты хацела? — суцешыла яе Эн.

Фрэнсіс з жартам успрымала тое, што Эн паводзіла сябе як старэйшая, амаль як маці. Але, яна была яшчэ бестурботным падлеткам, тады як Фрэнсіс у свае дваццаць тры гады шмат пакутавала.

Навакольны краявід уражваў сваёй ранішняй нерухомасцю. На выгане кожная рэч ззяла, адкідваючы змрочны цень,— і таму здавалася яшчэ больш бліскучай, а схіл узгорка бясшумна выпускаў цеплыню. Руды дзірван, здавалася, вось-вось загарыцца, лісце дуба парыжэла ад сонца. У далечы, сярод чарнаватага лісця, паблісквалі чырвоныя і аранжавыя плямы вёскі.

Каля падножжа ўзгорка вербы, што дакраналіся галінамі плыні ручая, раптам уздрыгнулі ад подыху ветру, выклікаючы асляпляльны эфект, падобны да ззяння дыяментаў. Эн зноў прыняла сваю звычайную паставу. Яна выпрастала калені і паклала ў прыпол сукенкі жменю лясных арэхаў з бела-зялёным лісцем; з аднаго боку арэхі мелі колер падобны на штосьці паміж рудым і пунсовым. Эн пачала іх лузаць і есці. Фрэнсіс, схіліўшы галаву, пакутліва раздумвала.

— Ты ведаеш Тома Смэдлі? — пачала размову малодшая дзяўчына, дастаўшы цвёрдае ядро з арэха.

— Магчыма,— з сарказмам адказала Фрэнсіс.

— Дык вось, ён злавіў дзікага труса і даў яго мне, каб я трымала яго разам з маім, свойскім,— і ён жыве.

— Гэта добра,— іранічна і абыякава адказала Фрэнсіс.

— Вядома, добра! Ен абяцаў узяць мяне на Алертонскае свята, але так і не зрабіў гэтага. Паслухай, ён наняў слугу з хаты пастара; я бачыла яго.

— І правільна зрабіў,— сказала Фрэнсіс.

— Не, няправільна! Я гэтак і сказала яму. А яшчэ я сказала, што раскажу пра гэта табе,— і я гэта зрабіла.

Яна з трэскам расшчапіла зубамі арэх, дастала ядро і задаволена пачала жаваць.

— Гэта не мае ніякага значэння,— сказала Фрэнсіс.

— Добра, няхай не мае, але я ўсё роўна раззлавалася на яго.

— Чаму?

— Таму; ён не меў права наймаць гэтага слугу.

— Ен мае поўнае права,— бясстрасна адказала Фрэнсіс.

— Не, у яго не было права так рабіць, калі ён ужо паабяцаў узяць мяне.

Фрэнсіс весела і з палёгкай засмяялася.

— Я й забыла пра гэта,— сказала яна і дадала: — А што ён сказаў, калі ты паабяцала расказаць мне?

— Ен засмяяўся і сказаў: «Яна не будзе злавацца з гэтай нагоды».

— Але, яна не будзе,— пагардліва фыркнула Фрэнсіс.

Дзяўчаты замоўклі. Выган нагадваў фантастычную карціну: завялы, з белымі вяршкамі чартапалох, маўклівы ажыннік, руды ядловец у прамянях сонца. На другім беразе ручая пачыналася неабсяжнае поле: белыя клеткі ячменнае пожні, жоўтыя квадраты пшаніцы, цёмназялёныя кавалачкі пашы, чырвоныя палосы папару, пералесак і маленькая вёска, змрочная, нібы арнамент, што распасціралася ў далеч амаль да пагоркаў, дзе клятчасты ўзор выгану станавіўся ўсё меншы і меншы, пакуль не знік зусім у спякотнай смузе — толькі белыя квадраты ячменнае пожні былі яшчэ выразна прыкметныя.

— Гэй, ну і ну, тут трусава нара! — знянацку ўскрыкнула Эн.— Давай папільнуем, можа, хоць адзін выйдзе. Ты толькі не тузайся, добра?

Дзяўчаты сядзелі нерухома. Фрэнсіс аглядала навакольныя рэчы. Яны выглядалі неяк незвычайна, варожа: зеленаватыя ягады бузіны цяжкай масаю звісалі з пур-

пурных сцёблаў, на фоне неба на самым версе жывой агароджы мігацелі гронкі жаўтаватых дзікіх яблыкаў, уздоўж агароджы змярцвела ляжала мяккае лісце першацвету,— але ўсё гэта было ёй чужым. Потым яна ўбачыла нейкі рух. Па цёплай чырвонай зямлі з шумам, тузаючыся туды-сюды, перасоўваўся пляскаты, чорны, як цень, крот. Ён перамяшчаўся вакол нары, то жвавы, то нерухомы, нібы сама душа joie de vivre[1]. Фрэнсіс хацела была паклікаць Эн, каб тая забіла маленькага шкодніка, але сёння, у сваім горы, яна была занадта апатычная. Яна глядзела на маленькую жывёліну, якая быццам веславала; нюхаючы і дакранаючыся да рэчаў, крацяня адкрывала іх для сябе; яно слепа бегала вакол, зачараванае да непрытомнага захаплення сонечнымі праменнямі і гарачымі незнаёмымі рэчамі, якія песцілі яго жывот і нос. Фрэнсіс адчула глыбокі жаль да гэтага маленькага стварэння.

— Гэй, Фрэнсіс, паглядзі! Гэта крот!

Эн стаяла і сачыла за цёмнай, несвядомай жывёлінай. Фрэнсіс усхвалявана нахмурыла бровы.

— Ён не ўцякае, га? — мякка сказала Эн і, крадучыся, наблізілася да жывёліны. Крот няўмела пасунуўся назад, але ў гэты момант Эн злёгку прыціснула яго сваёй нагою. Фрэнсіс бачыла, як у барацьбе, быццам вёслы, соўгаліся маленькія пунсовыя лапкі звера; як торгаўся яго востры нос, калі крацяня выгіналася пад падэшвай абутку.

— Ён яшчэ варушыцца! — сказала Эн, нахмурыўшы бровы ад жудаснага адчування. Яна нахілілася, каб паглядзець на сваю здабычу. Цяпер Фрэнсіс магла бачыць, як каля самай падэшвы краталіся аксамітныя плечукі, як круцілася сляпая, вартая жалю мордачка і шалёна веславалі плоскія пунсовыя лапкі.

— Забі яго,— сказала яна, адварочваючы свой твар.

— Не, толькі не я,— адхіліўшыся, са смехам адказала Эн.— Забі ты, калі хочаш.

— Я не хачу.

У словах Фрэнсіс была ледзь прыкметная напружанасць.

Пасля некалькіх спроб Эн удалося ўзяць маленькага звярка за футра. Ён адінуў галаву, варушачы сваёй доўгай, сляпой мордачкай з боку ў бок. Яго рот прыняў незвычайную прадаўгаватую форму, агаляючы маленькія пунсаватыя зубкі: сляпы, шалёны, ён шырока адкрыўся і скрывіўся. Цяжкае, нязграбнае цела вісела амаль нерухома.

— Жвавае стварэнне, хіба не так? — заўважыла Эн, спрабуючы ўхіліцца ад крацiных зубоў.

— Што ты збіраешся рабіць з ім? — рэзка спытала Фрэнсіс.

— Яго трэба забіць — бачыш, якую шкоду яны прыносяць. Вазьму дамоў, і няхай бацька альбо хто яшчэ заб'е яго. Я не збіраюся яго адпускаць.

Яна нязграбна загарнула звярка ў насоўку і прысела каля сваёй сястры. Колькі часу яны сядзелі моўчкі. Эн змагалася з неспакойным кратом.

— Сёння ты нічога не расказваеш пра Джымі. Ты часта бачыла яго ў Ліверпулі? — знянацку спытала Эн.

— Адзін ці два разы,— адказала Фрэнсіс, не падаючы выгляду, што яе занепакоіла гэтае пытанне.

— Ты ўсё яшчэ кахаеш яго, так?

— Думаю, што не, бо ён ужо заручаны.

— Заручаны? Джымі Барас? Неверагодна! Ніколі б не падумала, што ён гэта зробіць.

— А чаму не, ён мае такія ж правы, як і кожны іншы,— дзёрзка адказала Фрэнсіс.

Эн круціла ў руках крата.

— Такое здараецца,— пасля паўзы сказала яна.— Хоць я не чакала гэтага ад Джымі.

— Чаму? — адрывіста спытала Фрэнсіс.

— Не ведаю — гэты пракляты крот, ніяк не супакоіцца! — з кім ён заручаны?

— Адкуль я ведаю?

— Я думала, ты спытаеш яго; ты даволі даўно знаёмая з ім. Я мяркую, што ён вырашыў зрабіць гэта менавіта цяпер, атрымаўшы ступень доктара хіміі.

Фрэнсіс не вытрымала і засмяялася.

— Якое гэта мае дачыненне? — спытала яна.

— Упэўнена, што гэта лёс. Цяпер ён хоча мець каго-небудзь каля сябе, таму і заручыўся. Гэй, трымай яго, дапамажы!

Але ў гэты момант крот амаль выпаўз з насоўкі. Ён выцягнуў свае вялікія пацісканыя лапкі і пачаў шалёна торгацца, варушачы вострай мордачкай; шырока адкрыўшы рот нагадваў невялічкую шахту.

— Ану, хадзі сюды! — патрабавала Эн, торкаючы крата ўказальным пальцам. Яна спрабавала зноў загарнуць яго ў насоўку. Раптам крот імкліва накінуўся на яе палец.

— Ой! — ускрыкнула яна.— Ён укусіў мяне!

Эн кінула крата на зямлю. Здзіўлены і сляпы, звярок няўмела круціўся на месцы. Фрэнсіс ледзь не завішчала. Яна думала, што крот імгненна ўцячэ, як мыш, але ён працягваў поўзаць навобмацак. Яна хацела крыкнуць на яго, каб той уцёк, але Эн у раптоўнай лютасці выхапіла палку ў сястры і адным ударам забіла крата. Фрэнсіс стаяла няўцямная і ашаломленая. Яшчэ момант назад маленькі небарака мітусіўся на спякоце, а цяпер ляжаў, чорны і нерухомы, як маленькі мяшэчак,— не супраціўляючыся, не рухаючыся.

— Ён мёртвы,— непрытомным голасам сказала Фрэнсіс.

Эн выняла палец з рота, паглядзела на малюсенькія ранкі і сказала:

— Мёртвы, і я задаволена. Гэтыя краты — яны шкодныя нікчэмнасці.

З гэтымі словамі яе лютасць прайшла. Яна падняла з зямлі мёртвую жывёліну.

— У яго прыгожая шкура,— сказала Эн, гладзячы футра спачатку ўказальным пальцам, а потым шчакою.

— Асцярожна,— рэзка сказала Фрэнсіс.— Глядзі, каб кроў не трапіла на сукенку.

Кропля ярка-чырвонай крыві звісала з кратовай мордачкі і гатова была вось-вось упасці. Эн скінула яе, і кропля расплылася на некалькіх званочках. Раптоўна Фрэнсіс супакоілася; у той момант яна адчула сябе дарослай.

— Думаю, што іх трэба забіваць,— сказала яна, і яе гора змянілася нейкай тужлівай абыякавасцю. Мігаценне дзікіх яблыкаў, бліскучасць брыльянтавых вербаў цяпер здаваліся ёй дробязню, не вартай увагі. Нешта адмерла ў яе душы, і гэтыя рэчы страцілі свой боль. Спакой апанаваў яе, абыякавасць яшчэ больш узмацняла яе ціхі смутак. Яна ўстала і пайшла ўніз да ручая.

— Гэй, пачакай мяне! — крыкнула Эн і, спатыкаючыся, рушыла ўслед.

Фрэнсіс стаяла на мосціку і разглядвала чырвоную гразь, утаптаную капытамі скаціны. На выгане не засталося ні кроплі вільгаці, але ўсё дыхала зелянінаю і сакавітасцю.

«Чаму я не клапачуся пра Эн, якая так захоплена мною?» — спытала ў сябе Фрэнсіс. «Чаму я ўвогуле ні аб кім не турбуюся?» Фрэнсіс не ведала чаму, але ў сваёй адзіноце і абыякавасці яна адчувала даволі ўпартую гордасць.

Дзяўчаты ступілі на ячменны палетак. Копы ячменю стаялі ў рад, белыя прамыя косы збожжа схіляліся да зямлі. Збожжа настолькі выгарала пад спякотным летнім сонцам, што прастора асляпляльна ззяла белым колерам. На другім палетку павеяла асалодаю і пяшчотнасцю, якая ішла ад тонкай, бязладна пасеянай канюшыны. Маленькія ружовыя шышкі ўтульна адпачывалі на цёмна-зялёных раслінах. Дзяўчаты ішлі па адной, Фрэнсіс была наперадзе.

Каля варот малады хлопец касіў траву, каб пасля абедні пакарміць жывёлу. Убачыўшы дзяўчат, ён спыніў працу і з бязмэтным поглядам чакаў. Фрэнсіс, апранутая ў белы муслін, ішла з годнасцю, свавольная і незалежная. Яе бестурботнасць, роўная, напорыстая хада ўсхвалявалі яго. Фрэнсіс пяць гадоў кахала далёкага Джымі, але ў адказ атрымлівала толькі палову таго, што хацела. Гэты хлопец толькі крыху ўзрушваў яе.

Том быў сярэдняга росту, моцна збіты. Румяны, але не руды загар упрыгожваў яго гладкі, звычайна светлы твар. Гэтая чырвань яшчэ больш падкрэслівала яго пачуццё гумару і натуральнасць. Том быў на год старэйшы за Фрэнсіс і мог даўно ўжо заляцацца да яе, калі б тая была схільная да гэтага. Дагэтуль яго жыццё прайшло без падзей; па натуры лагодны, ён вольна балбатаў з многімі дзяўчатамі, але так і не ажаніўся, не абцяжарваючы сябе ніякім клопатам. Але ён адчуваў, што яму патрэбна жанчына. Калі дзяўчаты наблізіліся да яго, ён крыху сарамліва падцягнуў штаны. Нязвыклае, зграбнае стварэнне, якой была Фрэнсіс, выклікала дзіўную і прыемную ўзбуджанасць у яго венах, дыханне крыху пачасцілася. Чамусьці ў гэты ранак яна ўзрушыла яго больш, чым звычайна. Фрэнсіс была апранутая ў белую сукенку, аднак Том, хоць і з цвярозым розумам, не ўсведамляў гэтага. Яго пачуццё ніколі не было мэтанакіраваным і свядомым.

Фрэнсіс ведала, што ёй трэба было рабіць. Том будзе кахаць яе, як толькі яна папросіць яго аб гэтым. Яна страціла Джымі, але цяпер яна пераносіла гэта без пакут. Усё ж яна што-небудзь ды атрымае. Калі яна не магла атрымаць самага лепшага — Джымі, якога Фрэнсіс ведала як чалавека са звычкамі сноба,— дык яна аваладае другім самым лепшым, Томам. З абыякавым выглядам Фрэнсіс падышла да хлопца.

— Значыць, ты вярнулася?! — сказаў Том. Фрэнсіс прыкмеціла нейкую няўпэўненасць у яго голасе.

— Не,— сказала яна са смехам,— я ўсё яшчэ ў Ліверпулі.

Адценне інтымнасці ў яе словах выклікала чырвань на яго твары.

— Тады гэта не ты? — спытаў ён.

Яе сэрца моцна забілася. Фрэнсіс паглядзела яму ў вочы, і на імгненне іхнія позіркі сустрэліся.

— А як ты думаеш?

З сарамлівым выглядам ён лёгкім рухам зняў свой капялюш.

Том спадабаўся ёй — яго дзіўныя манеры, яго гумар, го невуцтва і мужыцкая някемлівасць.

— Паглядзі сюды, Том Смэдлі! — умяшалася Эн.

— Паскуда! Ты знайшла яго здохлага?

— Не, ён укусіў мяне,— сказала Эн.

— А, вось яно што! Дык ты з-за гэтага такая шалёная?

— Не, не з-за гэтага! — рэзка прабурчала Эн.— Як ты размаўляеш!

— А што такое?

— Не магу цярпець, калі ты груба размаўляеш!

— Не можаш?

Ён зірнуў на Фрэнсіс.

— Ты не вельмі хораша выказваешся,— кінула яна. На самай справе ёй было ўсё роўна. Звычайна грубыя словы зласлівалі яе — Джымі быў джэнтльмен. Але Томава манера размаўляць не турбавала яе.— Я хачу, каб ты гаварыў прыгожа,— дадала яна.

— Ты хочаш? — спытаў Том і ўсхвалявана мяў капялюш.

— Дарэчы, звычайна ты прыгожа гаворыш,— усміхнулася яна.

— Прыйдзецца паспрабаваць,— з нацягнутай усмешкай сказаў Том.

— Што паспрабаваць? — весела спытала яна.

— Размаўляць з табою хораша, як закаханыя ў ложку,— адказаў ён.

Твар Фрэнсіс пабялеў ад раз'юшанасці, на імгненне яна схіліла галаву, але потым весела засмяялася, быццам гэты грубы намёк быў ёй даспадобы.

— Ну ты, падбірай словы! — закрычала Эн, перасцерагальна стукаючы хлопца кулаком.

— Вунь таго крата табе не прыйшлося б гэтак доўга біць,— паддражніў Том і адскочыў у бяспечнае месца, паціраючы сваю руку.

— Ага, не прыйшлося, ён памёр пасля першага ўдару,— з дзёрзкасцю, якую яна ненавідзела, сказала Фрэнсіс.

— Ты змагла б забіць крата? — павярнуўшыся да яе, спытаў Том.

— Не ведаю, ці я злая на іх,— рашуча адказала яна.

— Не змагла б? — насцярожана спытаў ён.

— Я змагла б,— яшчэ больш цвёрда дадала Фрэнсіс,— калі б гэта было неабходна.

— Значыць, ты не лічыш, што гэта неабходна? — недаверліва спытаў Том.

— Э-э-э, і сапраўды, неабходна гэта ці не?

Яна халодна, не адводзячы вачэй, глядзела на яго.

— Я ўпэўнены ў гэтым,— не гледзячы на яе, але настойліва адказаў Том.

Фрэнсіс усміхнулася.

— Але гэта не патрэбна мне,— крыху пагардліва сказала яна.

— І праўда, табе не патрэбна,— адказаў Том.

Яна няўпэўнена засмяялася.

— Я ведаю, што няма ніякай патрэбы,— сказала Фрэнсіс.

Настала няёмкая паўза.

— Дык ты хацеў бы, каб я забівала кратоў? — дагодліва спытала яна крыху пазней.

— Яны прыносяць нам вялікую шкоду,— злосна, упарта стоячы на сваім, адказаў Том.

— Добра, я паспрабую, калі яшчэ раз знайду крата,— з выклікам паабяцала яна. Іхнія позіркі сустрэліся. І яе сэрца сціснулася пад ягоным паглядам, яе гордасць знікала. Няёмкасць, весялосць, збянтэжанасць — усё разам апанавалі Тома, нібы ў руках ён трымаў свой лёс. На адыход Фрэнсіс усміхнулася.

— Паслухай,— сказала Эн, калі сёстры перайшлі пшанічнае поле,— ніяк не зразумею, пра што вы так доўга балбаталі?

— Не разумееш? — шматзначна ўсміхнулася Фрэнсіс.

— Не. Але ўсё роўна, на маю думку, Том Смэдлі значна лепшы за Джымі: прыгажэйшы — і ўсё такое.

— Магчыма, лепшы,— халодна адказала Фрэнсіс.

На другі дзень пасля настойлівага, тайнага палявання яна знайшла яшчэ аднаго крата, які бавіўся на сонцы. Яна забіла яго і ўвечары, калі Том выйшаў да варот, каб пасля вячэры выкурыць люльку, прынесла яму мёртвае крацяня.

— Вось, паглядзі! — сказала яна.

— Ты злавіла яго? — спытаў ён, узяўшы ў руку аксамітны труп крацяняці, і, каб схаваць сваё хваляванне, хвіліну разглядваў яго.

— Ты думаў, што я не змагу? — спытала яна, наблізіўшыся да яго.

— Думаў, што не.

Яна засмяялася яму ў твар; гэты дзіўны, непрацяглы смех, пазбавіўшы яе дыхання, увабраў у сябе ўсю яе ўсхваляванасць, слёзы, безразважнае жаданне. Том выглядаў разладжаным і спалоханым. Фрэнсіс узяла яго за руку.

— Ты пойдзеш за мяне замуж? — з цяжкасцю, неспакойным голасам спытаў Том.

Няўпэўнена ўсміхнуўшыся, яна адвярнула свой твар. Кроў забурліла ў яго венах; моцныя, неадольныя пачуцці апанавалі яго. Ён супраціўляўся, але не вытрымаў і здаўся. Нястрымнае каханне да Фрэнсіс і пяшчотнасць аваладалі ім, калі ён убачыў кволую, прывабную шыю дзяўчыны.

— Трэба будзе сказаць тваёй маці,— прамовіў ён, пакутліва супраціўляючыся свайму гарачаму жаданню.

— Добра,— адказала яна нечуллівым голасам. Але ў гэтай нячуласці была нотка трапяткой асалоды.

**З англійскай пераклаў**
**Сяргей ТАКЛЁНАК**

---

[1] Радасць жыцця (фр.).

# ДА НАС, А НЕ АД НАС

У беларускіх плакатыстаў Вольгі і Аляксандра Даманавых ёсць ужо многае. Ёсць узаемнае каханне, ёсць двое дзяцей. Ёсць два таленты, злітыя ў адзін. Ёсць майстэрства і поспехі. Цяпер да іх прыйшло і прызнанне. Але гаварыць пра сябе яны адмовіліся. Я доўга круціў у руках блакнот, пакуль не згадаў старое правіла: не ведаеш, з чаго пачаць, пачынай з канца.

— Ну добра. Тады традыцыйнае пытанне пра вашы творчыя планы...

АЛЯКСАНДР: — Працягваць...

— А больш канкрэтна?

ВОЛЬГА: — Вы ж бачылі на выставе летась у верасні, на што здольныя нашы плакатысты. Але гаварыць пра вялікія поспехі беларускага плаката як з'явы пакуль рана. Напрыклад, некаторыя нашы плакатысты могуць досыць паспяхова ўдзельнічаць у міжнародных конкурсах. Але міжнародныя конкурсы праводзяцца па двух раздзелах: тэматычныя і конкурсы друкаваных плакатаў. На тэматычных можна прадстаўляць арыгіналы плакатаў. Вось тут мы і ўдзельнічаем, бо ўсё залежыць толькі ад саміх мастакоў. Намаляваў — паказаў. Але тэматычных конкурсаў праводзіцца мала — галоўную ролю іграе друкаваны плакат.

АЛЯКСАНДР: — Прабач, тут трэба растлумачыць. На сусветным рынку патрабуецца канчатковая прадукцыя — друкаваны плакат. Тут і ўзнікае праблема: каб падняць узровень беларускага плаката, трэба як мага шырэй удзельнічаць у міжнародных конкурсах, а для гэтага неабходна мець магчымасць друкаваць плакаты. Нашы магчымасці вы ведаеце. З аднаго боку, прамаруднююць на ўзгадненнях, пакуль не збяруць заказы ад гандлёвых арганізацый.

— Дзе ж выйсце?

ВОЛЬГА: — Не ведаю, як гэта зрабіць... Хоць, напрыклад, у адной з друкарняў павінна быць лабараторыя, участак, эксперыментальны аддзел, ці што, дзе мастакі маглі б надрукаваць хоць бы ручным спосабам 30—50 адбіткаў для ўдзелу ў міжнародных конкурсах.

АЛЯКСАНДР: — Глядзіце, што цяпер адбываецца. Напрыклад, прадпрыемства хоча выйсці на міжнародны рынак са сваёй прадукцыяй. Без рэкламы туды не выйдзеш. Гэта закон. Хто створыць гэтую рэкламу? Каму даручыць? Справа адказная. Рэкламу для саюзнага рынку прадпрыемствы вымушаны заказваць нашым мастакам і друкаваць у нашых друкарнях. А міжнародную? Думаеце, ідуць да нас, да нашых мастакоў? Не, ідуць да замежных. Навошта заказчыку пакутаваць з нашымі ўзгадненнямі і друкарнямі? Заплаціць замежным майстрам — атрымае плакаты. А гэтыя ж грошы маглі б ісці да нас, а не ад нас.

ВОЛЬГА: — А пра тое, што пры гэтым тармозіцца развіццё нашага ўзроўню, мы ўжо і маўчым...

АЛЯКСАНДР: — Гэта ўжо другі бок праблемы — стаўленне да плаката ў нас у рэспубліцы, у краіне. Вы ведаеце, дзе звычайна ў нашым Палацы мастацтва вешаюць плакаты? Паводле прынцыпу: дзе месца застанецца.

— Можа, у гэтым ёсць свая спецыфіка плаката?..

АЛЯКСАНДР: — Час разумення плаката як мастацтва «на плоце» даўно прайшоў. Ва ўсім свеце створаны і ствараюцца музеі плаката, плакат даўно стаў жанрам станковага мастацтва, музейнага мастацтва. І нам трэба думаць аб стварэнні такога музея.

— Па-мойму, нам цяпер трэба столькі музеяў, што плакат няхутка дачакаецца свайго памяшкання.

ВОЛЬГА: — А ці не магло б узяць на сябе ролю стваральніка такога музея, напрыклад, выдавецтва «Беларусь», якое займаецца спецыяльна выданнем беларускага плаката? Месца плакат займае мала. У Дзяржкамвыда ёсць выставачная зала, якая, дарэчы, досыць часта пустуе. Менавіта выдавецтва зацікаўлена ў павышэнні ўзроўню рэспубліканскага плаката і таму можа і павінна праводзіць штогодні рэспубліканскі конкурс плаката, каб выяўляць новыя таленты, дапамагаць пачаткоўцам...

Далей мы досыць доўга фантазіравалі аб формах музейнае работы...

**Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ**

**ВЕРНІСАЖ**











Аляксандр САЛАДУХА

## МУЗЫЧНЫ ПРАСПЕКТ

Аляксандра Саладуху мы маглі б убачыць сярод удзельнікаў Усесаюзнага телефестывалю маладых выканаўцаў «Юрмала-89».

Маглі б — і не ўбачылі.

Атрымаўшы перамогу ў рэспубліканскім адборачным туры фестывалю, які адбыўся летась у Наваполацку, Аляксандр ў добрым настроі сустрэў сваё трыццаціголдзе. А ўжо літаральна назаўтра даведаўся, што ў Юрмалу ён паедзе... хіба што ў якасці гледача. Адборачная камісія вырашыла быць прынцыповай і да канца выканаць умовы фестывалю, паводле якіх на сцэну канцэртнае залы «Дзінтары» дапускаюцца толькі выканаўцы, якім не споўнілася трыццаці.

Паспрабуйце ўявіць, што павінен адчуваць у такой сітуацыі артыст, якога ў самы апошні момант пазбавілі заваяванага ім шчаслівага білета, а з ім і магчымасці быць прадстаўленым усесаюзнаму слухачу? Што, калі менавіта на гэтым фестывалі яму было наканавана перажыць сваю зорную гадзіну? Можна, вядома, цешыць сябе здагадкамі на гэты конт, ды ад іх, як кажуць, ні холадна, ні горача.

Прафесійным выканаўцам Аляксандр Саладуха стаў, закончыўшы... медыцынскі інстытут. Вопыту набіраўся, працуючы ў санэпідэмстанцыі, затым у рыбнаглядзе рэспублікі. Шлях, вядома, не самы тыповы для спевака, але ж і не скажаш, што вельмі ўжо незвычайны: спяваюць жа (ды яшчэ як!) у нас на эстрадзе архітэктары, фізікі, педагогі. Чым жа медыкі горшыя?

Гэта, вядома, так, жартам. Бо сам Аляксандр поўны жадання даказаць усім, што заняўся музыкаю ўсур'ёз і надоўга і пасля «праколу» з Юрмалай рук зусім не апусціў. Маючы за плячыма досыць вялікі стаж работы з рознымі эстраднымі калектывамі, у тым ліку з Дзяржаўным канцэртным аркестрам (чым не рэкамендацыя для выканаўцы?), ён вось ужо некалькі месяцаў працуе ў нядаўна адкрытым у сталіцы рэспублікі мюзік-холе. Спяваць, праўда, яму прыходзіцца пад інструментальную фанаграму, але затое ў суправаджэнні балетнае групы. А калі не заняты ў мюзік-холе, ездзіць па рэспубліцы. Выступае перад слухачамі, акампаніруючы сабе на гітары або раялі. Спявае песні Аляксандра Разенбаўма, Веранікі Долінай, Юрыя Лазы. Асобна ў яго рэпертуары — цыкл песень беларускіх кампазітараў, самыя «ўдарныя» з якіх напісаны наймаладзейшым членам Саюза кампазітараў БССР Алегам Елісеенкавым. Магчыма, некаторыя з іх — напрыклад, «Ляціць страла», «Рукі» — чулі і вы, яны ўжо не раз гучалі ў праграмах рэспубліканскага радыё і тэлебачання.

Менавіта яны, гэтыя песні, разам з выразным вакалам і раскаванай, экспансіўнай манерай трымацца на сцэне, і ёсць той асноўны капітал артыста, які дазваляе гаварыць пра ягоную індывідуальнасць.

Ці хопіць яму гэтага капіталу, каб, адолеўшы ўсё-такі «сілы мясцовага прыцягнення», выйсці на ўсесаюзную арбіту?

Аляксандр Саладуха ва ўсякім разе надзеі на гэта не страчвае.

**Юрый ЦЫБІН**



Вілі і Антон ТОКАРАВЫ



# РОК-АНКЕТА



АНОНС!

**Мода на ўсялякія анкеты і апытанні не абышла і рок. Часопіс «В мире книг» праводзіць апытанне з мэтаю вызначыць дваццаць лепшых, як на думку нашых меламанаў, альбомаў за ўсю гісторыю маладзёжнай музыкі. Ленінградская «Аврора» з дапамогаю журналістаў склала спіс самых папулярных запісаў айчыннага року. Многія выданні праводзяць рэгулярныя хіт-парады. Але нас цікавіць думка слухачоў Беларусі. Было б цікава супаставіць, скажам, нашую дваццатку лепшых пласцінак з усесаюзнай, і адным разам з польскай, англійскай, амерыканскай.**

**Спадзяёмся, «Рок-анкета» «Крыніцы» дапаможа нам бліжэй пазнаёміцца з беларускай рок-аўдыторыяй, каб улічваць яе густы ў музычных публікацыях.**

**Вядома, маладзёжная музыка мяняецца з году ў год. І мы вырашылі не складаць адзінага спісу пласцінак, а «разбіць» апытанне на некалькі частак. Модны найноўшы альбом і слуханая-пераслуханая пласцінка, мастацкая каштоўнасць якой праверана двума дзесяцігоддзямі, знаходзяцца ўсё роўна як у розных вагавых катэгорыях.**

**Таму — пачнём спачатку!**

**Сёння мы прапануем вам вызначыць дваццаць лепшых альбомаў сусветнай рок- і пап-музыкі з 1961 па 1970 гады выпуску. Дзеля гэтага трэба:**

**· пералічыць на паштоўцы (менавіта на паштоўцы, калі ласка!) дзесяць, як на вашую думку, лепшых альбомаў 60-х г., па меры змяншэння вашых сімпатый;**

**назваць па парадку: 1) назву кожнай пласцінкі; 2) год выпуску; 3) групу ці выканаўцу;**

**назваць сваё імя, прозвішча, адрас. Калі хочаце, коратка раскажыце пра сябе — ваша родная мова, прафесія, кола інтарэсаў;**

**у верхняй частцы паштоўкі напісаць: «РОК-АНКЕТА А»;**

**даслаць паштоўку на адрас рэдакцыі «Крыніцы».**

**Чаму «А»? Сказаўшы «а», мы павінны сказаць і «б». Наступны выпуск «Рок-анкеты», як вы здагадаліся, будзе прысвечаны музыцы 70-х.**

**Вядома, тым з вас, хто пачаў слухаць маладзёжную музыку нядаўна, наша першая анкета можа здацца нецікавай. Але, можа, яе вынікі (а мы плануем апублікаваць спіс 20 лепшых альбомаў 1961—1970 гг., вызначаны чытачамі «Крыніцы») адкрыюць вам нешта новае! Новае ж, як вядома,— гэта добра забытае старое.**

**І ваш голас можа стаць рашаючым у вызначэнні беларускай «дваццаткі» 60-х гадоў! Да таго ж, «Рок-анкета» пастараецца вызначыць таксама «дваццатку» экспертаў, апытаўшы беларускіх рок-журналістаў, калекцыянераў, музыкантаў, уладальнікаў архіваў. Мы апублікуем прозвішчы тых чытачоў, чые «дзесяткі» супадуць з першай «дзесяткай» экспертаў, і пастараемся ўключыць іх у лік апошніх. Пішыце!**

АДДЗЕЛ САЦЫЯЛЬНЫХ ПРАБЛЕМ





«АКЦЭНТ» РОК-ГУРТ



«РАДА» РОК-ГУРТ

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук,**
**прафесар**

# З ТРЭЦІХ РУК

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

У артыкуле «Укротители иных точек зрения» Т. Бумажковай (часопіс «Политический собеседник», № 4, 1989 г.) мяне заінтрыгаваў загаловак: як можна «укрощать точку»? Прывабіла і думка: «Дорогу к истине творит только правда: эмоции — не аргумент». Дагэтуль меркаваў, што слова «ісціна»— сінонім слова «праўда». Па аналогіі можна сказаць, што дарогу да працы творыць работа, ці бяздумна паўтараць нядаўняе: «Эканоміка павінна быць эканомная». Зрэшты, усё гэта вядома кожнаму школьніку і завецца «таўталогія» ці менш вытанчана —«масла масленае». Але сутнасць, вядома, не ў гэтым. Галоўнае — у іншым. Артыкул уражвае перш за ўсё грубасцю. Вось узорчыкі, шчодра рассыпаныя па старонках: «Барьер политической слепоты», «духовная и политическая мимикрия», «высасываются из пальца», «сорвал приз», «подмоченная репутация», «сомнительные методы выдвижения и продвижения фильма», «подвести под монастырь», «запущенный еж», «ритуал божбы», «чешутся руки унизить», «жуликоватые дети лейтенанта Шмидта», «откровенное хамство... отставного генерала», «неплохое владение техникой навета», «бериевский уровень каких-то слухов», «сонм... антиперестройщиков» і інш.

Гэтыя і іншыя «перлы», узятыя напракат з лексікону камунальных кухняў і жданаўска-вышынскіх «разгромаў», выкарыстоўваюцца з адной мэтаю: даказаць недаказальнае — інакш кажучы, уратаваць ад крытыкі, якой быў падвергнуты ў органах друку і на радыё папярэдні артыкул Т. Бумажковай «Барьер политической слепоты» («Политический собеседник № 1, 1989 г.). У гэтым артыкуле з гучнай і адначасна пустой назваю былі падвергнутыя прыніжальнаму разгрому пісьменнікі В. Быкаў, А. Адамовіч, С. Алексіевіч, А. Анфінагенаў і Ю. Чарнічэнка. Дастаецца і рэдакцыі часопіса «Огонек».

Безумоўна, няма нічога страшнага, калі Т. Бумажкова бярэцца крытыкаваць грамадскую дзейнасць Васіля Быкава. Плюралізм і дэмакратыя сёння сталі натуральнай часткаю нашага жыцця. Іншая справа, як крытыкаваць, у імя чаго гэта рабіць? Агрэсіўнасць, крыклівы тон і іншае негатыўнае — усё гэта выклікала ў грамадскасці рэспублікі натуральны пратэст. Да скандальнага артыкула звернута нататка «Это не плюрализм» С. Гульянц, надрукаваная ў «Советской Белоруссии» ад 31.01.1989 г. Яму ж прысвечана перадача радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная», дзе выступілі С. Алексіевіч і маскоўскія пісьменнікі А. Анфінагенаў і Ю. Чарнічэнка. Рупліва, праўдзіва і па-дзелавому разбірае артыкул пісьменнік, генерал-маёр у запасе А. Сульянаў «Не інтэлігентна ўсё гэта» («Літаратура і мастацтва», № 8, 1989 г.). Здаецца, ва ўсіх адносінах самавітыя і ўжо, ва ўсякім выпадку, нашмат больш вядомыя ў грамадскім жыцці людзі адказвалі Т. Бумажковай. Прыслухацца б да іх, падумаць. Ды дзе там! Т. Бумажкова рвецца ў бой. Прыёмы атакі тыя ж — крык, абразы. Так, артыкулы ў 1-ым і 4-ым нумарах «Политического собеседника» не толькі не інтэлігентныя. Яны ўносяць раскол, абуджаюць самыя разбуральныя інстынкты. Менавіта да падобнай творчасці адносяцца словы М. С. Гарбачова, сказаныя летась у студзені на сустрэчы з дзеячамі навукі і культуры: «На самай справе публікацыі некаторых літаратурных органаў у напаленай атмасферы групавой барацьбы ўсё часцей сталі пераступаць элементарныя нормы прыстойнасці і разумныя межы палемічнай самаабароны, ператвараючыся нярэдка ў сродак недарэчных палітычных абвінавачанняў».

Калі зыходзіць з пазіцый няўмольнае логікі, то пры чытанні гэтых артыкулаў Т. Бумажковай пастаянна сустракаешся з супярэчнасцямі. Так, знешне яна нібыта за плюралізм думак. Ва ўсякім разе заклікі да гэтага ёсць. Толькі вось тон артыкулаў і высновы поўныя неталерантнасці да ўсяго, што не адпавядае меркам аўтара і яе поглядам, вельмі ўжо падобным да догмаў недалёкае мінуўшчыны.

«Бар'ер палітычнай слепаты» пачынаецца доўгім і малазразумелым уступам: «Палітыка ведае нямала прыкладаў, калі рух, плынь на стадыі свайго нараджэння або проста постаць, якая з'явілася на арэне, маючы на ўвазе свае дальнія, часта вельмі сумніцельныя мэты, прыкрываецца, тым не менш, выключна высакароднымі шырмамі». Далей чытаем: «Пра іх і ідзе гаворка — пра тых, хто ў самы напружаны, адказны для дзяржавы і народа час узяўся муціць ваду, каб вылавіць пару-другую рыбак. Для сябе, вядома». Хто ж гэтыя хітрыя злачынцы, вельмі небяспечныя з-за таго, што свае карыслівыя мэты здзяйсняюць «под пологом горячих слов о морали, нравственности, долге»? Цяжка паверыць, але гэта В. Быкаў і А. Адамовіч. Можа, журналістцы Т. Бумажковай не падабаецца, як піша народны пісьменнік Быкаў? Але гэта яшчэ не падстава для такой развязнасці. Трэба ж меркаваць, што нават Т. Бумажкова ведае: Васіль Быкаў у сваіх кнігах верны Праўдзе і толькі Праўдзе.

За гэтую праўду яго жорстка білі ў рэспубліканскай і ўсесаюзнай прэсе ў канцы 60-х — пачатку 70-х гадоў. Сёння гісторыя паўтараецца на старонках «Политического собеседника». Зноў паляванне на ведзьмаў? Хіба В. Быкаў напісаў і расказаў няпраўду аб разгоне мітынгу 30-га кастрычніка мінулага года? Хіба крыўдныя рэдакцыйныя недакладнасці могуць запэцкаць Учынак пісьменніка? Для апісання **такой** праўды неабходныя мужнасць і пачуццё грамадзянскага абавязку. Якую карысць мае В. Быкаў ад выканання свайго пісьменніцкага і грамадзянскага абавязку? Ды ніякае! Бадай, адны непрыемнасці. Але сапраўдны пісьменнік жыве і працуе не толькі для сённяшняга, але і для заўтрашняга дня. І нашчадкі, а не кан'юнктуршчыкі дадуць ацэнку ягонай працы.

У «Бар'еры палітычнай слепаты» шмат пішацца пра «быкаўскі фронт». Падумала б Бумажкова, перш чым прыдумаць такую недарэчнасць. Так, В. Быкаў быў на фронце. І маладым журналістам трэба было б пачціва падзякаваць заслужанаму чалавеку за гэтую цяжкую старонку ягонага жыцця. Метады ж, выкарыстаныя Т. Бумажковай у дачыненні да В. Быкава і яго «фронту», вымушаюць задумацца: якая ўжо тут культура дыскусій! Тут увогуле трэба гаварыць пра элементарную культуру паводзін.

Ці вось яшчэ. Бумажкова абвінавачвае В. Быкава ў «некарэктнасці» паводзін на ўстаноўчай канферэнцыі «Мартыралогу Беларусі». Што ж, трэба прызнаць, што і тут аўтар дзейнічае ў звычных рамках свайго пошуку «ісціны», за якую змагаецца часопіс, што аддаў ёй свае старонкі. Ці трэба гаварыць пра тое, што сур'ёзны журналіст павінен строга прытрымлівацца фактаў, і ўжо ва ўсякім разе пісаць пра тое, што бачыў або чуў сам асабіста. А Т. Бумажковай 19 кастрычніка 1988 года ў Доме кіно, відавочна, не было. Інакш не стала б яна расказваць пра «сцэну», на якую выходзілі прамоўцы, бо сцэны ў зале, дзе праходзіла канферэнцыя, проста не было. Значыцца, усё напісана з чужых слоў, без адпаведнай праверкі. Маленькая недакладнасць? Але яна, як вядома, нараджае вялікі недавер. Той, хто піша «са слоў», па ўказцы, выклікае адно спачуванне. Зрэшты, хутчэй за ўсё ў Т. Бумажковай і тых, хто рыхтаваў яе матэрыял да друку, няма ніякага жадання прыняць гэтыя спачуванні.

Калі В. Быкава журналістка «крытыкуе», карыстаючыся інфармацыяй з трэціх рук, дык яе няпрыязь да А. Адамовіча грунтуецца на тым, што фільм «Ідзі і глядзі» нібыта не спадабаўся некаторым ананімным «ветэранам вайны — удзельнікам партызанскага руху». Што ж, і тут ёсць над чым падумаць. Па-першае: па-рознаму можна падабраць «думкі». Нават цяпер, у час плюралізму. Мне вось чамусьці здаецца недэмакратычным тое, што часопіс «Политический собеседник», сістэматычна разбіваючы «ў пух і прах» «нефармалаў», ніяк не дасць ім слова. Такі вось своеасаблівы плюралізм! Па-другое, ветэраны — людзі розныя. Давайце гаварыць сур'ёзна і адказна. Бо паслухаеш адных ветэранаў, дык вайна ўяўляла сабою толькі набор геройскіх подзвігаў. Паслухаеш іншых, вайна — гэта найстрашнейшая трагедыя чалавецтва, якая не паддаецца ніякаму асэнсаванню і якая аднолькава нявечыла душы яе ўдзельнікаў і з таго, і з другога боку лініі фронту. Натуральна, першыя хочуць, каб іх паказвалі толькі казачнымі асілкамі. Не ўсё было адназначным і ў партызанскім руху. Пра гэта ў «разгромленай» аповесці «Круглянскі мост» пісаў, дарэчы, В. Быкаў. Пра гэта добра ведае і 16-гадовы партызан А. Адамовіч. Я таксама ўдзельнік вайны, многае бачыў, перажыў, асэнсаваў. І я веру гэтым людзям. Ёсць падставы меркаваць, што адносіны Т. Бумажковай да А. Адамовіча сфарміраваліся зусім не ў час прагляду ягонага фільма. Тут, напэўна, таксама не абышлося без паслуг (і якіх!) трэціх асоб. Напрыклад, з нататкі «Ярлыкі ўчора і сёння» ў «Вячэрнім Мінску» падхоплена дзікае абвінавачанне ў адрас А. Адамовіча. Сцвярджаецца, што ў «Огоньке» («Оглянись окрест!», № 39, 1988 г.) ён абразіў мінчан. Але ж гэта няпраўда, і відавочнае скажэнне сутнасці гэтага артыкула. А. Адамовіч дакладна пісаў, што Мінск заслужыў «апошнім часам сумную рэпутацыю антыперабудовачнай Вандэі **стараннямі некаторых грамадазнаўцаў і ідэалагічных начальнікаў**». Назваў і некаторыя імёны. Значыцца, маюцца на ўвазе не паўтара мільёна мінчан. Бо стараннi «некаторых грамадазнаўцаў і ідэалагічных начальнікаў»— гэта не старанні ўсяго працоўнага Мінска. Нідзе не сцвярджаў ён, што «за» перабудову адзін толькі В. Быкаў, а «супраць» — аж паўтара мільёна. Дарэчы, мінчане выдатна зразумелі, пра каго ішла гаворка ў артыкуле А. Адамовіча, і 30 кастрычніка мінулага года слова «Вандэя» гучала па пэўнаму адрасу.

Артыкул «Не інтэлігентна ўсё гэта» напісаны Анатолем Сульянавым грунтоўна, аргументавана, пераканаўча, праўдзіва і, у параўнанні з «Бар'ерам палітычнай слепаты», вельмі карэктна. У ім прыведзены факты грубага скажэння Т. Бумажковай выказванняў і дзеянняў В. Быкава і А. Адамовіча. Цалкам далучаюся да слоў А. Сульянава: «Цаны няма В. Быкаву і А. Адамовічу за іх моц і сілу — варочаюць цэлай грамадскай свядомасцю». Ад сябе не толькі як ад беларуса, але і чалавека ўвогуле дабаўлю, і не баюся перабольшыць, што яны — гонар беларускага народа, што іх намаганні ў літаратуры і грамадскай дзейнасці на ўвесь свет праславілі нашую рэспубліку. Менавіта такія, як яны, паскорылі наступленне перабудовы і садзейнічаюць яе эфектыўнасці. Абодва яны па заслугах выбраны народнымі дэпутатамі СССР.

Інтэрв'ю з В. Быкавым ў «Литаратурной газете» («Под знаком перемен», 18.01.1989 г.) было надрукавана па просьбе чытачоў. Само жыццё пацвердзіла справядлівасць ягоных слоў: «Тое, што здарылася 30 кастрычніка 1988 г. у Мінску... з'яўляецца... замахам на разгорнутыя ў рэспубліцы дэмакратызацыю і перабудову. Рана ці позна гэта прыйдзецца прызнаць рэспубліканскаму кіраўніцтву». Падкрэслю, што ўрокі мінскіх падзей не ўлічылі грузінскія кіраўнікі. Трагедыя 9 красавіка ў Тбілісі паказвае, як далёка могуць пайсці антыперабудовачныя сілы ў імкненні «правучыць» свой народ.

І апошняе.

Прапануючы гэты ліст да друку, я добра разумею, што «падстаўляю» сябе пад магчымы «абстрэл» і нават праследаванні. Сёй-той гэта заахвочвае. Вопыт такіх дзеянняў у нядаўнім мінулым велізарны. Многае адтуль запазычваецца і сёння пад яркімі лозунгамі перабудовы. Але гэтым яе можна толькі затармазіць. Спыніць яе немагчыма. У гэтым няўмольная заканамернасць жыцця.

## АД РЭДАКЦЫІ

**«Политический собеседник» верны сабе. У пятым нумары кандыдат гістарычных навук В. Казлякоў выступіў з артыкулам «Кому нужно лечиться!» Артыкул датычыць непасрэдна часопіса «Крыніца». Прачытаўшы яго, мы дужа здзівіліся. Выяўляецца, што мы не проста благія, але нават меншавікі. Як вам! Як кажуць, прыплылі, дадыскутаваліся...**

**Карацей кажучы, мы вырашылі не адказваць на недарэчнасці, напісаныя ў састарэлым жанры іадэалагічнага разносу, але выказваем самае шчырае спачуванне калегам з «Политического собеседника»: ёсць цяжкасці з аўтарскім актывам, разумеем, што рэдакцыю атакуюць графаманы. Часам ад іх цяжка адбіцца. Іншы раз прыходзіцца ісці з імі на кампрамісы. Але ж не да такой ступені...**



# ПА МЕТАЛУ

## НАТАТКІ ПРА ГРУПУ «СКАРПІЁНЗ»

Ігар ГУКОЎСКІ

Сёння на сценах дамоў, ліфтаў, на лаўках у скверах — усюды можна сустрэць зробленыя нажом, вугалем ці аэразолевай фарбаю надпісы на англійскай мове «Акцэпт», «Металіка», «Скарпіёнз». Маладыя аматары хард-н-хэві старанна вымалёўваюць імёны сваіх куміраў дзе толькі можна, хаця, натуральна, больш там, дзе нельга, па прастаце душэўнай, а дакладней будзе сказаць, праз невуцтва сваё дэманструючы такім чынам сваю любоў. Зрэшты, «Скарпіёнз» («Скарпіёны») з'яўляюцца ў гэтых спісах не так часта. Такім рок-ветэранам, як яны, нялёгка дужацца з маладзейшымі гуртамі. Не на рок-сцэне, вядома, а ўсё ў тых жа насценных войнах. А на рок-сцэне «Скарпіёнз» якраз выглядаюць лепей. Пра гэта сведчаць і хіт-парады розных краін свету, якія даюць высокую адзнаку творчасці гэтага заходнегерманскага ансамбля. Так, напрыклад, апошні альбом групы «Дзікае захапленне», які выйшаў у 1988 годзе, у спісах часопіса «Саўндз» узняўся да трэцяга месца. Ці ж трэба казаць, што гэтае месца вельмі ганаровае.

«Скарпіёнз» не належаць да груп-скараспелак. Іхні шлях да лаўраў быў цяжкі. На тое былі і аб'ектыўныя прычыны. Справа ў тым, што ў канцы 60-х — пачатку 70-х гадоў Заходняя Германія яшчэ не была прадстаўлена тым самавітым спісам знакамітых рок-груп, якія мы ведаем сёння. І на долю «Скарпіёнз» выпаў нялёгкі лёс — аднымі з першых заваёўваць прыхільнікаў у Вялікабрытаніі і ЗША — прызнаных цэнтрах рок-культуры.

Группа была створана ў 1965 годзе ў Гановеры па ініцыятыве барабаншчыка Рудольфа Шэнкера, які вельмі хутка адкрыў у сабе і гітарыста. Праз нейкі час Шэнкер ужо дасканала валодаў гэтым інструментам і дакладна капіраваў «Ролінг Стоўнз», «Ху», «Энімалз» і іншыя папулярныя на той час ансамблі. Склад маладой групы пастаянна мяняўся, але ўсе перамены ніяк не адбіваліся на творчым росце.

І вось праз год Рудольф Шэнкер знаёміцца з вакалістам з групы «Капернік» Клаўсам Майнэ, які стаў другім «краевугольным каменем» у стварэнні цяперашніх «Скарпіёнз», тых, якія выйшлі да вяршынь музычнага Алімпу і якіх мы чуем сёння.

У 1967 годзе да гэтай пары далучыўся малодшы брат Рудольфа гітарыст Майкл Шэнкер.

Наступныя чатыры гады прайшлі ў бясслаўных і на першы погляд бескарысных канцэртных выступленнях. Гэта быў цяжкі час, час хістанняў і сумненняў у мажлівасці будучага поспеху. Але музыканты па-ранейшаму гралі, і аднойчы іх настойлівасць была ўзнагароджана. Маладая група прыглянулася студыі «Метраном», якая ў 1972 годзе выпусціла першы альбом «Скарпіёнз». Ён называўся «Адзінокая варона». У яго запісе апроч Майнэ і братоў Шэнкераў прымалі ўдзел басіст Лотхар Хаймберг і ўдарнік Вольфганг Дзіні. Дэбют прынёс «Скарпіёнз» лакальную вядомасць. Цяпер яны выступаюць у якасці падаграваючай каманды перад выступленнямі брытанскіх рок-зорак. Вядома, гэта быў досыць сціплы лёс для маладых музыкантаў, якія прагнулі шырокага прызнання. Але, з другога боку, выступаючы разам з сусветнымі знакамітасцямі, яны багата чаму навучыліся — і ў музычным плане, і ў манеры трымацца на сцэне.

Неўзабаве калектыў значна абнаўляецца. І пасля пэўнага часу «абкаткі» новага складу Рудольф Шэнкер, Клаўс Майнэ, а таксама Урых Рот (гітара), Фрэнсіс Бухгольц (бас) і Ерг Розэнталь (ударныя) выступілі з новай праграмаю. Дзякуючы яе хард-рокавай накіраванасці яна была заўважана вялікай пласціначнай фірмаю RCA.

У 1974 годзе «Скарпіёнз» выпускае пласцінку «Палёт да вясёлкі», а ў 1975 годзе —«У трансе». У тым самым 1975 годзе группа выступала ў Вялікабрытаніі, дзе грала ў лонданскім клубе «Маркі», адкуль у свой час стартавалі ў вялікі свет «Ролінг Стоўнз», «Ярбёрдз», «Ху» і іншыя папулярныя калектывы.

«Нявінны забойца», безумоўна, адносіцца да творчых удач «Скарпіёнз». На гэтай пласцінцы ўжо дакладна вызначыліся ўсе асноўныя элементы музычнага накірунку групы: меладычны хард-рок з чаргаваннем лірычных кампазіцый («У тваім парку», «Жоўты груган») і больш вострых («Нявінны забойца», «Чортаў кот»). Яркі вакал Клаўса Майнэ і гітарная ігра Рудольфа Шэнкера, які мае не толькі добрую тэхніку выканання, але і цудоўны музычны густ, яшчэ больш падкрэслівалі індывідуальнасць «Скарпіёнз».

Дзякуючы гэтаму і наступнаму альбому «Захоплены сілаю» (1977), а таксама прыходу барабаншчыка Германа Рэйрбэла, які замяніў Розэнталя, яны становяцца папулярныя не толькі ў сябе на радзіме, але і на ўсім кантыненце.

Цяпер «Скарпіёнз» выпраўляюцца ў заакіянскія гастролі. Вынікам турнэ па Японіі стаў канцэртны альбом, які так і называецца: «Канцэрт у Токіо» (1978). Пасля гэтага ў групу вяртаецца Майкл Шэнкер, але ўрэшце зноў пакідае яе і гэтым разам назаўсёды, каб арганізаваць сваю «Групу Майкла Шэнкера». Амаль адначасна з ім, адчуўшы сябе сфарміраваным музыкантам, выходзіць са складу групы і таксама стварае свой уласны гурт »Электрычнае сонца» Урых Рот. Іх абодвух замяняе Маціяс Джаб.

У такім складзе «Скарпіёнз» выпраўляюцца «заваёўваць» Амерыку. А каб Амерыка доўга не вагалася, у 1979 годзе, перайшоўшы пад крыло знакамітага пласціначнага канцэрна «Харвэст», яны выпускаюць адзін з лепшых сваіх альбомаў «Жаданне кахання». Адна з кампазіцый гэтае пласцінкі —«Свята»— дагэтуль застаецца любімай у прыхільнікаў і прыхільніц «скорпаў». Прыхільніц я вылучыў не выпадкова. Наўрад ці які другі гурт, што грае рок, можа пахваліцца такой велізарнай колькасцю прыхільніц свайго таленту, менавіта прыхільніц, бо пасля песень «Свята» (1979) і «Я ўсё яшчэ кахаю цябе» (1984) «Скарпіёнз» сталі сапраўднай «жаночай» групаю. Толькі з аднае любові да «скорпаў» прадстаўніцы цудоўнага полу, не раздумваючы, спяшаюцца аб'явіць сябе металісткамі.

У 1980 годзе выходзіць «Жывёльны магнетызм». Тут трохі адчуваецца ўплыў «Лэд Зэпэлін», любімага ансамбля музыкантаў. Уплыў гэты не прамы, схаваны недзе глыбока ўсярэдзіне.



Цяпер музыканты працуюць не спяшаючыся. Гэта не значыць — менш, рэпетыцыі і канцэртныя выступленні па-ранейшаму не пакідаюць часу на адпачынак. Але вось інтэрвал паміж выхадам папярэдняга і наступнага альбомаў павялічваецца. Толькі праз два гады на прылаўках магазінаў з'яўляецца «Зацьменне», якое стала новым этапам у развіцці групы. На гэтай пласцінцы пазначылася тэндэнцыя да пэўнага «пацяжэння» музыкі. Яскравай ілюстрацый можа быць кампазіцыя, якая дала назву альбому. А яшчэ праз два гады «Скарпіёнз» выпускаюць лепшую сваю пласцінку «Каханне з першага ўкусу»— адмысловая работа, ад заводнай «Хлопцы раззлаваліся» да пранікнёнай «Я ўсё яшчэ кахаю цябе».



У 1985 годзе выходзіць «Двайны канцэртны альбом» і «скорпы» замаўкаюць ажно на тры гады. Маўчанне гэтае, зрэшты, даволі адноснае. Не выпускаючы новых пласцінак, музыканты шмат гастралююць. Сярод самых запатрабавальных слухачоў група толькі тады мае вагу, калі яе канцэртныя запісы амаль не саступаюць студыйным. Гэта зразумела, у студыі можна дасягнуць высокае якасці гучання, запісваючы адну песню хоць паўгода. На канцэрце ты павінен з першага разу сыграць чыста. Гэта і дэманстрацыя тэхнічных магчымасцей групы, і ўменне трымацца на сцэне, і здольнасць усталяваць кантакт з залаю.

«Скарпіёнз» бліскуча адпавядаюць усім гэтым патрабаванням. Савецкія прыхільнікі ансамбля маглі пераканацца ў гэтым самі. Летась Клаўс Майнэ, Рудольф Шэнкер, Маціяс Джабс, Фрэнсіс Бухгольц і Герман Рэйрбэл (так выглядаюць «Скарпіёнз» сёння) пабывалі ў Савецкім Саюзе.

Для папулярнае пяцёркі з ФРГ паездка ў СССР была ўчынкам хоць і заманлівым, але ў пэўнай ступені рызыкоўным: пласцінкі іх у нас не выходзілі, ніякае рэкламы перад прыездам замежных гастралёраў практычна не праводзілася. Якое ж было здзіўленне музыкантаў, калі тысячы савецкіх меламанаў у адзін голас падхоплівалі песні на англійскай мове.

Амаль адначасна з пачаткам турнэ «Скарпіёнз» выйшла іх апошняя пласцінка «Дзікае захапленне» (1988). У ёй музыканты засталіся верныя выбранаму накірунку. А прыхільнікі групы захавалі вернасць сваім кумірам і сустрэлі выхад новага альбома з вялікім энтузіязмам.

Рой МЯДЗВЕДЗЕЎ,
народны дэпутат СССР

# КАНЕЦ «САЛОДКАГА ЖЫЦЦЯ»

**ПРА АДЗІН НЕАРДЫНАРНЫ ЛЁС ЭПОХІ ЗАСТОЮ**



Галіна Леанідаўна БРЭЖНЕВА

Гэтую жанчыну пакінулі амаль усе ранейшыя сябры і знаёмыя, і яна мала кантактуе са сваёй раднёю. Яна жыве на вялікім уласным лецішчы ў пасёлку Жукава пад Масквою, якое ёй пабудавалі па распараджэнні бацькі. Яна рэдка выходзіць з дому.

Яе муж, яшчэ нядаўна ўсемагутны генерал, змешчаны з усіх пастоў і асуджаны. Яе ўжо двойчы падвяргалі прымусоваму лячэнню ад алкагалізму, але жаночы арганізм кепска паддаецца такому лячэнню. Яна і цяпер амаль заўсёды п'яная, і яе спробы прыехаць у Маскву рашуча стрымліваюцца невялікай аховаю, якая сочыць за парадкам у гэтым раёне сямейных лецішчаў, які мясцовае насельніцтва з'едліва празвала «Царскім Сялом». У Маскве гавораць, што часам па начах гэтая жанчына выходзіць з дзвярэй свайго лецішча з рыдлёўкаю ў руках, каб праверыць, ці захаваліся на ўчастку закапаныя ёю ў ранейшыя часы каштоўнасці. Яна не чытае газет і часопісаў і дрэнна разумее, што за перабудова адбываецца ў нашай краіне, дзе яна вольна і весела пражыла ўсё сваё, поўнае прыгод і авантур, жыццё.

Чытач ужо, напэўна, здагадаўся, што гаворка ідзе пра Галіну Брэжневу — дачку Л. І. Брэжнева, якому яна заўсёды дастаўляла адны непрыемнасці.

**ГЭТА БЫЛО НЯДАЎНА, ГЭТА БЫЛО ДАЎНО**

Яшчэ ў школе Галіна вылучалася дзёрзкім і свавольным характарам. Яе не цікавілі палітыка і палітычная кар'ера, якою займаўся бацька. Нейкі час яна вучылася на філалагічным факультэце Кішынёўскага універсітэта. Але навука і педагогіка захаплялі яе гэтаксама ж мала. Адна з яе сакурсніц успамінае, што першы сакратар ЦК КП Малдавіі Брэжнеў, прыходзячы ва універсітэт, прасіў студэнтаў яе групы паўплываць на яго дачку і хоць бы перахканаць яе уступіць у камсамол. Гэта нядобра, казаў ён, я ўзначальваю партыйную арганізацыю ўсёй рэспублікі, а мая дачка не хоча стаць нават камсамолкаю. Але Галіну гэта не займала.

У 1951 годзе ў Кішынёў прыехаў на гастролі цырк «Шапіто». Галіна хадзіла на ўсе прадстаўленні. Яна захапілася Яўгенам Мілаевым, маладым асілкам і акрабатам, які мог трымаць на сабе піраміду з дзесятка людзей. Неўзабаве цырк паехаў з Кішынёва, а разам з ім, кінуўшы універсітэт, паехала Галіна. Мілаеў стаў яе першым мужам, і яна вярнулася ў сям'ю бацькі праз год, з маленькай дзяўчынкаю, выхоўваць якую стала жонка Брэжнева — Вікторыя.

Галіна пражыла з Мілаевым 8 гадоў. Яны развяліся з-за пастаянных сварак, у якіх бацькі Галіны былі на мужавым баку. Леанід Ільіч і ягоная жонка вельмі любілі ўнучку і захоўвалі добрыя адносіны з яе бацькам, які перастаў выступаць на арэне, атрымаў годнасць заслужанага артыста РСФСР, а потым і народнага артыста СССР. Былы акрабат стаў нават Героем Сацыялістычнай Працы і дырэктарам новага Маскоўскага цырка на праспекце Вярнадскага. У 1983 годзе ён памёр.

Толькі аднойчы, у 1980 годзе, калі Брэжнеў стаў Старшынёю Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, ён узяў з сабою не толькі жонку, але і 52-гадовую дачку ў афіцыйную паездку па Югаславіі. Аднак яе паводзіны і экстравагантныя касцюмы прыцягнулі залішнюю ўвагу прэсы, і ён больш не браў з сабою дачку пры візітах у іншыя краіны. Але Галіна не праставала і пасля ездзіць за мяжу. Апякунка начальніка Упраўлення цыркаў Анатоля Калеватава, Галіна ездзіла за мяжу з рознымі цыркавымі групамі і, вядома, інкогніта. Звычайна яе афармлялі ў якасці грымёра. І ніхто ў іншых краінах не ведаў, што пад выглядам сціплай служачай скрываецца дачка дзяржаўнага лідэра. Вядома, яна не плаціла Калеватаву таго хабару, які давалі яму іншыя артысты, каб пабываць за мяжою. Затое яна ў сваю чаргу апекавала сям'ю Калеватавых.

Увогуле Брэжнеў стараўся трымаць сваю дачку ў строгасці. У Маскве яна павінна была жыць з бацькам і маткаю. Брэжнеў рашуча адмаўляўся падарыць ёй уласную кватэру. Ён прымушаў яе працаваць у НДІ і весці... навуковую работу. У паўзах паміж сваімі захапленнямі Галіна здолела нават абараніць дысертацыю і стала кандыдатам навук. Зрэшты, дзівіцца няма чаго. Сам Брэжнеў праз некалькі гадоў быў узнагароджаны Ленінскай прэміяй за выдатныя дасягненні ў літаратуры.

Галіна пазнаёмілася з 32-гадовым афіцэрам МУС, які, праўда, быў не толькі на сем гадоў маладзейшы за Галіну, але меў жонку і дваіх дзяцей. Аднак жаданне быць зяцем Брэжнева пераважыла ў Чурбанаве любоў да сваёй сям'і, і неўзабаве ён стаў мужам Галіны. На гэты раз бацька быў задаволены. Муж дачкі не цыркач, не акрабат, не блазан, а афіцэр, і Брэжнеў спадзяваўся, што Чурбанаў зможа ўтаймаваць сваю, з норавам, жонку. Брэжнеў расшчодрыўся: маладажоны атрымалі асобную кватэру ў Маскве, ім пабудавалі лецішча, непадалёк ад бацькавага. Але надзеі Чурбанава спраўдзіліся толькі ў адным: ён стаў хутка рабіць кар'еру. Ужо ў 1971 годзе ён стаў адным з кіраўнікоў унутраных войскаў, ў 1977 годзе заняў пост намесніка, а ў 1980 годзе — першага намесніка міністра МУС СССР. Міністрам унутраных спраў быў, як вядома, М. Шчолакаў, адзін з бліжэйшых сяброў Брэжнева яшчэ са студэнцкіх гадоў. Менш чым за 10 гадоў Чурбанаў з падпалкоўніка вырас да генерал-лейтэнанта. Ягоная ўлада была велізарнаю, але яна не распаўсюджвалася на жонку, якая вельмі хутка перастала лічыцца з мужам і завяла сабе новых сяброў. Галоўным з іх стаў малады артыст Барыс Бурацэ. Адзін са знаёмых артыстаў расказваў: «Я бачыў у першы раз Галіну ў 1977 годзе ўлетку ў доме творчасці Тэатральнага таварыства ў Місхоры ў Крыме. Яна прыязджала туды з лецішча бацькі да свайго прыяцеля. Б. Бурацэ было тады 29 гадоў, ён скончыў аддзяленне музычнай камедыі Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва. У яго быў неблагі тэнар, але вельмі слабыя акцёрскія здольнасці. Увогуле гэта быў прыгожы брунет... Насіў джынсы, кашулі на маланцы, вастраносыя боты. На пальцы зіхацеў пярсцёнак з велізарным брыльянтам, а на шыі — кручаны залаты ланцуг, які ён не здымаў нават купаючыся ў моры. Барыс жыў у двухпакаёвым нумары «люкс» з душам, тэлевізарам... Харчаваўся не ў сталоўцы, а дома, з сябрамі. На стале чорная ікра ў вялікіх шклянках, мяса (шашлык гатаваўся на пляжы), падаваліся толькі печаны хлеб, язык, вінаград, шампанскае, гарэлка. Далікатэсы пастаўляліся Галінай Брэжневай-Чурбанавай, якая прыязджала з шафёрам Валерам на белай «Волзе».

Прыехаць было складана, яна хітравала, бо бацька ўсяляк стараўся стрымліваць дачку, якая стала ўжо тады бабуляю... Галіна была мажнай, высокай жанчынаю, якую пры ўсім жаданні нельга было назваць прыгожай. У яе былі грубыя рысы твару, вельмі падобныя на бацькавы. Цёмныя валасы, сабраныя ў пучок, і цёмныя густыя бровы. На пляжы яна хадзіла ў доўгім шоўкавым халаце.

Адносіны Барыса і Галіны былі дзіўныя. Паводле ягоных слоў, іхняя сувязь пачалася, калі Барысу было каля 20 гадоў. Наўрад ці ён кахаў гэтую жанчыну. Але Галіне здавалася, што яна закаханая ў прыгажуна акцёра, прычым страсць у яе была ўладная, вымотвала яго. Яна раўнавала Барыса, ўчыняла яму сцэны, часта з-за таго толькі, што ён паляцеў некуды не папярэдзіўшы яе, замест таго, каб чакаць яе званка. Пра жаніцьбу Барыса з якой-небудзь са сваіх знаёмых не магло быць і гаворкі. Ён быў асуджаны на ролю вечнага каханка старой і свавольнай «Мадам» — так называў Галіну брат Барыса, Міхаіл. Гэта быў надзіва прыгожы хлопец: каравокі і цёмнавалосы,

## ГЭТА БЫЛО НЯДАЎНА, ГЭТА БЫЛО ДАЎНО

# ПРА АДЗІН НЕАРДЫНАРНЫ ЛЁС ЭПОХІ ЗАСТОЮ

вельмі падобны на акцёра, які іграў у Галівудзе ролі добрых індзейцаў.

Ён не надта разумны і не дужа развіты, але гэта добры хлопец, які страшэнна нудзіцца ў нумары «люкс», хоча паслухаць музыку, «падчапіць» на пляжы дзяўчыну, а калі рабілася зусім сумна, сіл ужо не было цярпець, ён проста напіваўся дармовае гарэлкі, што скрынямі стаяла ў ягоным нумары. Напіўшыся, ён рабіўся змрочны і дазваляў сабе пагардліва гаварыць пра «Мадам», якую ён, відавочна, ненавідзеў.

Напіўшыся, яна казала гучна: «Я люблю мастацтва, а мой муж — генерал». Барыс Бурацэ жыў у Маскве ў вялікай кватэры, у доме на вуліцы Чэхава, непадалёк ад тэатра лялек. Пакоі былі шыкоўныя. Ён меў шмат брыльянтаў, і сябры часта называлі яго паміж сабою «Барысам Брыльянтавым». Даўно прайшлі часы, калі, з'явіўшыся ў Маскве ў тэатры «Рамэн», ён сціпла жыў, здымаючы пакой у чужой кватэры. Цяпер ён працаваў у Вялікім тэатры, спачатку стажорам, потым артыстам, хоць наўрад ці выходзіў на сцэну.

Сяброўства з Галінай Брэжневай рабіла яго ўплывовым чалавекам, хоць некаторыя яго сувязі вялі кудысьці да нетраў падпольнага свету Масквы. У ягонай кватэры часта збіраліся кампаніі, і частаванне было яшчэ лепшым, чым у Крыме. Нічога дзіўнага ў тым не было. Адным з бліжэйшых сяброў Галіны стаў Сакалоў — дырэктар гастранома № 1 «Елісееўскі». Гулянка зацягвалася, і Галіне ўсё часцей і часцей даводзілася начаваць у Барыса. Гадзін у 11 раніцы яна, наспех апрануўшыся, спускалася ў размешчаную побач цырульню, куды Маскоўскае ўпраўленне бытавой абслугі спяшалася накіраваць сваіх лепшых майстроў.

Несумненна, Юрый Чурбанаў нават па абавязку сваёй міліцэйскай службы ведаў пра Барыса, яго лад жыцця і сяброў. Некалькі разоў Барыса жорстка лупцавалі, і не толькі брату, але і ягоным сябрам прыходзілася яго ахоўваць.

Але ён ужо не мог змяніць лад жыцця, ён толькі змяніў залаты кручаны ланцуг на вялікі плацінавы крыж з брыльянтам.

Чурбанаву трэба было мірыцца з жончынымі прыхамацямі, бо, страціўшы жонку, ён мог страціць і прыхільнасць яе бацькі.

У Галіны была яшчэ адна страсць — брыльянты. Яна сачыла за паступленнем лепшых брыльянтаў у маскоўскія ювелірныя магазіны і купляла самыя каштоўныя. Аднойчы, калі багаты каўказец хацеў купіць адзін вельмі дарагі брыльянтавы пярсцёнак, загадчыца магазіна сказала, што гэты пярсцёнак не прадаецца, бо належыць магазіну і служыць рэкламаю. Праз некалькі дзён ён убачыў, што пярсцёнак ужо не выстаўляецца. «Што я магла зрабіць? — апраўдвалася загадчыца,— гэты пярсцёнак купіла сама Галіна Брэжнева». Калі ў Галіны не хапала грошай, яна пакідала ў ювелірных магазінах запіскі. Але часцей за ўсё грошы ў Галіны былі ў вялікай колькасці. Яна атрымлівала іх ад бацькі і мужа. Цяпер яна працавала ў Міністэрстве замежных спраў, у аддзеле, які арганізоўваў адпачынак дыпламатам, і асабліва жонкам дыпламатаў, якія нудзіліся ў Маскве.

Багата грошай прывозілі Галіне ў якасці падарункаў з розных рэспублік. Нават не звяртаючыся да бацькі ці мужа, яна магла зрабіць візіцёрам невялікую паслугу: іншы раз у назначэнні на якую-небудзь пасаду, часам у вызваленні ад крымінальнага следства. Але галоўны даход Галіне і жонцы міністра ўнутраных спраў Шчолакавай давала спекуляцыя брыльянтамі. Як вядома, з канца 60-х гадоў да пачатку 80-х цэны на брыльянты і золата падымаліся ў нас не менш як тры разы. Хутка раслі ў 70-я гады і сусветныя цэны на золата і іншыя каштоўнасці. Існаваў строгі парадак. За нейкі час да павышэння цэн ювелірныя магазіны спынялі гандаль. Але яшчэ раней, чым зачыняліся на «ўлік» ювелірныя магазіны, Галіна і яе кампаньёнка куплялі брыльянты. Неўзабаве, пасля павышэння цэн, на брыльянтах мяняліся таварныя ярлыкі, і гэтыя «каменьчыкі» зноў паступалі ў продаж. На руках у Галіны заставаліся ўсе раней патрачаныя грошы і частка новых набытых брыльянтаў.

Пасля будаўніцтва ў Маскве новай ювелірнай фабрыкі на вуліцы Лавачкіна Галіна пачала заказваць тут упрыгожанні з брыльянтамі паводле падрыхтаваных для яе лепшых эскізаў. І тут, на фабрыцы, яна нярэдка пакідала замест грошай распіскі. Не грэбавалі купляю брыльянтаў сем'і Калеватава і Сакалова. Страсць да брыльянтаў разам з уседазволенасцю і злоўжываннем уладаю і пагубіла ўсіх вышэй названых людзей. Само па сабе «шыкоўнае жыццё», буйны хабар ці «падарункі», мноства прадуктовых пайкоў, нават махінацыі з брыльянтамі — усё гэта не лічылася вялікім грахом «у эпоху Брэжнева». Па сутнасці, гэта быў лад жыцця не толькі брэжнеўскай радні, але і людзей з акружэння Чарненкі. Гэты ж лад жыцця капіравалі многія партыйныя босы на месцах, хоць, вядома, далёка не ўсе. Аднак нечаканыя падзеі ў коле гэтай брыльянтавай эліты закруціліся зусім ў іншы бок.

У самым канцы 1981 года савецкі цырк адзначаў сваё свята. На бліскучае прадстаўленне сабраліся ўсе «зоркі» і аматары цырка: удава А. М. Талстога, артыстка Людміла Пашкова, жонка Молатава і, вядома, Галіна Брэжнева. Яны надзелі свае лепшыя ўпрыгожанні, але ні ў кога не бачылі такіх прыгожых і вялікіх брыльянтаў, як у народнай артысткі СССР, знакамітай дрэсіроўшчыцы тыграў і львоў Ірыны Бугрымавай. Яе калекцыя, пра якую мала хто ведаў у Маскве, была, напэўна, лепшай у краіне прыватнай калекцыяй брыльянтаў. Каштоўнасці Бугрымавай дасталіся ад маткі, і многія з іх фігуравалі ў спецыяльных каталогах, якія маюцца ў ювелірных магазінах. 70-гадовая артыстка відавочна паспяшалася надзець на сябе сямейныя каштоўнасці.

Крымінальная хроніка Захаду ведае багата гісторый пра крадзяжы брыльянтаў, напрыклад, у Сафі Ларэн. Самыя вялікія і прыгожыя камяні не раз мянялі сваіх уладальнікаў, і ўсё гэта паслужыла сюжэтам для розных дэтэктываў. Але і савецкая крымінальная хроніка ведае нямала такіх гісторый.

Пра некаторыя з іх можна даведацца ў Музеі савецкага крымінальнага вышуку, адкрытым для нямногіх выбраных сяброў савецкай міліцыі. Міліцыя, напрыклад, удала і хутка знайшла калекцыю каштоўнасцей савецкага скрыпача Давіда Ойстраха, украдзеную з яго сейфа.

Не дужа шчасліваю была і калекцыя каштоўных рэдкіх карцін і папер савецкага пісьменніка Аляксея Талстога. Амаль усю ягоную маёмасць і кватэру ўнаследавала яго другая жонка Людміла. Яна часта бывала на розных прыёмах, у тым ліку і ў пасольствах. Яшчэ ў пачатку 70-х гадоў яе запрасілі на прыём у румынскае пасольства, і, прымерваючы свае строі, Людміла вырашыла прышпіліць на сукенку унікальную па мастацкім выкананні французскую брошку з вялікім і прыгожым брыльянтам. Аднак дэманстраваць такія рэчы, выявілася, у нашай краіне небяспечна. Праз некалькі дзён у кватэру Талстой пазванілі, і на пытанне хатняй работніцы мужчынскі голас адказаў: «З літаратурнага музея». Да ўдоў вядомых пісьменнікаў часта прыходзяць работнікі літаратурных музеяў, архіваў. Хатняя работніца спакойна адчыніла дзверы. Увайшлі тры рабаўнікі. Звязаўшы ўдаву і хатнюю работніцу, зачынілі іх у ваннай і, дбайна, з веданнем справы абшукаўшы кватэру, знайшлі тайнік і вынеслі ўсе каштоўнасці, у тым ліку і знакамітую брошку. Гэтую складаную справу ўдалося раскрыць толькі тады, калі ўсе каштоўнасці былі рэалізаваныя. Большую іх частку ўдалося ўсё-такі знайсці і вярнуць удаве. Гэтыя прадметы і сёння можна ўбачыць у музеі-кватэры А. Талстога. Але сярод гэтых рэчаў чамусьці няма французскай брошкі. Нядаўна пра гэтую крымінальную гісторыю нам расказаў тыднёвік «Неделя».

Інакш развіваліся падзеі з Бугрымавай. Позна вечарам 30 снежня 1981 года да вышыннага будынка на Кацельніцкай набярэжнай, дзе жыла артыстка, пад'ехала машына, і трое мужчын унеслі ў пад'езд велізарную елку. Бугрымавай яшчэ не было дома, і дзяжурная па пад'ездзе сказала: «Гэта добра, гэта падарунак». Мужчыны адказалі: «Мы паставім елку ля дзвярэй і пойдзем». У знакамітых артыстаў шмат прыхільнікаў, і таму дзяжурная прапусціла гасцей. Яны доўга не вярталіся. Гэта выклікала трывогу ў дзяжурнай, яна паднялася на ліфце да кватэры дрэсіроўшчыцы. Елка стаяла ля дзвярэй, трое мужчын зніклі праз чорны ход.

Па званку дзяжурнай хутка прыбыла аператыўная група міліцыі. Выклікалі Бугрымаву. Усе рэчы былі на месцы, але знакамітая калекцыя брыльянтаў знікла. Сігналізацыя не спрацавала. Было відаць, што тут пабывалі прафесіяналы высокага класа. Прадаць брыльянты Бугрымавай было нялёгка. Сярод многіх тэрміновых мер, прынятых неадкладна створанай опергрупаю, у якую ўвайшлі лепшыя супрацоўнікі крымінальнага вышуку і КДБ, была ўстаноўка асобых кантрольных пунктаў на ўсіх міжнародных авіялініях.

Поспех прыйшоў нечакана.

Праз тры дні пасля рабаўніцтва ў Шарамецьеўскім аэрапорце быў затрыманы грамадзянін, у паліто якога былі зашытыя тры буйныя брыльянты з калекцыі Бугрымавай. Праз некалькі дзён уся банда апынулася за кратамі. Многія савецкія кіраўнікі, іхнія жонкі захапляліся ў той час збіраннем брыльянтаў. Следства ішло хутка, і ў следчага з'явіліся падазрэнні і ў адносінах да Б. Бурацэ. Гэта магло толькі ўзрадаваць Юрыя Чурбанова, і ён не ўзяў пад абарону жончынага каханка. У Барысавай кватэры быў праведзены руплівы вобыск, і вынікі адно ўзмацнілі падазрэнні. Бурацэ выклікалі на допыт. Ён не надта непакоіўся, бо раней Галіна заўсёды выручала яго з цяжкіх сітуацый.

Бурацэ надзеў норкавае футра, норкавыя боты, узяў з сабою маленькага сабачку і паехаў у сваім «Мерседэсе» ў Ляфортава, у следчае ўпраўленне КДБ. Пасля допыту Бурацэ аб'явілі, што ён арыштаваны і мае права паведаміць пра гэта родным, перш чым адправіцца ў камеру. Барыс патэлефанаваў не брату Міхаілу, а Галіне Брэжневай, але, абураная і разгубленая, яна нават не ведала, што яму адказаць. Як і трэба было чакаць, на следстве па справе Бурацэ шмат разоў згадвалі імёны Галіны Брэжневай, а таксама Калеватава, Сакалова, жонкі Молатава і іншых. Апошніх дапытваць без санкцыі Палітбюро ніхто не рашаўся. Усе падзеі трымаў пад сваім кантролем першы намеснік старшыні КДБ генерал С. Цвігун (сваяк Брэжнева, яны былі жанатыя з роднымі сёстрамі). Таму Юрый Андропаў даручыў Цвігуну абмеркаваць сітуацыю з Суславым, тады другой асобаю ў Сакратарыяце ЦК і Палітбюро.

Дагэтуль невядомыя падрабязнасці іх сяброўскай размовы, пасля якой Цвігун (не зусім ураўнаважаны чалавек, схільны і раней да дэпрэсій), вярнуўшыся дамоў, прыняў ампулу з цыяністым каліем. Гэта здарылася 19 студзеня, а ўжо 21-га ў газеце з'явіўся незвычайны некралог. Яго не падпісалі ні Брэжнеў, ні Суслаў, ні Кірыленка, члены Палітбюро. Гэта з'явілася несумненнай дэманстрацыяй, як і ўрачыстае пахаванне Цвігуна, якое праходзіла пад кіраўніцтвам Андропава. Падзеі студзеньскіх дзён цяжка адбіліся і на здароўі 80-гадовага Суслава, у яго быў інсульт, і ён памёр праз некалькі дзён пасля пахавання Цвігуна. У дзень пахавання Суслава былі арыштаваныя Калеватаў і некаторыя яго супрацоўнікі. Па Маскве ў гэтыя дні хадзіла мноства чутак, якія ўзбуджалі і замежныя карэспандэнты. Вядома, яны не маглі атрымаць ніякіх падрабязнасцей пра справу Бурацэ, ім не дазволілі нават наблізіцца да дзвярэй ягонай кватэры. Усюды стаяла ахова, а галоснасць не была ў той час нормаю нашага жыцця. Многія карэспандэнты хацелі атрымаць у ТАСС фатаграфіі Галіны Брэжневай. Спачатку яны ўсе атрымалі адмову, але затым ім выдалі фатаграфіі ўсёй сям'і Брэжнева.

Трохі пазней Галіну перавялі на працу ў архіў Міністэрства замежных спраў, каб яна не трапляла на вочы ўсюдыісным карэспандэнтам. Праз некалькі месяцаў, яшчэ пры жыцці Брэжнева, быў арыштаваны Сакалоў. Толькі ў кватэры ў яго было знойдзена каштоўнасцей на мільён рублёў. Аднак багата каштоўнасцей было знойдзена і на лецішчы. У жалезных бляшанках, закапаных на ўчастку, пачкі грашовых купюр, якія напалову згнілі, а золата і каштоўнасці захоўваюцца лепш за гербавыя знакі. Неўзабаве былі арыштаваныя і сябры Юрыя Брэжнева. Нават на тэлевізійных экранах было відаць, што на пахаванні Брэжнева ад Галіны не адыходзілі ні на крок два дужыя ахоўнікі. Нехта відавочна баяўся якіх-небудзь выбрыкаў дачкі нябожчыка. За пятнаццаць месяцаў кіравання Андропава многія пералічаныя крымінальныя справы былі закончаны. Сакалоў быў асуджаны да расстрэлу, Калеватаў да пятнаццаці гадоў зняволення, Бурацэ да пяці гадоў.

Хадзілі чуткі, што ён атруціўся дрэннай ежаю і нават памёр у час аперацыі, аднак нядаўна, калі закончыўся 5-гадовы тэрмін, ён выйшаў на свабоду і пабываў ужо ў рэстаране Усесаюзнага тэатральнага таварыства на вуліцы Горкага. Цяпер ён не стаў наносіць візіты «Мадам». Наўрад ці ён зможа атрымаць сваю кватэру, маскоўскую прапіску. Шчолакаў быў зняты са свайго паста па патрабаванні Андропава, выключаны з партыі за памылкі ў рабоце. Супраць яго была ўзбуджана крымінальная справа. Ягоная жонка, чакаючы горшага, пакончыла самагубствам, выкінуўшыся з акна сваёй кватэры.

Пасля смерці Андропава Чарненка спрабаваў дапамагчы сваім сябрам. Следства супраць Шчолакава было спынена, і ён атрымаў прызначэнне на ганаровы пост у Міністэрстве абароны СССР. Галіна Брэжнева зноў з'явілася ў свеце. Нават была запрошана на вялікі дзяржаўны прыём з нагоды Міжнароднага жаночага дня 8 сакавіка. Невядома за якія заслугі Галіне Брэжневай была ўстаноўлена персанальная пенсія, бо працаваць яна ўжо не магла. Аднак улада хворага Чарненкі вельмі хутка слабела. Органы КДБ працягвалі выяўляць усё новыя злачынствы, у якіх былі замяшаныя і Шчолакаў, і некаторыя іншыя ўплывовыя асобы з нядаўняга акружэння Брэжнева. Калі былы міністр унутраных спраў даведаўся, што супраць яго ўзбуджана крымінальная справа, ён надзеў парадную форму генерала з усімі ордэнамі і медалямі, потым зарадзіў сваю паляўнічую стрэльбу і стрэліў сабе ў рот.

Праз некалькі месяцаў памёр Чарненка... Галіна Брэжнева страціла апошнюю надзею неяк папраўіць справы.

Яе брат — Юрый Брэжнеў — хранічны алкаголік, які, аднак, быў членам ЦК КПСС і намеснікам міністра знешняга гандлю, страціў неўзабаве ўсе пасады. Затым быў арыштаваны зяць Брэжнева — Чурбанаў...

Галіне, вядома, пакінулі яе сукенкі і футры, некаторыя з іх яна цяпер прадае, скардзячыся на беднасць. Яе часта можна ўбачыць з цяжкай сумкаю. Яна ледзь нясе яе дадому. «Салодкае жыццё» скончылася для яе назаўсёды...



# ЛЕПШЫХ КНІГ ГОДА

Калі былі апытаны ўсе члены журы і праведзены канчатковы падлік, выявілася раптам, што ў дзесятак лепшых кніг 1988 года ўвайшло... адзінаццаць выданняў. Перш чым высвятляць, адкуль замест дзесяці кніг узялося адзінаццаць, пазнаёмімся з адказамі кожнага з членаў журы: празаіка Алеся Жука, літаратурнага крытыка Алы Сямёнавай, кіраўніка рок-гурта «Мроя» Уладзіміра Давыдоўскага, мастака Хведара Кашкурэвіча, артыста тэатра Генадзя Давыдзькі.

### АЛЕСЬ ЖУК

1. **П. ПАНЧАНКА. Горкі жолуд.**
2. **Я. БРЫЛЬ. Ад сяўбы да жніва.**
3. **А. РАЗАНАЎ. Вастрыё стралы.**
4. **У. АРЛОЎ. Дзень, калі ўпала страла.**
5. **Францыск Скарына і яго час.** Энцыклапедычны даведнік.
6. **Ю. ЛАБЫНЦАЎ. Скарынаўскі каляндар.**
7. **А. СЫС. Агмень.**
8. **В. КОЎТУН. Крыж міласэрнасці.**
9. **Л. ДАЙНЕКА. След ваўкалака.**
10. **А. НАВАРЫЧ. Рабкова ноч.**

### АЛА СЯМЁНАВА

1. **А. РАЗАНАЎ. Вастрыё стралы.**
2. **М. МУШЫНСКІ. Каардынаты пошуку.**
3. **В. КОЎТУН. Крыж міласэрнасці.**
4. **У. АРЛОЎ. Дзень, калі ўпала страла.**
5. **Г. КИСЕЛЁВ. Постигая Дунина-Марцинкевича.**
6. **А. ВАСІЛЕВІЧ. Элегія.**

### УЛАДЗІМІР ДАВЫДОЎСКІ

1. **У. АРЛОЎ. Дзень, калі ўпала страла.**
2. **А. РАЗАНАЎ. Вастрыё стралы.**
3. **Францыск Скарына і яго час.** Энцыклапедычны даведнік.
4. **А. ГЛОБУС. Парк.**
5. **Жнівеньскі праспект.** Апавяданні.
6. **А. СЫС. Агмень.**
7. **А. НАВАРЫЧ. Рабкова ноч.**
8. **П. ПАНЧАНКА. Горкі жолуд.**
9. **В. ШАЛЬКЕВІЧ. Кастусь Калиновский.**
10. **Вобраз-88.**

### ХВЕДАР КАШКУРЭВІЧ

1. **А. РАЗАНАЎ. Вастрыё стралы.**
2. **А. НАВАРЫЧ. Рабкова ноч.**
3. **Ю. ЛАБЫНЦАЎ. Скарынаўскі каляндар.**
4. **А. ГЛОБУС. Парк.**
5. **А. СЫС. Агмень.**
6. **Францыск Скарына.** Зборнік дакументаў і матэрыялаў.
7. **У. АРЛОЎ. Дзень, калі ўпала страла.**
8. **Вобраз-88.**
9. **Францыск Скарына і яго час.** Энцыклапедычны даведнік.
10. **Дзень паэзіі-88.**

### ГЕНАДЗЬ ДАВЫДЗЬКА

1. **П. ПАНЧАНКА. Горкі жолуд.**
2. **Л. ДАЙНЕКА. След ваўкалака.**
3. **Вядзьмак ЛЫСАГОРСКІ. Сказ пра Лысую гару.**
4. **У. АРЛОЎ. Дзень, калі ўпала страла.**
5. **А. СЫС. Агмень.**
6. **Жнівеньскі праспект.** Апавяданні.
7. **А. ГЛОБУС. Парк.**

Пасля канчатковага падліку атрымліваем наступны вынік:

### ДЗЕСЯЦЬ ЛЕПШЫХ КНІГ 1988 ГОДА

1. **Алесь РАЗАНАЎ. Вастрыё стралы.** Версэты, паэтычныя мініяцюры. Выд. «Маст. літ.».
2. **Уладзімір АРЛОЎ. Дзень, калі ўпала страла.** Аповесці і апавяданні. Выд. «Маст. літ.».
3. **Пімен ПАНЧАНКА. Горкі жолуд.** Вершы. Выд. «Маст. літ.».
4. **Анатоль СЫС. Агмень.** Вершы, паэмы. Бібліятэка часопіса «Маладосць».
5. **Адам ГЛОБУС. Парк.** Вершы. Выд. «Маст. літ.».
6. **Францыск Скарына і яго час.** Энцыклапедычны даведнік. Выд. «БелСЭ».
7. **Алесь НАВАРЫЧ. Рабкова ноч.** Аповесці, апавяданні. Выд. «Маст. літ.».
8. **Юрый ЛАБЫНЦАЎ. Скарынаўскі каляндар.** Выд. «Маст. літ.».

9—10. **Валянціна КОЎТУН. Крыж міласэрнасці.** Раман. Выд. «Маст. літ.»; **Леанід ДАЙНЕКА. След ваўкалака.** Раман. Выд. «Маст. літ.»; **Жнівеньскі праспект.** Апавяданні. Бібліятэка часопіса «Маладосць».

Падлік рабіўся па агульнапрынятай для падобных выпадкаў сістэме (1-е месца — 10 балаў, 2-е месца — 9 балаў і г. д.), у выніку — кнігі В. Коўтун, Л. Дайнекі і зборнік апавяданняў «Жнівеньскі праспект» набралі аднолькавую колькасць балаў (11) і падзялілі паміж сабой 9-е і 10-е месцы. Вось чаму ў дзесятак лепшых кніг 1988 года ўвайшло адзінаццаць выданняў.

Заўважым адразу, што А. Сямёнава разам з кнігамі назвала і тры часопісныя публікацыі, якія сталі значнай падзеяй мінулага літаратурнага года: «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя (Полымя, №№ 1—2), «Старажытная Беларусь» Міколы Ермаловіча (Маладосць, №№ 7—12), «У снягах драмае вясна» Уладзіміра Караткевіча (Полымя, №№ 4—5)... Аднак мы вырашылі абмежавацца толькі кнігамі і не ўлічваць у конкурсе часопісныя публікацыі з тае хаця б прычыны, што раман А. Мрыя і даследаванне М. Ермаловіча плануе ў 1990 г. выдаць асобнымі кнігамі выдавецтва «Мастацкая літаратура», і ёсць усе падставы меркаваць, што гэтыя творы трапяць у лік дзесяці лепшых кніг наступнага года. Іншая справа, калі б нейкі часопіс ці газета ўзялі на сябе ініцыятыву правядзення конкурсу лепшых публікацый года...

Што ж можна сказаць пра вынікі «літпараду» за 1988 год?

Прыкметна ўзмацнілася канкурэнцыя: калі мінулы раз у дзесятак лепшых прэтэндавалі ўвайсці 15 кніг, то цяпер — ужо 20. Менш аднадушным было сёлетняе журы: толькі кнігу Арлова вылучылі ўсе пяць апытаных, кнігі Разанава, Сыса — чатыры, кнігі Панчанкі, Глобуса, Наварыча, энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час» — тры, кнігі Лабынцава, Коўтун, Дайнекі, «Жнівеньскі праспект» — два.

Сярод вылучаных выданняў — дзве навуковыя кнігі, чатыры паэтычныя зборнікі, пяць кніг прозы. Найбольшы поспех напаткаў менавіта паэзію: тут і першае месца кнігі Разанава, і месцы ў першай пяцёрцы зборнікаў Панчанкі, Сыса, Глобуса.

З пяці кніг прозы — тры прысвечаны гістарычнаму мінуламу Беларусі, датычаць гісторыі і навуковыя «скарынінскія» выданні. Зноў у дзесятку лепшых кніг — гістарычны раман Дайнекі, хаця і не на такім высокім месцы, як мінулы раз «Меч князя Вячкі».

Радуе поспех маладых аўтараў: Сыса, Глобуса, Наварыча, празаікаў з «Жнівеньскага праспекта». Можна, аднак, быць упэўненым, што многім прыхільнікам строгай класіфікацыі літаратурных твораў па ранжыру і ўзросту аўтараў здасца крамольным, напрыклад, суседства імёнаў Панчанкі і Сыса. Але сапраўднага аматара паэзіі гэткая «крамола» наўрад ці напалохае, бо ён аднолькава радуецца і новаму, свежаму гучанню вершаў нашага старэйшага паэта, і сталасці, грамадзянскай дарасласці многіх вершаў аўтара першай кнігі.

А вось другое месца кнігі Арлова, як і зайздросная аднадушнасць у адносінах да яе членаў журы, сведчыць канчаткова пра абсурднасць і камічнасць азначэння «малады празаік» у дачыненні да гэтага самабытнага пісьменніка, аўтара дзвюх кніг і шматлікіх публікацый у рэспубліканскіх і ўсесаюзных выданнях.

Восем з адзначаных кніг выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», дзве — у бібліятэчцы часопіса «Маладосць», адна — у выдавецтве «БелСЭ». Дзве з шасці кніжачак, выдадзеных у 1988 г., — зусім не благі пачатак для новай серыі і для Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», калі залічыць да літаратурнага здабытку Таварыства яшчэ і першыя кнігі Глобуса і Наварыча.

Але, зразумела, галоўны вынік конкурсу «Дзесяць лепшых кніг года» — першае месца кнігі Алеся Разанава «Вастрыё стралы». Вершы гэтага аднаго з самых цікавых беларускіх паэтаў «Крыніца» мяркуе змясціць у апошнім нумары за 1989 год...

А зараз — пра ўдзел у конкурсе па вызначэнні дзесяці лепшых кніг года **ч ы т а ч о ў**. Пакуль што ўдзел гэты вельмі пасіўны, бо рэдакцыя часопіса, тыраж якога дасягаў 150 тыс. экз., атрымала менш за паўсотні лістоў-адказаў на нашую анкету. Вось як выглядае спіс дзесяці лепшых кніг года паводле чытацкай пошты (падлік рабіўся па той жа сістэме, што і падлік на аснове адказаў членаў журы):

1. **Жнівеньскі праспект.** Апавяданні.
2. **Алесь РАЗАНАЎ. Вастрыё стралы.**
3. **Вядзьмак ЛЫСАГОРСКІ. Сказ пра Лысую гару.**
4. **У. АРЛОЎ. Дзень, калі ўпала страла.**
5. **А. ГЛОБУС. Парк.**
6. **А. СЫС. Агмень.**
7. **Л. ДАЙНЕКА. След ваўкалака.**
8. **К. КАЛИНОВСКИЙ. Из печатного и рукописного наследия.**
9. **Алесь НАВАРЫЧ. Рабкова ноч.**
10. **Валянціна КОЎТУН. Крыж міласэрнасці.**

Не цяжка заўважыць, што чытацкі спіс не вельмі адрозніваецца ад спісу журы: у першым — «Сказ пра Лысую гару» і спадчына К. Каліноўскага, у другім — паэтычны зборнік П. Панчанкі і два выданні, прысвечаныя жыццю і дзейнасці Францыска Скарыны. Тлумачыцца гэта тым, што большасць чытацкіх лістоў прыйшла ў рэдакцыю яшчэ да таго, як з'явіліся ў кнігарнях гэтыя тры кнігі, не названыя чытачамі ў адрозненне ад членаў журы, якія адказвалі на анкету ў пачатку 1989 года.

А вось да знакамітай ананімнай паэмы «Сказ пра Лысую гару», высока адзначанай чытачамі, можна было, сапраўды, чакаць большай увагі з боку журы (цікава, што думка на гэты конт Генадзя Давыдзькі поўнасцю супадае з чытацкай).

Самае нечаканае, відаць, у абагульненым чытацкім спісе — першае месца калектыўнага зборніка апавяданняў «Жнівеньскі праспект», які адзначаны толькі двума членамі журы і заняў у «літпарадзе» 9—10-е месцы. «Жнівеньскі праспект» — першы лаўрэат сімвалічнага «прыза чытацкіх сімпатый» (зборнік складзены з апавяданняў А. Глобуса, С. Дубаўца, М. Клімковіча, А. Наварыча, У. Сіўчыкава, У. Сцяпана, А. Федарэнкі, М. Шайбака).

У снежні мы запросім чытачоў прыняць актыўны ўдзел у вызначэнні дзесяці лепшых кніг 1989 года.

**Матэрыял падрыхтаваў**
**Сяргей КАВАЛЁЎ**







## Завулак ЧАПАЕВА, 10

**Гэты адрас добра вядомы жыхарам Жодзіна, усім, хто так ці інакш сутыкаўся з установаю з кароткай назваю ЛПП. Тут прымусова лечаць ад алкагалізму.**

**— Алкаголь — вораг сур'ёзны. Вырваць чалавека з п'янай бездані нялёгка,— кажа ўрач-нарколаг старшы лейтэнант В. Ганчароў.— Мы выкарыстоўваем шырокі арсенал сродкаў і метадаў проціалкагольнага лячэння, у тым ліку іголкаўколванне, псіхатэрапію. Збіраемся выкарыстоўваць і гіпноз...**

**Пры нас на апошні візіт да тэрапеўта старшага лейтэнанта Б. Чарадніка прыйшоў В. Доўгі. Яго выпісваюць з ЛПП. 47-гадовы токар з Крупак лячэннем задаволены, адчувае сябе добра, хоць некалі перанёс сухоты, дый сэрца часам пабольвала.**

**— Усё! Дамоў вярнуся, з п'янствам завязваю і шукаю сабе жонку! — былы хворы рашуча секанўў паветра мазолістай рабочай рукою.— Час пачынаць нармалёвае жыццё...**

**Хочацца верыць у шчырасць гэтых слоў. Тым больш, што яны падмацаваныя сумленнай працаю і прыкладнымі паводзінамі ў прафілакторыі.**

**Вытворчая дзейнасць ЛПП падпарадкавана выкананню асноўнай задачы — лячэнню і працоўнаму выхаванню хранічных алкаголікаў. Тыя, хто лечыцца ў Жодзіне, заняты ў механазборачным цэху БелАЗа, у падраздзяленнях аб'яднання «Інтэграл» і мінскага завода «Тэрмапласт», на будоўлях.**

**— У нас вялікія планы,— расказвае нампаліт ЛПП маёр М. Стародубец.— Збіраемся будаваць клуб і цэх, другі корпус медчасткі. Мы хочам стварыць хворым найлепшыя ўмовы, каб лячэнне праходзіла больш эфектыўна.**

**ЛПП у Жодзіне малады. Ён настойліва шукае свой твар, свае метады медыка-выхаваўчай работы. Пачатак паказвае — старт узяты правільны. Калектыў на добрым шляху. Пажадаем яму поспехаў у бескампраміснай і цяжкай барацьбе з небяспечным захворваннем.**

**І. ЕСАКОЎ, В. БАРЗДЫКА (фота)**









Наталля ГРОМАВА

# КУРС НА... ЗАГНІВАННЕ?

— Моладзь, бясспрэчна,— шанц нашай навукі, але калі глядзець рэальна, гэты шанц сёння невялікі: свой навуковы патэнцыял маладыя вучоныя ў цяперашніх умовах рэалізаваць практычна не можа.

На гэтай, прама скажам, далёкай ад аптымізму ноце і пачалася наша размова з самым маладым у навуковых колах загадчыкам лабараторыі Інстытута цепла- і масаабмену АН БССР, кандыдатам навук, лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Сяргеем Жданком.

— 25 гадоў — абарона дысертацыі, 30 гадоў — пасада загадчыка навуковай лабараторыі (гэтым не заўсёды можа пахваліцца і 50-гадовы вучоны), ва ўзросце «да трыццаці» — камандзіроўкі ў буйнейшыя навуковыя цэнтры Еўропы... Такая «звышхуткая» навуковая кар'ера магла б, здавалася, даваць больш падстаў для аптымізму..

— А хто вам сказаў, што я — песіміст? Сапраўды, маё жыццё ў навуцы праходзіла, лічу, даволі ўдала. Але трэба быць прынамсі сляпым, каб не бачыць, што лёсы, падобныя на мой, у нас хутчэй выключэнне, чым правіла.

— Ці, можа, гэта вынік звычайнай чалавечай няспрытнасці?

— На жаль, справа зусім не ў гэтым. «Бясправ'е» моладзі ў нашай навуцы — на мой погляд, вынік адміністратыўна-каманднай сістэмы, якая даўно і моцна ў ёй усталявалася. Навуковае ж адкрыццё — гэта заўсёды прасвятленне. Навукай, як і мастацтвам, нельга кіраваць. Катастрафічнае адставанне амаль усіх яе галін — вынік паўвекавога панавання ў ёй адміністратыўна-іерархічнай пірамiды, перад усемагутнасцю якой і сёння гаснуць жывая навуковая думка і ініцыятыва.

— Ці не азначае гэта, што спроба (і небяспяпяховая!) падпарадкаваць законам бюракратычнай лесвіцы творчы навуковы пошук і тут прывяла да скажэння каштоўнасцей?

— Так. У выніку такой змены «сярэднестатыстычныя» вучоны сёння імкнецца не да незалежнага пошуку, а да становішча ў гэтай самай адміністратыўнай пірамідзе, забываючы, што перад ісцінай усе роўныя: і лаўрэаты, і акадэмікі, і звычайныя людзі. Сумна ж тое, што цэлыя пакаленні вучоных (я маю на ўвазе асабліва апошнія дзесяцігоддзі) лічылі такую сітуацыю нормай. Не выключэнне тут, на жаль, і цяперашняе пакаленне.

— Ці ёсць, на ваш погляд, у гэтым «заслуга» сістэмы адукацыі?

— На жаль... Гэта даводзіцца прызнаць. Кожны, хто мае вопыт школы і ВНУ, надзейна ўсвядоміў, што асноўным тут лічыцца не развіццё творчага патэнцыялу чалавека, не спроба навучыць яго думаць, а неабходнасць увагнаць у галаву навучэнца пэўную колькасць пэўнай інфармацыі ва ўмовах амаль поўнай адсутнасці захаплення і шчырасці.

— Але ўявім сабе ўсё ж, што чалавек прайшоў і сярэднюю, і вышэйшую школу, і ні тая, ні другая не змаглі знішчыць у ім цікавасці да творчасці, навукі, пошуку...

— Гэтая з'ява сама па сабе прыкметная. Аднак не варта цешыць сябе марамі. Ва ўмовах, спадарожных далейшаму жыццю і росту маладога вучонага, на карысць справы лепш яму ўсё ж адмовіцца і ад усяго, што ўваходзіць у паняцці «быт», «уласнае жыццё».

— Раіце на падставе свайго вопыту?

— На шчасце, тэарэтызую. Але — на зусім рэальнай, жыццёвай аснове. Уявіце сабе звычайны прыклад: малодшы навуковы супрацоўнік. Аклад — 140 рублёў. Успомніце пры гэтым: мужчына, галава сям'і... Інша гародні... І гэтак далей. Якая ж у гэтым выпадку будзе «праграма-мінімум» у небаракі-вучонага? Правільна. Ён павінен «уступаць у сістэму», вучыцца скакаць па прыступках, заваёўваць паверхі піраміды — каб выжыць. Лёсам Дыягена цяпер нямногіх зацікавіш.

— Але прырода развіваецца паводле сваіх законаў...

— А яны нагадваюць нам і пра тое, што ўсе вялікія навуковыя адкрыцці былі зроблены зазвычай людзьмі ва ўзросце ад 22 да 30 гадоў... І як вы думаеце — чаму? Таму што маладосць сама па сабе незалежная і незакамплексаваная.

— Была?

— На жаль... Хаця, успомніце тыя ж дваццатыя гады. Пры ўсіх складанасцях усталявання дзяржавы ўрад даваў магчымасць маладым навуковым кадрам убіраць усё лепшае з таго, што мела ў той час сусветная навука. Вучоны мог перамяшчацца па ўсім свеце: згадайце Ландау, Капіцу... Дзесяткі тысяч кітайскіх студэнтаў вучацца сёння па ўсім свеце: можна сказаць упэўнена, што яны вызначаюць заўтрашні патэнцыял сваёй краіны.

А зараз уявіце сабе нармальнага, здольнага, паважлівага да сябе чалавека, які, мабыць, і здолеў бы дамагчыся нечага ў нашай навуцы, але... проста не захацеў прыніжацца, трэсці, дзе трэба і не трэба, рознымі анкетамі, думкамі групкомаў, характарыстыкамі... Да тае пары, пакуль будзе панаваць метода ацэнкі паводле любых магчымых параметраў, але толькі не паводле крытэрыяў творчага, прафесійнага ўкладу ў агульную спра-



ву, загніванне айчыннай навукі будзе працягвацца.

— Ці не здаецца вам такое азначэнне вельмі гучным?

— Мне здаецца, што купляць да гэтага часу персанальныя камп'ютэры ў Карэі, Ганконгу, В'етнама, пры ўсёй маёй павазе да гэтых краін, прынамсі саромна.

— Ці ёсць, на ваш погляд, цяпер, у эпоху перабудовы, станоўчыя зрухі ў сістэме навуковых устаноў?

— Ды як вам сказаць... З аднаго боку, ёсць: не так даўно было ўведзена фінансаванне навуковых праектаў, так званая навуковая экспертыза. Аднак гэта не мае нічога агульнага з той незалежнай экспертызаю, пры якой на першым месцы — сапраўдная каштоўнасць работы, а не прыналежнасць яе да інстытута, які ў гэты момант задае тон. Атрымліваецца, іншымі словамі, што сістэма вылучае ідэю і сама ж вырашае яе далейшы лёс. Таму лічу, што, не парушыўшы наяўную структуру, разлічваць на якія-небудзь змены не даводзіцца. На першым жа месцы заўсёды павінен быць вучоны. Справа ж адміністрацыі — толькі забяспечваць навуковы працэс.

— Такая думка — з вашых пажаданняў ці назіранняў?

— Я не прапаную вынаходзіць веласіпед там, дзе яго даўно вынайшлі. За мяжою, дзе я бываў, акрамя аднаго-двух адміністратараў я не сустракаў у навуковых установах ні аддзелаў, ні бюро, ні ўпраўленняў. Вучоны там незалежны ад адміністратыўнага апарату — гэтага апарату проста не існуе.

— Мы шмат гаварылі пра ўмовы, спадарожныя навуковаму адкрыццю,



ці пра іх адсутнасць і зусім не гаварылі пра сутнасць вашай навуковай працы...

— Мая кандыдацкая дысертацыя звязана з вывучэннем кінетыкі лазерных сістэм. Я зацікавіўся плазменнай фізікай, калі яшчэ быў студэнтам Маскоўскага фізіка-тэхнічнага інстытута. Пачынаў працаваць у гэтай галіне спачатку пад кіраўніцтвам акадэміка Веліхава, потым пасля запрашэння акадэміка Салаухіна прыехаў у Мінск, дзе працаваў ў галіне фізікі нераўнавагавага стану рэчываў. Мне была прадастаўлена поўная свабода дзейнасці, за што я дагэтуль дзякую лёсу і майму настаўніку. Выкарыстанне рэчываў у нераўнавагавым стане адчыняе шляхі ў новую тэхналогію літаральна ва ўсіх галінах хіміі, энергетыкі, мікраэлектронікі. Іншымі словамі, робіць магчымым стварэнне экалагічна чыстых вытворчасцей.

— Сёння ні для кога не сакрэт, што ад вырашэння гэтай праблемы залежыць будучыня чалавецтва. Ці не гэтым абумоўлены такі профіль вашых навуковых даследаванняў?

— Лічу, што любы вучоны, які сябе паважае, не можа заставацца абыякавым да цяперашняй экалагічнай сітуацыі. Чым выклікана такое жудаснае і драматычнае яе становішча? Асноўная прычына тут — вельмі нізкі тэхналагічны ўзровень нашай вытворчасці. Дастаткова згадаць, што абсталяванне Гродзенскага, скажам, азотна-тукавага камбіната і многіх яму падобных прадпрыемстваў працуе па тэхналогіі пачатку стагоддзя. Прычым характэрнай асаблівасцю з'яўляецца тое, што гэтае абсталяванне набывалася за мяжою без ачышчальных збудаванняў. Зноў жа, у мэтах эканоміі. Таму лічу, што сучасная навука проста абавязана ўнесці свой ўклад у стварэнне экалагічна чыстых вытворчасцей.

— Як вы ўяўляеце сабе сапраўдную перабудову ў навуцы і ці магчымая яна, на ваш погляд?

— Адказ на гэтае пытанне ўжо з'яўляўся ў нашай размове, аднак сфармулюю яго яшчэ раз і гранічна канкрэтна: перабудова ў навуцы — гэта, перш за ўсё, разбурэнне ўсёй адміністратыўна-каманднай сістэмы. Ва ўсім цывілізаваным свеце акадэмія — паважаны клуб, які нікому не дае сродкаў да існавання і не мае ніякай рэальнай улады, акрамя вялікага навуковага аўтарытэту. Іншымі словамі — гэта проста сход выдатных розумаў. У нас жа акадэмія — перш за ўсё амаль бязмежная ўлада і магчымасць распараджацца матэрыяльнымі сродкамі, накіраванымі ў навуку, плюс (не ў апошнюю чаргу) немалая даплата за званні, а потым — уласна навука. З вынікамі такога становішча мы ўжо знаёмыя: не буду пералічваць цэлую плеяду найлепшых вучоных, якія сталі ахвярамі сваёй «неадаптацыі» ў сістэме...

А між тым арганізацыя навуковых даследаванняў выпрацавана чалавецтвам даўным-даўно. І грунтуецца яна на вельмі простых рэчах: конкурснай аснове і незалежнай экспертызе плюс — хаця б мінімальная эканамічная незалежнасць вучонага, пры якой яму не даводзілася б «шабашыць», здабываючы сродкі да існавання, і транжырыць тым самым свой навуковы патэнцыял.

— Такім чынам, калі перафразаваць вядомыя словы Станіслаўскага, можна сказаць, што, калі ты не аддаеш навуцы ўсяго сябе,— ты не аддаеш ёй нічога.

— Так.



Аляксандр
ДЫНІКАЎ

# ТАЙНА В'ЕТ ВО ДАА

平

**НЕВЯДОМАЕ АБ ВЯДОМЫМ**

Яшчэ нядаўна ваяўнічыя крыкі «кі-я» гучалі ў дварах і на вуліцах гарадоў і пасёлкаў, у спартзалах і пераабсталяваных пад іх сутарэннях. Бум каратэ не спыняўся ні перад чым. Дошкі і цагліны, што крышыліся пад ударамі, фантастычныя скачкі і непрабівальныя блокі ўражвалі неверагодна. Адзін супраць пяці, дзесяці, дваццаці... усё пад сілу каратысту. Без віз падарожнічалі легенды пра непераможнага Бруса Лі. Кожнаму хацелася хоць у чымсьці быць падобным да куміра. А раз ёсць попыт, дык ёсць і прапанова. І вось прадпрымальныя дзялкі апранаюцца ў даспехі «настаўніка» і, сабраўшы з даверлівых вучняў чацвертакі, вучаць іх удару «мая-гіры». Але паколькі ўяўленне аб каратэ ў гэтых інструктараў было досыць цьмянае, то яны за грошы браліся далучыць да таямніц баявога адзінаборства любога жадаючага.

І вось два-тры ўдары нагою — і ты кароль двара. Трашчыць сківаца «крэста» з суседняй вуліцы — і межы твайго ўплыву пашырыліся. Некалькі хлопцаў уцякаюць з танцпляцоўкі — і лепшыя дзяўчаты чакаюць цябе. А скончылася ўсё даволі сумна. У Крымінальным кодэксе з'явіўся новы артыкул, з якога вынікае, што займацца і прапагандаваць каратэ ў нашай краіне забараняецца. Гэта вельмі сур'ёзнае пытанне, неадназначнае, і я хацеў бы спыніцца на гэтай праблеме.

Увогуле вядома, усходнія адзінаборствы — справа зусім не бяскрыўдная. Сям-там успыхвае рэцыдыў хваробы — імі займаюцца паводле вельмі няпэўных методык. Шмат шуму ў Мінску выклікаў артыкул у «Советском спорте» «Тайквондо по-мински», апублікаваны пад рубрыкай «Шарлатанство за три рубля». Карэспандэнт газеты напісаў пра свае ўражанні аб наведванні Мінскага дома фізкультуры, дзе дзятву вучаць тайквандо. Вось адна цытата: «...Далей пачалося дзейства. Большага здзеку са спорту я ў сваім жыцці не бачыў. Чалавек, які адкрыў вечар, быў адначасна ўсім — судзейскай калегіяй, рэферы на татамі, сакратаром, доктарам...

Потым прыйшоў час тайквандо. Крышыліся цагліны. Хлапчукі з усяе сілы стараліся ўдарыць абутай нагою ў сківаццу партнёру. Не ўсім гэта ўдавалася, але спрабавалі ўсе — без выключэння. Аднаму ўсё ж расквасілі нос. Пырснула кроў, яго адразу ж пацягнулі за кулісы.

Потым арганізатар прадстаўлення, заявіўшы, што заняткі тайквандо прывучаюць чалавека не ўспрымаць болю, біў такога ж, як ён, «дэсантніка» чаравікам у пахвіну. І мы зразумелі, навошта ён красаваўся ў гэтых чаравіках увесь вечар...

Самае страшнае ў гэтым балагане было тое, што яго бачылі сотні дзве дзяцей. Якімі вачыма яны глядзелі на сцэну! І калі цяпер яны самі каго-небудзь наб'юць — не ў спартзале, на вуліцы,— прэтэнзій да іх не павінна быць: яны ўсё гэта бачылі ў спорце. У Доме фізкультуры».

З высновамі аўтара цяжка не згадзіцца. Аднак на бацькоўскім сходзе, дзе абмяркоўваўся гэты артыкул, многія таты і мамы запэўнівалі, што і яны, і іхнія дзеці вельмі задаволеныя заняткамі ў секцыі тайквандо. Але ці ж няма тут характэрнай блізарукасці! Памятаеце: «Чым бы дзіця ні цешылася...» Навошта ўсё-такі займацца ў гэтай секцыі дзяўчынкам-школьніцам! Каб умела біцца! Але хіба гэта самае важнае для выхавання будучай жонкі і маці! Дый ці ж такія бяскрыўдныя для хлапчукоў урокі жорсткасці, якія яны атрымліваюць! Выклікае пэўную насцярожанасць і тое, што трэніруюць дзятву ў большасці выпадкаў аматары і за грошы. З развіццём кааператыўнага руху тут усё больш выкрышталізоўваецца праблема — дух камерцыялізацыі, з'яднаны са зброяю, якую даюць усходнія адзінаборствы,— гэта джын, якога не варта выпускаць з бутэлькі, неназіраючы за ім.

Як на маю думку, дык і ушу, і в'ет во даа, і іншыя віды барацьбы не павінны быць «засакрэчаныя», не павінны быць аб'ектам камерцыі.

Цяпер мы сутыкаемся з новай успышкаю папулярнасці ушу. Пра яго пішуць у газетах, паказваюць па тэлебачанні, гавораць пры сустрэчах са знаёмымі. Дык што ж такое ушу! Тое, што ўжо было, ці нешта іншае! Хутчэй за ўсё другое. Хоць аснова ў каратэ і ушу, як, уласна, і ва ўсіх падобных прыкладных сістэм, адна — рэлігійна-філасофскія ўяўленні народаў Усходу,— паміж імі ёсць пэўныя адрозненні. Калі каратэ ставіць задачу выхавання ў свайго вучня байцоўскіх якасцей, цвёрдасці, умення пераносіць фізічныя пакуты і псіхалагічныя нагрузкі, дык прынцыпы ушу носяць трохі іншы характар, і з трох яго раздзелаў, бадай, найбольш прывабны — масава-аздараўленчы, які і пачынае цяпер практыкавацца ў нашай краіне.

Асноўны крытэрый «мяккага» ушу, а гэты накірунак называецца менавіта так,— пераадоленне сілы з дапамогай слабасці і цвёрдасці з дапамогай мяккасці. Важнейшы ж прынцып — уступаючы ў паядынку сіле саперніка ўваходзіць у кантакт з ім і, паўтараючы ягоныя рухі, нейтралізуе і прымушае павярнуць назад. Вязнучы ў падатлівасці, нападнік вымотваецца, і настае момант, калі хапае невялікага намагання, каб вывесці яго з раўнавагі. Як бачым, асноўная задача ушу не ў тым, каб з дапамогаю сілы і націску расправіцца з саппернікам. Гэтая сістэма накіравана на фізічнае аздараўленне чалавека, яго ўнутранае ўдасканаленне, гарманічнае ўзаемадзеянне з навакольным светам. Крышыць сківаццы пасля заняткаў ушу не захочацца, але абараніцца ад агрэсара яно дапаможа.

Здаецца, што пра ушу нам ужо сёе-тое вядома, але мала, напэўна, хто ведае, што ў гэтай барацьбы ёсць «родная сястра» — в'етнамская барацьба в'ет во даа. Пазнаёмім вас і з гэтай сістэмаю адзінаборства.

Першыя сведчанні пра в'ет во даа данеслі да нас наскальныя малюнкі 4000-гадовае даўнасці. У тыя далёкія часы народы, якія жылі на тэрыторыі сучаснага В'етнама, падвяргаліся пастаяннай пагрозе агрэсіі з боку Кітая. Каб адбіваць напады ворага, патрабавалася дзейсная зброя, якая заўсёды была б пры табе. Ёю і стала в'ет во даа. Прымітыўныя формы барацьбы паступова ўдасканальваліся, руплiва адшліфоўваліся. В'ет во даа ператвараецца ў ваярскае мастацтва, ствараюцца касты ваяроў, якія дасканала валодаюць ім.

На пачатку нашае эры ствараецца адзіная тэорыя барацьбы, якая атрымала назву ота і ўвабрала ў сябе тры асноўныя напрамкі — удасканальванне тэхнікі, развіццё стратэгіі і стварэнне спецыяльных комплексаў практыкаванняў накшталт японскіх ката. Спакваля ота мяняецца, удакладняюцца фізіялагічныя асновы. Філасофскія каноны канфуцыянства і даасізму, будысцкае вучэнне ўплываюць на развіццё яго духоўных асноў. Ствараюцца школы в'ет во даа, дзе прыхільнікі гэтае барацьбы апроч яе тэорыі вывучаюць медыцыну, філасофію, права. З'яўляюцца і падручнікі накшталт «В'етнамскае мастацтва барацьбы».

Пачынаючы з канца XIII і ажно да XVI стагоддзя ў В'етнам пастаянна ўрываюцца кітайскія войскі. У шматлікіх узброеных сутыкненнях ўдасканальваецца і ўзбагачаецца тэхніка в'ет во даа, растуць школы. У XVIII стагоддзі пачаліся ганенні на майстроў кітайскіх школ барацьбы, што закранулі і мніхаў вядомага манастыра Шаалінь. Ратуючыся ад праследаванняў, яны эміґравалі ў розныя краіны, у тым ліку і ў В'етнам, куды і прывезлі з сабою кітайскае ушу.

У XIX стагоддзі В'етнам становіцца французскай калоніяй. Выдаецца закон, які забараняе пад страхам смерці займацца нацыянальнымі відамі барацьбы. На працягу ста гадоў в'ет во даа развівалася ўпотай, у сямейных кланах. У начных трэніроўках, далей ад вачэй чужынцаў перадаваліся ад бацькі да сына сакрэты старажытнае барацьбы.

У 1938 годзе майстар Нгуен Лок папрасіў у свайго настаўніка дазволу пачаць вучыць жадаючых старым метадам в'ет во даа і атрымаў згоду. Сваю школу барацьбы ён назваў вавінам. Нгуен Лок памёр у 1960 годзе, і яго пераемнікам стаў адзін з вучняў, выдатны майстар Ле Санг.

У старажытнасці ў «чыстай» традыцыйнай навуцы в'ет во даа іерархіі вучняў не было. Аднак, улічваючы рост цікавасці да гэтае барацьбы, сход майстроў распрацаваў сістэму ступеняў, якія вызначаюць узровень майстэрства. Класіфікацыя ідзе па паясах, данах і званнях. Уладальнік трэцяга дана атрымлівае званне настаўнік, пятага — майстар, шостага і вышэй — званне майстар-эксперт і чорны пояс. В'ет во даа — адзіная барацьба, у якой можна страціць набытую ступень з-за зніжэння майстэрства.

У нашай краіне в'ет во даа пакуль што шырока не практыкуецца, а вось у суседняй Польшчы развіваецца з поспехам.

Ёсць групы в'ет во даа і ў Мінску. Працуе з імі трэнер цэнтра аздараўленчых сістэм Усходу пры Рэспубліканскім урачэбна-фізкультурным дыспансеры Т. Э. Адамовіч, які ўжо каля чатырнаццаці гадоў займаецца гэтым відам усходняга адзінаборства.

Алесь
**АСТАШОНАК**



Фота Уладзіміра **КАЦАПАВА**

# ГІСТОРЫЯ З ТУАЛЕТАМ

## ВЕРСІЯ

Ноччу з выдавецтва знікла дэфініцыя.

Непрысвечаным: «ДЭФІНІЦЫЯ — кароткае вызначэнне якога-н. паняцця, што адлюстроўвае істотныя прыкметы прадмета ці з'явы» (пераклад з «Словаря иностранных слов»).

Прапажу зусім выпадкова выявіла ўранку малодшая рэдактарка рэдакцыі энцыклапедычных даведнікаў. Збіраючыся везці ў Галоўліт на канчатковае адабрэнне апошні, руплівa выверaны тэкст даведніка «Славутыя мясціны нашага горада», яна надумала раптам зазірнуць на старонку трыста шаснаццатую. Мяне быццам нешта падштурхнула, расказвала яна, я раптам адчула, там нечага не хапае. Дык вось, на гэтай самай няладнай старонцы, у артыкуле «Туалет (прыбіральня) каля нашага тэатра» было ўсё, апроч дэфініцыі. Заставаўся тэкст, дарэчы, акуратна перакрэслены, бо на самым апошнім абмеркаванні даведніка прынялі цвёрдае рашэнне артыкула не даваць,— але дэфініцыю ўсё роўна як карова языком злізала. А яшчэ ж увечары, на абмеркаванні, усе бачылі яе на месцы. У прынцыпе, цяпер, калі не патрэбны быў сам артыкул, і ў дэфініцыі не было ніякае патрэбы, але гісторыя, як кажуць, усплыла, а ў выдавецтве любілі парадак. Замест камісіі па вывучэнні пытання аб мэтазгоднасці ўключэння ў даведнік артыкула «Туалет (прыбіральня) каля нашага тэатра», у складзе пяці чалавек са старшынёю, намеснікам і адказным сакратаром, была тэрмінова створана камісія па вывучэнні абставін прапажы дэфініцыі. Гэта вам не жарты, змрочна заявіў на пазачарговай планёрцы дырэктар, што ў нас дэфініцыі сталі знікаць, так да таго можа дайсці, што і артыкулы прападаць пачнуць. Зайсці ў сваіх меркаваннях далей ён не асмельваўся. Новую камісію ўзначаліў загадчык рэдакцыі сінтаксічнага кантролю, бо раней ён казаў, што да дабра выданне даведніка не прывядзе: выдавецтва спецыялізавалася на выпуску альбомаў і плакатаў, а тут з аднымі коскамі колькі ўсяго напароць можна; але дырэктар хацеў пашырэння дыяпазону дзейнасці, цяпер ён сарамліва гэта замоўчваў.

Складаная была гісторыя з гэтым туалетам, то ж бо з прыбіральняю. Дакладней, з артыкулам пра яе.

Тым, хто жыве ці бываў у нашым горадзе, давялося, пэўна, праходзіць міма нашага тэатра і бачыць каля яго невялічкі сімпатычны будыначак, а то і завітваць туды. Туалет быў пабудаваны ці то ў канцы мінулага стагоддзя, ці то на пачатку цяперашняга паводле праекта аднаго з найлепшых нашых тагачасных дойлідаў. Як, запытаецеся вы, магло так здарыцца, што ён заняўся праектаваннем прыбіральні? Нічога дзіўнага тут няма. Вінаваты быў ва ўсім адзін сквапны і несумленны граф, якога цяпер з такой нянавісцю згадваў дырэктар выдавецтва: не было б графа, дык не было б і прыбіральні, не было б прыбіральні, дык не было б і камісіі па вывучэнні пытання і г. д. Граф запрасіў дойліда спраектаваць яму новы палац, што архітэктар і зрабіў з уласцівымі яму густам і выдумкаю. Але граф падмануў дойліда і не заплаціў яму, як яны дамаўляліся,— архітэктар вырашыў пакараць нахабнага арыстакрата. Ён сам звярнуўся да гарадскіх улад з прапановаю стварыць праект унікальнае прыбіральні. Улады спакусіліся перспектываю мець у горадзе яшчэ адну адметную пабудову, ды яшчэ такога нязвыклага прызначэння, калі ўжо гаварыць пра адметныя пабудовы, тым больш, што дойлід жа быў адзін з найлепшых і цану назваў зусім нізкую. Праз год пасля таго, як пабудавалі прыбіральню, у горад прыехаў той самы несумленны і сквапны граф, і давялося яму наведаць яе і, ведама ж, здзівіцца, бо яна дакладна паўтарала ў мініяцюры ягоны палац, якім ён дужа ганарыўся. Граф перадаў уладам сваё абурэнне і запатрабаваў, каб пабудову знеслі, на што яму быў дадзены адказ: зрабіць гэта немагчыма, бо на яе стварэнне былі адпушчаны сродкі з гарадское казны. Абражаны граф узяўся пакрыць убытак, але незвычайная прыбіральня, падобная на палац, так палюбілася гараджанам, што ўлады не асмеліліся засмуціць іх. Тады граф раз'юшыўся дарэшты і прапанаваў спачатку ўдвая, потым утрая больш таго, чым абышлося казне будаўніцтва прыбіральні. Але бацькі горада пад націскам грамадскасці пайшлі на прынцып: туалет, то ж бо гонар, даражэйшы за грошы. Урэшце, спляжаны судамі, якія ў дзеяннях архітэктара крыміналу не знаходзілі, граф з'ехаў з глузду, пусціўшы на вецер усё, што меў, разам з палацам,— вось як можа быць пакарана несумленнасць.



За сто гадоў існавання прыбіральні мастацтвазнаўцы даследавалі яе ўдоўж і ўпоперак, прыйшоўшы да высновы, што гэта досыць рэдкі помнік «эклектычнага мадэрнізму», які спалучае ў сабе элементы барока, готыкі і рэнесансу», так што і граф, і дойлід, і гарадскія ўлады зрабілі нашчадкам нядрэнную паслугу: грамадзяне з задавальненнем і прыязнасцю наведвалі прыбіральню, а мастацтвазнаўцам было пра што пагаварыць. І ніякіх бы нягод яна не прынесла, калі б у галаве ў дырэктара выдавецтва не ўзнікла раптам ідэя пашырыць дыяпазон дзейнасці.

Гэтая вось, любая сэрцу гараджан, прыбіральня і стала прадметам жорсткіх спрэчак выдавецкіх спецыялістаў і процьмы аўтараў і рэцэнзентаў. Усе сцвярджалі, што, нягледзячы на сваё празаічнае прызначэнне, пабудова гэтая ўсё ж такі ўяўляе сабою пэўную гістарычную і мастацкую каштоўнасць, але ніяк не маглі сысціся ў поглядзе на мэтазгоднасць уключэння артыкула пра яе ў энцыклапедычны даведнік. Асаблівыя цяжкасці выклікала дэфініцыя: ніводная фармуліроўка не здавалася аўтарытэтам бездакорнаю. Усе прагнулі гаварыць пра высокія матэрыі, і ніхто не хацеў апускацца да будзённасці, кожны імкнуўся абысці далікатны момант, бо на ўвесь жа свет вядомая наша сціплая сарамлівасць. Асабліва хітры быў дырэктар: ён і смеласцю марыў праславіцца, і баяўся, каб чаго-небудзь тут ды не выйшла. Увогуле ён меў рацыю ў сваім страху страціць ганаровую пасаду, бо неўзабаве, пачуўшы пра мастацтвазнаўчыя баталіі, у вырашэнне пытання ўмяшаліся адказныя работнікі. Гэта яшчэ больш ускладніла і без таго складаную сітуацыю, нягледзячы на тое, што ў адказных органах была створана кампетэнтная камісія па вырашэнні дадзенага пытання ў складзе дзесяці членаў з работнікаў вышэйшых інстанцый і дваццаці пяці прадстаўнікоў шырокіх колаў грамадскасці. Падрыхтоўка даведніка заканчвалася, пытанне з артыкулам аб прыбіральні было вырашана не на карысць апошняй, як раптам здарылася гэтая нечаканая прыкрасць: уцякла дэфініцыя.

Калі пра гэта даведаліся ў адказных органах, дырэктар выдавецтва атрымаў строгую вымову з яшчэ больш строгім папярэджаннем. Была створана адказная камісія па кантролі за дзейнасцю адпаведнае выдавецкае камісіі. Дужа многім стала млосна, асабліва спецыялістам па рэнесансе: менавіта яны найбольш зацята настойвалі на неўключэнні артыкула ў даведнік, таму што бачылі ў прэцэдэнце ўключэння небяспеку абразы ідэі сацыялістычнага рэалізму ў дачыненні да абуджанай свядомасці дойліда, які паўстаў супроць паганых нораваў буржуазнага грамадства і свайго ў ім рабства,— а ў святле апошніх мастацтвазнаўчых прац нават асобныя адказныя работнікі сталі заўважаць у адстойванні чысціні ідэі сацыялістычнага рэалізму пэўны кансерватызм, шкодны перабудове. Планавалася вялікія змены ў жыцці выдавецтва і аддзелаў вышэйшых інстанцый, якія яго кантралявалі.

І тут раптам аб'явілася ўцякачка-дэфініцыя. Знікла яна, не вытрымаўшы бясконцых вакол сябе спрэчак, а калі ўжо яны захапілі ў сваю арбіту прадстаўнікоў шырокіх колаў грамадскасці, якія раней ніколі не сумняваліся ў карыснасці пабудовы каля тэатра (апошні для многіх з іх быў аб'ектам досыць праблематычнае важнасці), дэфініцыя нарэшце ўзяла дый матэрыялізавалася.

Аднае ночы каля будынка выдавецтва вырас раптам маленькі будыначак рыхтык такое ж прыбіральні, што і каля тэатра, толькі на ёй замест «М» і «Ж» было накрэслена: «Помнік эклектычнага мадэрнізму» і «Спадчына праклятай мінуўшчыны» — менавіта гэтыя тэрміны ўжываліся найчасцей на абмеркаваннях артыкула. Дэфініцыя, заблытаная бясконцымі дыспутамі спецыялістаў і тых, хто іх кантралюе, сама ўжо не ведала, што яна абазначае, і толькі прага жыцця і пачуццё пратэсту прымусілі яе неяк заявіць пра сябе. Але ўжо наступнае ночы будыначак быў знесены, як абразлівы для нашай ідэалогіі. Ды на золку ён зноў узнік на тым самым месцы. Так доўжылася год: уначы будыначак зносілі, але яшчэ да ранку ён упарта вырастаў зноў. Каб не было нездаровай увагі, месца абнеслі нарэшце высокай агароджаю і перасталі весці разбуральныя работы. Аднак асобныя аматары прыгодаў пастаянна спрабавалі туды трапіць, бо, ведама ж, соладка тое, што забаронена. Тады была замацавана за новай прыбіральняю спецыяльная ахова, але неўзабаве яна скацілася на злачынны шлях: усе лічылі за гонар схадзіць да ветру ў забароненай прыбіральні і не шкадавалі дзеля гэтага грошай. Прыбіральня каля тэатра ўпершыню за сваю доўгую гісторыю спазнала занядбанне, а выдавецтва, што скампраметавала сябе замоўчваннем помніка, аганізавала — і ніякія субсідыі адказных органаў не маглі яго ўратаваць: насельніцтва байкатавала застойшчыкаў. Гісторыя з прыбіральняю абрасла такімі падрабязнасцямі, што нядаўна створанае кааператыўнае выдавецтва выпусціла масавым тыражом энцыклапедычны ілюстраваны даведнік «Прыбіральня каля нашага тэатра», які ўмомант разышоўся, і адразу ж наклад быў паўлічаны.

Супакоеная дэфініцыя разматэрыялізавалася. Аднае раніцы, знайшоўшы раптам у легендарным тэксце старога схаванага даведніка дакладнае вызначэнне прыбіральні, архіварыус паказаў тэкст новаму дырэктару выдавецтва, звярнуўшы ўвагу на адсутнасць у выдавецкім двары туалета — засталася адна агароджа і збянтэжаныя ахоўнікі. Неўзабаве дырэктар паўтарыў сумны лёс графа: нябога звар'яцеў, баючыся, каб чаго-небудзь тут ды не выйшла. Колькі ж бедаў здарылася аднachaса: ахоўнікі не толькі засталіся без працы, але і былі ўзятыя пад следства, адказныя органы не ведалі, што рабіць з агароджаю, кааператыўнае выдавецтва квітнела і тым самым канчаткова стала пад сумненне мэтазгоднасць існавання дзяржаўнага.

Што яшчэ расказаць пра нашую знакамітую прыбіральню і звязаны з ёй артыкул? Прыбіральня такая сапраўды існуе ў Мінску каля купалаўскага тэатра ў былым Аляксандраўскім скверы, але не згадваецца ні ў адным з выданняў, нягледзячы на сваё відавочнае значэнне для гісторыі і мастацтва, усё ж астатняе, тут выкладзенае,— мажліва, прадугаданыя падзеі, якія яшчэ чакаюць нас.

**Канстанцін ПЛАТОНАЎ,**
**намеснік міністра**
**ўнутраных спраў БССР,**
**генерал-маёр міліцыі**

АКТУАЛЬНА!

# ВОСТРАЕ КОЛА

Ці можа быць што-небудзь больш жорсткае і несправядлівае, чым недарэчная гібель сотняў людзей?

Я не пра ахвяры землятрусаў, а пра іншае «стыхійнае» бедства, якое штодня збірае сваю страшную даніну. Прычым, здараецца гэта вельмі ціха і будзённа, як па раскладзе. Не ствараюцца ўрадавыя камісіі, не дасылаюцца спачувальныя тэлеграмы ад кіраўнікоў дзяржаў, у краіне не аб'яўляецца жалоба. А ці ведаем мы, што за апошнія суткі на дарогах загінула каля 120 суайчыннікаў?

Дый у нашай рэспубліцы гіне нямала людзей. Толькі летась у 7185 аварыях знайшлі смерць 1480 і атрымалі сур'ёзныя раненні 7430 чалавек.

Дадам — пераважна па сваёй уласнай віне.

Што ж гэта такое? Чаму людзі ідуць на нічым не апраўданую рызыку?

Кожны, упэўнены, выходзячы з дому, свята верыць, што ён у гэты дом вернецца. Што з ім нічога не здарыцца. Праўда, ён недзе чуў, што нехта трапіў пад машыну, але ж гэта ўсяго толькі выпадак, які можа здарыцца, але толькі не з ім.

Прыкладна гэтаксама ж разважае і парушальнік, робячы рызыкоўны кідок цераз праезную частку перад самым носам у «Жыгулёў», што ідуць на вялікай хуткасці. Ён таксама зусім не сумняваецца, што ён спрытны і дужы і ў любым выпадку выйграе двубой з аўтамабілем.

Як жа змагацца з гэтай заганнай псіхалогіяй? Перш за ўсё праз комплекс мер выхаваўчага характару. Паколькі ў працэс дарожнага руху ўцягнуты практычна ўсе, незалежна ад узросту і іх заняткаў.

Выхаванне пачынаецца з дзяцінства і з навучання. Тут самая галоўная, як на маю думку, цяжкасць у тым, што прынцып «рабі, як я» проста непрыдатны. Падрастаючае пакаленне, якое мы вучым дарожным правілам у дзіцячых садочках і школах, перш за ўсё не павінна браць прыклад са сваіх мам і татаў, іншых дарослых, якія самі пераважна з'яўляюцца парушальнікамі. Значыцца, працэс навучання нашых хлопчыкаў і дзяўчынак, сістэма іх пераканання ў тым, што выкананне патрабаванняў бяспекі ім патрэбна як паветра, павінны знаходзіцца на такім якасна высокім узроўні, каб у іх быў выпрацаваны стойкі імунітэт да шкоднага ўплыву паводзін дарослых.

На жаль, нам прыходзіцца сёння пакуль гаварыць пра «якасць» навучання дарожным правілам. На першы погляд, усё здаецца нармальным. У дзіцячых садочках і школах заняткі ідуць па зацверджаных праграмах. З дашкольнікамі і школьнікамі часта праводзяцца розныя віктарыны, гульні і спаборніцтвы на тэмы бяспекі на дарогах. У класных журналах выстаўляюцца ацэнкі, фіксуюцца залікі. Па форме нібыта няма ніякіх пытанняў. А па змесце? Процьма! Дзеці ў рэальнасці вельмі слаба валодаюць азамі аўтаўсенавуча перш за ўсё таму, што самі навучальнікі нярэдка добра «плаваюць» у гэтым прадмеце. Давайце паглядзім, толькі без ружовых акуляраў, хто сёння самы галоўны навучальнік. Гэта часцей за ўсё класная настаўніца, якая выдатна раскажа, як лепей рашыць задачу пра дзве знакамітыя трубы, з адной з якіх вада ўліваецца ў басейн, а з другой з яго выліваецца, але, на жаль, не можа яскрава і даходліва растлумачыць, навошта, скажам, патрэбная дарожная разметка, што такое рэверсіўная паласа і г. д. Прычым, хачу падкрэсліць, настаўніца тут менш за ўсё вінаватая. У педагагічным вучылішчы ці інстытуце яе не ўзброілі методыкай выкладання дарожных правілаў, а добрых, насычаных неабходнай інфармацыяй дапаможнікаў, па якіх яна магла б самастойна падрыхтавацца, мала. Дый часу ёй на гэта не хапае, бо прадмет навучання, пра які ідзе гаворка, пакуль што знаходзіцца ў школах на правах пасынка. Ён пераважна не ў сетцы гадзін, і за яго настаўнік не распісваецца ў ведамасці, атрымліваючы зарплату. Чамусьці лічыцца, што важней навучыць школьніка расшыфроўваць сон Веры Паўлаўны з «Што рабіць?», чым выхаваць з яго дысцыплінаванага пешахода. А нярэдка ж элементарнае няведанне дарожных правілаў можа прывесці да гібелі. Толькі ў 1988 годзе ў рэспубліцы ў 995 аварыях загінулі 131 і атрымалі сур'ёзныя раненні 915 дзяцей. Гэтыя страшныя лічбы — справядлівы папрок усім дарослым, у тым ліку і педагагічным калектывам, і нам, работнікам органаў унутраных спраў, і камсамольскім арганізацыям. Усе разам мы не змаглі пакуль знайсці да нашых дзяцей шляхі, на якіх на самай справе зрабілі б круты паварот у якасці іх навучання дарожным правілам. Камсамольскія арганізацыі, напрыклад, маглі б рэальна дапамагчы педагогам у правядзенні заняткаў, гульняў, спаборніцтваў і тэматычных віктарын, у абсталяванні каля школ хоць бы найпрасцейшых аўтапляцовак, на якіх можна было б адпрацоўваць з дзецьмі элементарныя азы паводзін на дарозе. Тым больш, што за кожнай школаю замацаваны шэфы — прадпрыемствы, арганізацыі, установы,— на якіх працуе багата камсамольцаў-аўтамабілістаў, знаёмых з праблемамі і звязаных з аўтамабілізацыяй напрамую. Што да Дзяржаўтаінспекцыі, дык яна заўсёды гатовая дапамагчы ў гэтай высакароднай справе энтузіястам-камсамольцам і ў метадычных, і ў практычных адносінах.

Сёння і педагогі, і міліцыянеры, і камсамольцы павінны па зярнятках збіраць і распаўсюджваць наяўны перадавы вопыт па павышэнні якасці аўтаўсенавуча. А ён ёсць. Напрыклад, у Партызанскім раёне Мінска пайшлі, на нашу думку, па цікавым шляху. У школах раёна прадмет «Правілы дарожнага руху» выкладаюць не класныя кіраўнікі, а кампетэнтныя ў пытаннях аўтамабілізацыі педагогі, якія за гэта атрымліваюць зарплату ў цвёрдых рублях за кошт сродкаў, якія выдзяляюць на гуртковую і клубную работу. Чым не выйсце са становішча, якое ў многіх школах лічыцца тупіковым!

Другая, не менш важная сфера выкарыстання камсамольскіх сіл — выхаванне ўсёй моладзі ў духу неабходнасці строгага выканання правілаў дарожнага руху. Гэта важна таму, што моладзі ўласцівыя непаседлівасць, імкненне выявіць сябе ў рызыкоўных сітуацыях. Давайце паглядзім, каго больш сярод пешаходаў і матарызаваных удзельнікаў дарожнага руху? Вядома, моладзі! Гэта яна складае большую і лепшую частку, як пісалі Ільф і Пятроў, большай і лепшай паловы чалавецтва-пешаходаў. Гэта яна пераважна сядзіць за рулём грузавікоў і аўтобусаў, таксі і матацыклаў. На жаль, яна ж з'яўляецца і галоўным удзельнікам канфліктных сітуацый на праезнай частцы. Вось чаму так важна навучыць яе не трапляць у такія сітуацыі, а калі ўжо трапіў, дык выходзіць з іх з гонарам.

У большасці сваёй маладыя людзі вучацца і працуюць у калектывах. Важна, каб яны не заставаліся абыякавыя да прафілактычнай работы, якая павінна там праводзіцца. Намаганні ў гэтым накірунку трэба прымаць рашучыя. Напрыклад, у адпаведнасці з Пастановаю ЦК КПСС 1987 года «Аб руху за калектыўную гарантыю працоўнай і грамадскай дысцыпліны» ўсе прадпрыемствы, установы і арганізацыі нясуць адказнасць за паводзіны свайго работніка не толькі на рабочым месцы, але і на вуліцы. У тым ліку і за выкананне ім правілаў дарожнага руху. Чэрвеньская, леташняя, Пастанова Савета Міністраў БССР «Аб мерах па забеспячэнні бяспекі руху на аўтамабільным і чыгуначным транспарце рэспублікі» абавязвае працоўныя калектывы арганізоўваць навучанне рабочых і служачых дарожным правілам, стварыць камісіі па забеспячэнні бяспекі дарожнага руху, якія павінны каардынаваць усю прафілактычную работу. Безумоўна, у выкананні гэтых і іншых функцый могуць і павінны граць не апошнюю скрыпку моладзь, камсамольцы. Каму, як не ім, выпускаць, напрыклад, нумары «Камсамольскага пражэктара» з крытычнымі матэрыяламі аб парушальніках дарожнай бяспекі, стаць ініцыятарам навучання дарожным правілам максімальнай колькасці людзей. На жаль, пакуль гэтая работа на пазатранспартных прадпрыемствах і ў арганізацыях праводзіцца далёка не лепшым чынам. І тут для моладзі мы бачым, як у папулярнай камсамольскай песні, «непочатое море работы».

Скажу яшчэ больш шчыра: часам нам бывае вельмі цяжка выконваць свае задачы без актыўнай дапамогі насельніцтва. Таму і стараемся, як можам, зацікавіць людзей нашымі праблемамі, не саромімся гаварыць пра недахопы ў сваёй рабоце, прасіць, калі трэба, падтрымкі. Ужо трэці год, напрыклад, сумесна з Беларускім таварыствам аўтамотааматараў праводзім конкурс сярод уладальнікаў асабістага транспарту. Па сутнасці сваёй, па задуме — добрая справа. Рыхтуем і кадры настаўнікаў маладых вадзіцеляў, дый сама моладзь ахвотна прымае ў ім удзел, набіраецца вопыту. Мы ж са свайго боку стараемся усялякі зацікавіць яе, заахвочваць і маральна, і матэрыяльна. Але бяда ў тым, што на месцах, у раёнах кіраўнікі таварыства актыўную работу з індуладальнікамі пачынаюць праводзіць толькі перад спаборніцтвамі. І робіцца крыўдна за такое абыякавае стаўленне да важнае справы.

Сумесна з Саюзам журналістаў і тым самым таварыствам праводзім мы і другі конкурс — сярод газет на лепшае асвятленне пытанняў бяспекі руху. Заахвочваем калектывы, асобных аўтараў. Аднак практычная аддача ад работнікаў пяра пакуль што таксама невялікая. Няма сур'ёзнай пастаноўкі пытанняў узаемаадносін моладзі, вуліцы, транспарту. У друку рэдка з'яўляюцца матэрыялы па-сапраўднаму надзённыя, вострыя. А яны сёння патрэбныя як ніколі раней. Напрыклад, праблема матацыкліста.

З кожных 10 аварый, якія адбыліся летась па віне вадзіцеляў,— 4 на сумленні матацыклістаў. Не будзем забывацца, што гэта зазвычай маладыя людзі ва ўзросце ад 16 да 26 гадоў. Феномен такой папулярнасці гэтага віду транспарту сярод моладзі недастаткова вывучаны, але можна сцвярджаць, што сакрэт гэтага — у даступнасці, у адносна невысокай цане двухколавых машын. І што яшчэ тут вабіць моладзь, дык гэта хуткасныя магчымасці, манеўранасць матацыклаў. На жаль, гэтымі **якасцямі** моладзь часта карыстаецца няўмела. Нярэдкія таксама выпадкі кіравання ў нецвярозым стане, без вадзіцельскіх пасведчанняў. І таму ёсць тлумачэнне. У сельскай мясцовасці, дзе больш за ўсё папулярны матацыкл, няма такога кардона міліцыі, які б стрымліваў маладых людзей ад неабдуманых дзеянняў. Эфемерная свабода правакуе іх на бессэнсоўныя і рызыкоўныя гонкі па бездарожжы, браваду перад равеснікамі сваёй уседазволенасцю. Скажыце, які з нармальным розумам чалавек будзе ехаць па начной дарозе без святла, ды яшчэ пасадзіўшы на свой бескалясны матацыкл ажно траіх дарослых пасажыраў, як гэта, напрыклад, зрабіў семнаццацігадовы Сяргей Бернюкевіч у Астравецкім раёне. У дзве гадзіны ночы, пасля танцаў, пасадзіўшы на матацыкл аднаго хлопца і дзвюх дзяўчын, юнак рушыў у дарогу. На жаль, была яна нядоўгая. Каля вёскі Міхалішкі нераспазнавальны ў цемры «ІЖ» сутыкнуўся з сустрэчным матацыклам, на якім імчаўся семнаццацігадовы Юрый Сымановіч. Раптоўная лабавая атака збянтэжыла абодвух нявопытных вадзіцеляў. (Дарэчы, ніводны з іх не меў вадзіцельскіх пасведчанняў катэгорыі «А».) Скрыгат металу, крык, стогны, перадсмяротныя заклікі аб дапамозе... Усё гэта стала апошнім акордам гэтай сумнай гісторыі. Вось страшныя лічбы: летась па віне матацыклістаў у рэспубліцы здарылася 1971 аварыя, загінулі 343 і паранены 2081 чалавек.

Супрацоўнікі органаў унутраных спраў нямала сіл прыкладаюць для выпраўлення цяперашняга становішча. Аднак практыка паказвае, што аднымі ўгаворамі і забаронамі справу з мёртвай кропкі не зрушыць. Неабходна цесная сувязь з камсамолам, арганізацыямі ДТСААФ, грамадскасцю. На жаль, складваецца ўражанне, што праблем сельскіх матацыклістаў ніхто, апроч ДАІ, не заўважае. Чаму так марудна разгортваецца арганізацыя мотасекцый і гурткоў? Чаму няма магчымасці хлопцам з аддаленых вёсак атрымаць тэарэтычныя веды і практычныя ўменні? Пакуль што гэтыя важныя пытанні застаюцца без адказу. А падлеткі, не маючы ні правоў, ні дастатковай падрыхтоўкі, ганяюць па начных вуліцах і прасёлках, падвяргаючы сябе і іншых смяротнай небяспецы.

Думаецца, што моладзь не павінна заставацца абыякавай да жыцця і здароўя сваіх равеснікаў.



# ІЗНОЎ ВІЦЕБСКІЯ МАСТАКІ

> ...он (Шагал) поднял местечко до мироздания, в то время как столько художников опускают мироздание до местечка.
>
> Юрий НАГИБИН

«Я даведаўся пра Пэна, калі ехаў на трамваі, што спускаўся да Саборнай плошчы, і паспеў прачытаць шыльду. На сінім тле белымі літарамі: «Школа малявання Пэна». Ах, падумаў я, які інтэлігентны горад наш Віцебск!»

Так пісаў пра Віцебск Марк Шагал.

Пасля сціплай пэнаўскай школы малявання інтэлігентны Віцебск падараваў свету яшчэ дзве школы — Шагалаву і Малевічаву. Але гэта ўсё славутае мінулае. А што цяпер?

А цяпер Віцебск зноў сціплы інтэлігентны горад, дзе працуюць сумленныя мастакі, што любяць сваё «мястэчка». У гэтым нумары «Крыніцы» мы запрашаем чытачоў наведаць выставу габеленаў Таццяны і Юрыя Рудэнка, членаў аб'яднання «Квадрат».






«КАМПРАМІС» на выстаўцы «КВАДРАТА»



«АБПАЛЬВАЮЧЫМ КРЫЛЫ»



«ЗЯМЛЯ»



«ВЕЧНЫ МАТЫЎ»



«УСХОД»

Экспазіцыя «КВАДРАТА» да 110-годдзя К. Малевіча



«КАМПРАМІС», фрагмент



